

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ



1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.



№ 12(95) Сьнежань 2001 December Год выд. 9.




## Вясёлых Калядаў!!! Шчасьлівага Новага 2002-га Году!!!





**Сп-ня Вера і др. Вітаўт РАМУК —** актыўныя нацыянальна-грамадзкія ды рэлігійныя дзеячы ў Чыкага, ЗША., дзейныя працаўнікі на ніве беларускага адраджэньня, вялікія патрыёты свайго народу.

Дарагія Вера і Вітаўт! Вітаем Вас на бачынах нашае незалежнае газэты.

# КАЛЯДЫ

*Сьвятое Ражство радасьць прынясло...*

Ражство Хрыстова — хрысьціянскае сьвята, якое прыпадае на 25-га сьнежня. Але ў календарах каталіцкай і праваслаўнай канфэсіяў гэтая дата азначае не адзін і той-жа дзень У каталікаў яна адназначна адпавядае сучаснаму афіцыйнаму календару, а ў праваслаўных вернікаў — дню 7-га студзеня.

Як вядома, хрысьціянскі сьвет амаль што на пачатку свайго ўтварэньня вёў летазьлічэньне па юліянскім календары, у якім Ражство Хрыстова вызначалася апошнім днём зімовага сонцастаяньня, а Новы год пачынаўся на сёмы дзень пасьля нараджэньня Ісуса Хрыста. Гэты каляндар увёў у 46-м годзе да нашай эры рымскі імпэратар Юлій Цэзар. Юліянскі каляндар, нажаль, быў не зусім дакладны ў падліку часу, у выніку чаго да сярэдзіны ХУ1 ст. каляндарныя дні адставалі ад астранамічнага году на 13 дзён. Таму ў 1582 годзе папа рымскі Грыгоры XII, адкуль і паходзіць назва — грыгарыянскі каляндар, правёў рэформу календара адпаведна ўдакладненых астранамічных зьвестак.

Праваслаўная-ж царква не падтрымала падобнай рэформы календара і па-ранейшаму прытрымлівалася летазьлічэньня старога стылю. І хоць у 1918 годзе адміністрацыйнымі коламі была праведзена рэформа календара адпаведна эўрапейскай, праваслаўнае крыло хрысьціянства ў гэтым пытаньні засталося да цяперашняга часу на старых пазыцыях. Таму і сёньня даты каталіцкага і праваслаўнага календароў не супадаюць і маюць розьніцу ў 13 дзён.

Ісус Хрыстос нарадзіўся ў Віфлееме недалёка ад Ерусаліму ў сям'і цесьлера Ёсіфа і Дзевы Марыі. У той час рымскі імпэратар Аўгуст загадаў правесьці перапіс насельніцтва на ўсіх падначаленых яму землях. Народныя перапісы вяліся па плямёнах і родах, непасрэдна ў тых насельных пунктах, адкуль былі выхадцы таго ці іншага роду. Паколькі праведны Ёсіф і прасьвятая Марыя паходзілі ад роду цара Давіда, яны павінны былі ісьці ў места сваіх прадзедаў — Віфлеем. Места было перапоўнена, і таму Ёсіф і Марыя ўладкаваліся на начлег за местам у выкапнёвай пячэры, у якой утрымлівалі жывёлу. У гэту-ж ноч прасьвятая Марыя нарадзіла Ісуса.



Сьвяткаваньне Ражства Хрыстова ў народзе пачынаецца 24 сьнежня (6 студзеня) з усходам першай вячэрняй зоркі, якая нібыта абвяшчае ўсяму сьвету аб часе нараджэньня Сына Божага. Са зьяўленьнем такой зоркі ў хрысьціянскіх вернікаў заканчваецца піліпаўскі пост і пачынаецца Каляднае сьвяткаваньне. Перад абразамі запальваюць сьвечкі, моляцца Богу і ўсёй сям'ёй вячэраюць.

На наступны дзень вечарам, падобна калядоўшчыкам, пачыналі хадзіць зьвездары, якія абыходзілі хаты з духоўнымі песьнямі і віншавалі іх з Ражстом Хрыстовым. Зьвездары насілі з сабой зорку як сымвал Віфлеемскай зоркі, што абвясьціла людзям аб нараджэньні Сына Божага.

У. Сысоў

+++++++++++++++++++++++++



**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Праект Акту аб дэмакратыі ў Беларусі

## Прапанаваны сенатарам Джэсі Гэлмсам

***Сэнат ЗША разглядае праект Закону Аб спрыяньні дэмакратыі, прынцыпам прававой дзяржавы ў Беларусі і абароне беларускага сувэрэнітэту і незалежнасьці***

**Разьдзел 1. Кароткі назоў**
Гэты Закон прапануецца назваць «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2001».

**Разьдзел 2. Выяўленыя факты**
Кангрэс выявіў, што —
(1) Злучаныя Штаты жыцьцёва зацікаўленыя ў кансалідацыі і ўмацаваньні незалежнасьці і сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь і ў яе інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць дэмакратычных дзяржаваў;
(2) Злучаныя Штаты падтрымваюць спрыяньне дэмакратыі, прынцыпам прававой дзяржавы і павазе да правоў чалавека ў Беларусі;
(3) у лістападзе 1996 году беларускі прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка арганізаваў супярэчны закону і канстытуцыі рэфэрэндум, які дазволіў яму навязаць беларускаму народу новую канстытуцыю, распусьціць стары парлямэнт — Вярхоўны Савет XIII скліканьня, замяніць яго паслухмяным заканадаўчым ворганам і падоўжыць свае паўнамоцтвы да 2001 году;
(4) у траўні 1999 году беларуская апазыцыя аспрэчыла незаконнае падаўжэньне Лукашэнкам свайго прэзыдэнцкага тэрміну, арганізаваўшы альтэрнатыўныя прэзыдэнцкія выбары, на якія ўлады адказалі рэпрэсіямі;
(5) беларуская апазыцыя арганізоўвала мірныя дэманстрацыі супраць рэжыму Лукашэнкі ў вялікіх і малых гарадах па ўсёй Беларусі, сярод іх — Марш-Свабоды-І 17 кастрычніка 1999 году, Марш Свабоды-ІІ 15 сакавіка 2000 году, Чарнобыльскі Шлях 26 красавіка 2000 году, якія адбываліся ў Менску і ў якіх бралі ўдзел дзясяткі тысячаў беларусаў;
(6) рэжым Лукашэнкі адказаў на гэтыя мірныя шэсьці жорсткімі нападамі сілаў бясьпекі, масавымі арыштамі, працяглымі затрыманьнямі і зьбіцьцём;
(7) Андрэй Клімаў, дэпутат апошняга дэмакратычна абранага парлямэнту Беларусі, надалей утрымліваецца ў зьняволеньні пры цяжкіх умовах за палітычны супраціў Лукашэнку;
(8) Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі і Юры Захаранка — кіраўнікі і прыхільнікі апазыцыі — зьніклі пры таямнічых абставінах;
(9) былыя беларускія дзяржаўныя службоўцы, у тым ліку чатыры супрацоўнікі праваахоўных ворганаў, выступілі з вартымі даверу заявамі і сьведчаньнямі наконт таго, што высокапастаўленыя чыноўнікі рэжыму Лукашэнкі мелі дачыненьне да забойства дзеячоў апазыцыі Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зьмітра Завадзкага ды дзясяткаў іншых людзей;
(10) рэжым Лукашэнкі сыстэматычна цкуе і перасьледуе незалежныя сродкі масавай інфармацыі і актыўна душыць праявы свабоды слова і выказваньня;
(11) Зьміцер Завадзкі, апэратар расейскай грамадзкай тэлевізіі, вядомы сваімі крытычнымі рэпартажамі пра рэжым Лукашэнкі, зьнік пры таямнічых абставінах;
(12) рэжым Лукашэнкі выступае з нападкамі на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, Рыма-Каталіцкую Царкву, эвангельскія цэрквы ды іншыя рэлігійныя меншасьці;
(13) Лукашэнка падтрымвае і актыўна праводзіць у жыцьцё ідэю аб'яднаньня Беларусі з Расеяй, распачаў у гэтай справе перамовы і 8 сьнежня 1999 году падпісаў Беларуска-Расейскую Саюзную Дамову, ня маючы на гэта неабходных канстытуцыйных паўнамоцтваў;
(14) беларуская апазыцыя асуджае гэтыя спробы і неаднаразова заклікала міжнародную супольнасьць «недвухсэнсоўна абвясьціць аб непрызнаньні любых міжнародных дамоваў, падпісаных Лукашэнкам»;
(15) Злучаныя Штаты, Эўрапейскі Зьвяз, Парлямэнцкая Асамблея НАТО, Парлямэнцкая Асамблея АБСЭ ды іншыя міжнародныя арганізацыі надалей прызнаюць Вярхоўны Савет XIII скліканьня законным парлямэнтам Беларусі;
(16) праведзеныя Лукашэнкам 15 кастрычніка 2000 году парлямэнцкія выбары супярэчылі закону і канстытуцыі;
(17) гэтыя выбары суправаджаліся грубымі парушэньнямі правоў чалавека з боку рэжыму, улучна з цкаваньнем, зьбіцьцём, арыштамі і зьняволеньнем дзеячоў апазыцыі;
(18) гэтыя выбары былі праведзеныя пры адсутнасьці дэмакратычнага выбарчага заканадаўства;
(19) прэзыдэнцкія выбары верасьня 2001 году былі несправядлівыя ў самой сваёй аснове і адзначыліся істотнымі і злоснымі парушэньнямі з боку рэжыму Лукашэнкі, якія ўключалі ў сябе –
(A) цкаваньне, арышты і зьняволеньне лідэраў апазыцыі;
(B) адмову апазыцыйным кандыдатам у роўным і справядлівым доступе да сродкаў інфармацыі, пераважна кантраляваных дзяржавай;
(C) канфіскацыю абсталяваньня і маёмасьці незалежных няўрадавых арганізацыяў і друкарняў, цкаваньне іх кіраўнікоў і супрацоўнікаў;
(D) непразрыстасьць працэсу галасаваньня і падліку галасоў;
(E) кампанію запалохваньня, скіраваную супраць актывістаў апазыцыі, мясцовых арганізацыяў назіраньня за выбарамі, апазыцыі і незалежных сродкаў масавай інфармацыі; кампанію паклёпу ў сродках масавай інфармацыі, скіраваную супраць міжнародных назіральнікаў;
(F) апошнія парлямэнцкія выбары ў Беларусі, прызнаныя міжнароднай супольнасьцю свабоднымі і справядлівымі, адбыліся ў 1995 годзе, у выніку чаго быў абраны Вярхоўны Савет XIII скліканьня, чыю дэмакратычна і канстытуцыйна атрыманую ўладу і паўнамоцтвы ўзурпаваў аўтарытарны рэжым Аляксандра Лукашэнкі.

**Разьдзел 3. Дапамога ў спрыяньні дэмакратыі і грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі**
(a) МЭТЫ ДАПАМОГІ. – Дапамога, пра якую будзе йсьці гаворка ў гэтым разьдзеле, будзе выдзяляцца на тое, каб:
(1) Дапамагчы народу Беларусі адваяваць сваю свабоду і даць яму магчымасьць далучыцца да міжнароднай супольнасьці дэмакратычных дзяржаваў.
(2) Аднавіць і ўмацаваць у Беларусі інстытуты дэмакратычнага кіраваньня.
(3) Заахвоціць правядзеньне ў Беларусі свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх і парлямэнцкіх выбараў у адпаведнасьці зь міжнародна прынятымі стандартамі і пад наглядам міжнародна прызнаных назіральнікаў.
(4) Падтрымаць і ўзмацніць міжнародныя санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі ў Беларусі.
(b) УПАЎНАВАЖАНЬНЕ НА ВЫДЗЯЛЕНЬНЕ ДАПАМОГІ. – Для дасягненьня мэтаў, пералічаных у падразьдзеле (a), Прэзыдэнт упаўнаважваецца выдзяляць дапамогу ды іншыя формы падтрымкі на дзейнасьць, апісаную ў падразьдзеле (c), і перадусім для беларускіх палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў у самой Беларусі.
(c) ДЗЕЙНАСЬЦЬ, НА ЯКУЮ ВЫДЗЯЛЯЕЦЦА ДАПАМОГА. – Дзейнасьць, на якую можа выдзяляцца згаданая ў падразьдзеле (b) дапамога, уключае ў сябе –
(1) дзейнасьць дэмакратычных сілаў, у тым ліку палітычных партыяў, скіраваную на пашырэньне дэмакратыі і абарону незалежнасьці і сувэрэнітэту Беларусі;
(2) пабудову дэмакратыі;
(3) радыё- і тэлевяшчаньне на Беларусь;
(4) разьвіцьцё і падтрымку няўрадавых арганізацыяў як у Беларусі, гэтак і ў эміграцыі, якія спрыяюць дэмакратыі і бароняць правы чалавека;
(5) разьвіцьцё незалежных сродкаў масавай інфармацыі, якія дзейнічаюць у Беларусі і за яе межамі і абапіраюцца на недзяржаўныя друкарні;
(6) міжнародны абмен і праграмы прафэсійнай падрыхтоўкі для кіраўнікоў і актывістаў дэмакратычных сілаў з мэтай удасканаленьня навыкаў, неабходных для разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці;
(7) разьвіцьцё ўсіх элемэнтаў дэмакратычнага працэсу, у тым ліку арганізацыі палітычных партыяў і досьведу правядзеньня свабодных і справядлівых выбараў.
(d) УПАЎНАВАЖАНЬНЕ НА АСЫГНАВАНЬНЕ. –
(1) АГУЛЬНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ. – Даецца ўпаўнаважаньне на асыгнаваньне Прэзыдэнту 30.000.000 даляраў на 2002-гі фінансавы год.
(2) НАЯЎНАСЬЦЬ СРОДКАЎ. – Сумы, асыгнаваныя ў адпаведнасьці з параграфам (1), будуць наяўныя для ўжытку да поўнай іх затраты.

**Разьдзел 4. Выдзяленьне сродкаў на радыёвяшчаньне ўнутры Беларусі і на Беларусь**
(a) АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ. – Мэта гэтага разьдзелу – павялічыць падтрымку незалежнаму і нецэнзураванаму радыёвяшчаньню ўнутры Беларусі і на Беларусь, якое б дапамагло пашырэньню інфармацыі праз каналы, непадкантрольныя ўраду Лукашэнкі.
(b) ВЫДЗЯЛЕНЬНЕ СРОДКАЎ. – Ня менш за 5.000.000 даляраў з агульнай сумы, згаданай у Разьдзеле 3, будзе выдзелена выключна на праграму спрыяньня і падтрымкі незалежнага радыёвяшчаньня ў Беларусі і на Беларусь у дыяпазонах *AM* і *FM*, у тым ліку праграмаў Голасу Амэрыкі і Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода.
(c) СПРАВАЗДАЧНАСЬЦЬ У ПЫТАНЬНІ РАДЫЁВЯШЧАНЬНЯ Ў БЕЛАРУСІ І НА БЕЛАРУСЬ. – Не пазьней, чым праз 120 дзён пасьля ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту, дзяржаўны сакратар падасьць Камітэту замежных дачыненьняў Сэнату і Камітэту міжнародных дачыненьняў Палаты Прадстаўнікоў справаздачу аб тым, як сродкі, выдзеленыя ў адпаведнасьці з падразьдзелам (b), будуць ужытыя для пашырэньня радыёвяшчаньня ў дыяпазонах *AM* і *FM*, якое б ахапляла тэрыторыю Беларусі і несла народу Беларусі інфармацыю, свабодную ад цэнзуры ўраду Лукашэнкі.

**Разьдзел 5. Санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі**
(a) УЖЫВАНЬНЕ ЗАХАДАЎ. – Санкцыі, апісаныя ў гэтым разьдзеле і ў разьдзелах 6, 8 і 9, будуць ужывацца ў дачыненьні да Беларусі, пакуль Прэзыдэнт ня вырашыць і не засьведчыць перад адпаведнымі камітэтамі Кангрэсу, што ўлады Беларусі зрабілі значны прагрэс у выкананьні ўмоваў, апісаных у падразьдзеле (b).
(b) УМОВЫ. – Згаданыя ў падразьдзеле (a) умовы гэткія:
(1) Вызваленьне ўсіх асобаў, якія былі зьняволеныя за іх палітычныя погляды.
(2) Адкліканьне ўсіх палітычна матываваных судовых абвінавачаньняў супраць усіх дзеячоў апазыцыі.
(3) Прадстаўленьне поўнай справаздачы аб тых лідэрах апазыцыі і журналістах, улучна зь Віктарам Ганчаром, Анатолем Красоўскім, Юрыем Захаранкам і Зьмітром Завадзкім, якія зьніклі пры таямнічых абставінах; пакараньне ўсіх адказных за гэтыя зьнікненьні.
(4) Спыненьне ўсіх формаў перасьледу і рэпрэсіяў супраць незалежных сродкаў масавай інфармацыі, няўрадавых арганізацыяў і палітычнай апазыцыі.
(5) Правядзеньне свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх і парлямэнцкіх выбараў.
(c) МІЖНАРОДНЫЯ ФІНАНСАВЫЯ ЎСТАНОВЫ. – Міністэрства Фінансаў Злучаных Штатаў дасьць рэкамэндацыі сваім выканаўчым дырэктарам у міжнародных фінансавых установах выступаць і галасаваць супраць любога выдзяленьня гэтымі ўстановамі любой фінансавай дапамогі любога віду (улучна з тэхнічнай дапамогай і грантамі) Ураду Беларусі, за выключэньнем пазыкаў і дапамогі, неабходных для забесьпячэньня асноўных гуманітарных патрэбаў.
(d) ВЫЗНАЧЭНЬНЕ МІЖНАРОДНЫХ ФІНАНСАВЫХ УСТАНОВАЎ. – У гэтым разьдзеле пад тэрмінам «міжнародныя фінансавыя ўстановы» разумеюцца Міжнародны Валютны Фонд, Міжнародны Банк Рэканструкцыі і Разьвіцьця, Міжнародная Асацыяцыя Разьвіцьця, Міжнародная Фінансавая Карпарацыя, Шматбаковае Агенцтва Гарантыі Інвэстыцыяў і Эўрапейскі Банк Рэканструкцыі і Разьвіцьця.

**Разьдзел 6. Блякаваньне беларускіх актываў у Злучаных Штатах**
(a) БЛЯКАВАНЬНЕ АКТЫВАЎ. – Гэтым Актам блякуецца ўся маёмасьць і працэнты з маёмасьці, у тым ліку ўсе гандлёвыя, прамысловыя або абслуговыя прадпрыемствы або гаспадарчыя аб'екты, якія цалкам або часткова належаць Ураду Беларусі або любому прадстаўніку найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі і знаходзяцца або апынуцца ў будучыні на тэрыторыі Злучаных Штатаў, або якія знаходзяцца або апынуцца ў будучыні пад кантролем або ў валоданьні асобаў Злучаных Штатаў, улучна зь іх замежнымі філіяламі.
(b) АЖЫЦЦЯЎЛЕНЬНЕ ПАЎНАМОЦТВАЎ. – Міністар фінансаў, кансультуючыся зь дзяржаўным сакратаром, будзе прадпрымаць згаданыя дзеяньні, у тым ліку выдаваць распараджэньні, загады, дырэктывы, пастановы, інструкцыі і ліцэнзіі, а таксама ўжываць усе паўнамоцтвы, нададзеныя Прэзыдэнту на падставе Акту аб надзвычайных міжнародных эканамічных паўнамоцтвах, калі гэта будзе неабходна для выкананьня падразьдзелу (a).
(c) ЗАБАРОНЕНЫЯ ПЕРАЛІЧЭНЬНІ. – Банкавыя пералічэньні, забароненыя на моцы падразьдзелу (b), улучаюць у сябе пералічэньні і пераводы любой маёмасьці або любыя трансакцыі, зьвязаныя зь пераводам усяго, што можа мець эканамічную вартасьць, любой асобай Злучаных Штатаў Ураду Беларусі або любой фізычнай або юрыдычнай асобе, якія дзейнічаюць ад імя Ураду Беларусі, або падуладнай гэтаму Ураду або кантраляванай ім непасрэдна або ўскосна, або любому іншаму прадстаўніку найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі.
(d) АПЛАТА ВЫДАТКАЎ. – Усе выдаткі, зьвязаныя з блякаваньнем і ўтрыманьнем маёмасьці, заблякаванай у адпаведнасьці з падразьдзелам (a), будуць ускладзеныя на ўладальнікаў або апэратараў гэткай маёмасьці, пры гэтым выдаткі ня будуць аплочаныя з блякаваных фондаў.
(e) ЗАБАРОНЫ. – Наступныя дзеяньні будуць забароненыя ад дня ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту:
(1) Экспарт любому суб'екту, прыналежнаму, кантраляванаму або кіраванаму непасрэдна або ўскосна Урадам Беларусі, любых тавараў, тэхналёгіяў або паслугаў, як—
(A) са Злучаных Штатаў;
(B) калі пры гэтым неабходнае атрыманьне ад Фэдэральнага агенцтва ліцэнзіі на экспарт; гэтак і
(C) зьвязаны з выкарыстаньнем зарэгістраваных у Злучаных Штатах караблёў або самалётаў, або любая дзейнасьць, што спрыяе або разьлічаная на спрыяньне такому экспарту.

 



(2) Выкананьне любой асобай Злучаных Штатаў любых кантрактаў, у тым ліку фінансавых, скіраваных на падтрымку прамысловых, гандлёвых або абслуговых прадпрыемстваў, кіраваных, кантраляваных Урадам Беларусі або прыналежных яму.

(f) ВЫКЛЮЧЭНЬНІ. – Насуперак усім іншым палажэньням гэтага разьдзелу, гэты разьдзел не датычыцца –

(1) дапамогі, прадугледжанай у разьдзелах 3 і 4 гэтага Акту;

(2) матэрыялаў, апісаных у разьдзеле 203(b)(3) Акту аб надзвычайных міжнародных эканамічных паўнамоцтвах; або

(3) матэрыялаў, дасланых у Беларусь у якасьці нуманітарнай дапамогі.

(g) ЮРЫДЫЧНАЕ ТЛУМАЧЭНЬНЕ. – Гэтым Актам не забараняюцца любыя кантракты або іншыя фінансавыя трансакцыі зь любымі прыватнымі асобамі або няўрадавымі арганізацыямі і фірмамі ў Беларусі.

**Разьдзел 7. Забарона ўезду ў Злучаныя Штаты беларускім афіцыйным асобам**

Кангрэс лічыць, што Прэзыдэнту належыць ужыць свае паўнамоцтвы ў адпаведнасьці з разьдзелам 212(f) Акту аб іміграцыі і грамадзянстве (Зб. Зак. ЗША, 8, 1182(f)) і часова пазбавіць права на ўезд у Злучаныя Штаты любога замежнага грамадзяніна, які—

(1) займае пасаду ў найвышэйшым кіраўніцтве Беларусі; або

(2) зьяўляецца сужэнцам, непаўнагадовым дзіцём або прадстаўніком асобы, якой забаронены ўезд на падставе параграфу (1).

**Разьдзел 8. Забарона стратэгічнага экспарту ў Беларусь**

Кампутары, праграмнае забесьпячэньне, тавары, прызначаныя для вытворчасьці або абслугоўваньня кампутараў, тэхналёгіі, прызначаныя для вытворчасьці або абслугоўваньня кампутараў, або любыя іншыя тавары ці тэхналёгіі ня могуць быць экспартаваныя Ўраду Беларусі або для ўжытку Ўраду Беларусі або гэткіх структураў гэтага ўраду:

(1) Войска.

(2) Міліцыі.

(3) Сыстэмы турмаў.

(4) Службаў нацыянальнай бясьпекі.

**Разьдзел 9. Забарона на пазыкі і інвэстыцыі**

(a) ФІНАНСАВАНЬНЕ ЎРАДАМ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ. – Ніякія пазыкі, крэдытныя гарантыі, страхоўкі, фінансаваньне або іншыя віды фінансавай дапамогі ня могуць быць выдзеленыя Ўраду Беларусі ніякім урадавым агенцтвам Злучаных Штатаў (у тым ліку Экспартна-Імпартным Банкам і Карпарацыяй Замежнага Прыватнага Інвэставаньня).

(b) ГАНДАЛЬ І РАЗЬВІЦЬЦЁ. – Ніякія выдзеленыя законам сродкі ня могуць быць прызначаныя на дзейнасьць Агенцтва Гандлю і Разьвіцьця ў Беларусі або для Беларусі.

(c) ДЗЕЯНЬНІ ТРЭЦЯЙ КРАІНЫ. – Кангрэс заклікае дзяржаўнага сакратара заахвоціць усе іншыя краіны, асабліва краіны Эўропы, прыпыніць усе іх праграмы падтрымкі Ўраду Беларусі, падобныя да апісаных у падразьдзелах (a) і (b), у тым ліку праграмы пераразьмеркаваньня сплаты запазычанасьцяў гэтага ўраду пры больш спрыяльных умовах.

(d) ЗАБАРОНА ПРЫВАТНАГА КРЭДЫТАВАНЬНЯ. – Ніякая асоба Злучаных Штатаў ня можа выдаць або зацьвердзіць ніякую пазыку або нейкае іншае крэдытаваньне непасрэдна або ўскосна Ўраду Беларусі або любой карпарацыі, кампаніі ці іншай арганізацыі, якая належыць Ўраду Беларусі, кіруецца або кантралюецца ім.

**Разьдзел 10. Адмова ў стасаваньні абагульненай сыстэмы спрыяньня (асп)**

(a) ВЫЯЎЛЕНЫ ФАКТ. – Кангрэс выявіў, што Ўрад Беларусі не жадае паважаць міжнародна прызнаныя правы працоўных.

(b) АДМОВА Ў ЛЬГОТАХ ПАВОДЛЕ АСП. – Кангрэс ухваляе пастанову Ўраду Злучаных Штатаў адмовіць Беларусі ў падатковых льготах на падставе часткі V Закону аб гандлі 1974 году (Абагульненая Сыстэма Спрыяньня).

**Разьдзел 11. Шматбаковыя санкцыі**

Кангрэс лічыць, што Прэзыдэнту належыць працягваць спробы каардынацыі зь іншымі краінамі, асабліва краінамі Эўропы, шырокамаштабнай шматбаковай стратэгіі, скіраванай на дасягненьне мэтаў гэтага Акту, у тым ліку пры неабходнасьці заахвочваць іншыя краіны прымаць захады, падобныя да апісаных у гэтым Акце.

**Разьдзел 12. Уласнасьць на дыпляматычную і консульскую маёмасьць і яе выкарыстаньне**

Кангрэс лічыць, што калі недэмакратычны і нелегітымны Ўрад Беларусі ўступіць у саюз з Расейскай Фэдэрацыяй, што прывядзе да страты сувэрэнітэту Беларусі, Злучаныя Штаты неадкладна пазбавяць усіх прывілеяў і імунітэту, прадугледжаных Венскай канвэнцыяй аб дыпляматычных дачыненьнях, пэрсанал і маёмасьць Ураду Беларусі і затрымліваюць неадкладнага выезду гэтага пэрсаналу са Злучаных Штатаў.

**Разьдзел 13. Справаздачнасьць**

(a) АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ. – Не пазьней, чым праз 90 дзён пасьля ўступленьня ў дзеяньне гэтага Акту, і кожны год пасьля гэтага Прэзыдэнт будзе падаваць справаздачу адпаведным камітэтам Кангрэсу наконт –

(1) дапамогі і тавараў, атрыманых Беларусьсю ад іншых замежных краінаў за папярэдні 12-месячны пэрыяд;

(2) продажу Беларусьсю зброі і зьвязаных са зброяй тэхналёгіяў за гэты 12-месячны пэрыяд;

(3) дачыненьняў паміж рэжымам Лукашэнкі і Ўрадам Расейскай Фэдэрацыі;

(4) асабістых актываў і маёмасьці Аляксандра Лукашэнкі ды іншых высокапастаўленых кіраўнікоў Ураду Беларусі.

(b) ЭЛЕМЭНТЫ СПРАВАЗДАЧЫ. – Кожная справаздача, згаданая ў падразьдзеле (a), будзе зьмяшчаць гэткія элемэнты, у залежнасьці ад аб'ёму вядомай інфармацыі за справаздачны пэрыяд –

(1) апісаньне ўсёй дапамогі, у тым ліку гуманітарнай, перададзенай Ураду Беларусі замежнымі ўрадамі і міжнароднымі ўстановамі;

(2) апісаньне гандлю Беларусі з замежнымі краінамі, у тым ліку пералік галоўных гандлёвых партнэраў Беларусі і аб'ём гэткага гандлю;

(3) апісаньне закончаных або выконваных супольных праектаў замежных грамадзянаў, зьвязаных з аб'ектамі ў Беларусі;

(4) пералік краінаў, якія закупляюць або закупілі ў Беларусі зброю або боепрыпасы, або ўступілі з Урадам Беларусі ў пагадненьні ваеннага характару, у тым ліку –

(A) апісаньне ваенных прыпасаў, абсталяваньня або іншых матэрыяльных сродкаў, прададзеных, перададзеных як бартэр або абмененых паміж Беларусьсю і гэткімі краінамі; і

(B) сьпіс тавараў, паслугаў, крэдытаў або іншых відаў кампэнсацыі, атрыманых Урадам Беларусі ўзамен за ваенныя прыпасы, абсталяваньне або матэрыяльныя сродкі.

**Разьдзел 14. Пазыцыя Кангрэсу**

Гэтым самым Кангрэс –

(1) выказвае сваю падтрымку тым людзям у Беларусі, хто імкнецца –

(A) спрыяць пашырэньню дэмакратыі і прынцыпаў прававой дзяржавы, умацоўваць незалежнасьць і сувэрэнітэт Беларусі; і

(B) спрыяць яе інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць дэмакратычных дзяржаваў;

(2) выказвае сур'ёзную занепакоенасьць зьнікненьнем Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкі, Зьмітра Завадзкага ды іншых дзеячоў апазыцыі і журналістаў;

(3) заклікае рэжым Лукашэнкі спыніць перасьлед палітычных апанэнтаў і вызваліць тых, хто, як Андрэй Клімаў, быў зьняволены за супрацьў рэжыму;

(4) заклікае рэжым Лукашэнкі паважаць фундамэнтальныя свабоды слова, выказваньня, сходаў, асацыяцыяў, мовы і рэлігіі;

(5) заклікае рэжым Лукашэнкі дазволіць правядзеньне парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбараў, якія б былі свабодныя і справядлівыя і поўнасьцю адпавядалі б міжнародным стандартам;

(6) заклікае Урад Расеі, Дзяржаўную Думу і Савет Фэдэрацыі спыніць падтрымку, у тым ліку фінансавую, рэжыму Лукашэнкі і ў поўнай меры паважаць сувэрэнітэт і незалежнасьць Рэспублікі Беларусь;

(7) заклікае Ўрад Беларусі вырашыць працяглы канстытуцыйны і палітычны крызыс шляхам правядзеньня свабодных, справядлівых і празрыстых выбараў пры выкананьні гэткіх патрабаваньняў Арганізацыі Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе (АБСЭ), сябрам якой зьяўляецца Беларусь –

(A) забясьпечыць захаваньне правоў чалавека;

(B) пакласьці канец цяперашняй атмасфэры страху;

(C) даць апазыцыі неабходны доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі;

(D) зьмяніць выбарчае заканадаўства, зрабіўшы яго больш дэмакратычным;

(E) распачаць сапраўдныя перамовы з апазыцыяй;

(F) надзяліць парлямэнт рэальнай уладай;

(8) заклікае іншыя ўрады адмовіцца ўжываць у якасьці дыпляматычных рэзыдэнцыяў або дзеля любых іншых мэтаў памяшканьні, забраныя рэжымам Лукашэнкі ў беларускай палітычнай апазыцыі;

(9) заклікае міжнародную супольнасьць, у тым ліку Ўрад Расеі, адмовіцца ратыфікаваць або прызнаваць любыя дамовы, падпісаныя Аляксандрам Лукашэнкам або любым іншым службоўцам ягонага ўраду;

(10) высока ацэньвае дэмакратычную апазыцыю Беларусі за яе адданасьць свабодзе, за адвагу перад жорсткімі рэпрэсіямі рэжыму Лукашэнкі і за еднасьць і супрацоўніцтва розных палітычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў, выяўленыя падчас парлямэнцкіх выбараў 2000 году і прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году, і заклікае дэмакратычную апазыцыю Беларусі захоўваць надалей гэтую еднасьць і супрацоўніцтва ў намаганьні пакласьці канец Лукашэнкавай дыктатуры.

**Разьдзел 15. Вызначэньні**

У гэтым Акце:

(1) НАЙВЫШЭЙШАЕ КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ. – У тэрмін «найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі» ўключаюцца –

(A) прэзыдэнт Беларусі, прэм'ер-міністар, віцэ-прэм'еры, міністры ўраду і віцэ-міністры;

(B) старшыня Нацыянальнага Банку Беларусі;

(C) службоўцы Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Беларусі, міліцыі і любых іншых рэпрэсіўных ворганаў;

(D) любыя службоўцы Ўраду Беларусі, якія маюць дачыненьне да здушэньня свабоды ў Беларусі, у тым ліку судзьдзі і пракуроры;

(E) любыя службоўцы Ўраду Беларусі, непасрэдна прызначаныя Аляксандрам Лукашэнкам;

(F) службоўцы прэзыдэнцкай адміністрацыі.

(2) ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ. – Тэрмін «Злучаныя Штаты» азначае штаты Злучаных Штатаў, акругу Калюмбія і ўсе іншыя садружнасьці, залежныя тэрыторыі і валоданьні Злучаных Штатаў.

(3) АСОБА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ. – Тэрмін «асоба Злучаных Штатаў» азначае ўсіх рэзыдэнтаў або грамадзянаў Злучаных Штатаў (апрача паасобных рэзыдэнтаў за межамі Злучаных Штатаў, нанятых на працу некім іншым апрача асобаў Злучаных Штатаў), усе мясцовыя фірмы (у тым ліку ўсе замежныя фірмы, што стала дзейнічаюць у Злучаных Штатах) і ўсе замежныя дачкавыя фірмы або філіялы (у тым ліку тыя, што стала дзейнічаюць за мяжою) усіх мясцовых фірмаў, якія фактычна кантралююцца такімі мясцовымі фірмамі, у адпаведнасьці з распараджэньнямі Прэзыдэнта.

==============================

# *На якой мове жывём?*

**Каб жыла Беларусь, нам важна ня толькі гаварыць і пісаць, але і думаць па-беларуску.**

На пачатку верасня мы святкуем Дзень беларускага пісьменства. У нашым календары няма пакуль што Свята беларускай Мовы, і таму яна, Мова родная, ушаноўваецца ўвосень найперш у сваёй друкавана-рукапіснай іпастасі. Пры гэтым усе, вядома ж, памятаюць і пра яе вусна-гутарковую іпастась. Якая "прасвечваецца" часта — сваёй мяккасцю ды звонкасцю — нават там, дзе мы гаворым па-руску.

Ды ўсё ж галоўнае на ніве беларускага быцця не тое, на якой мове мы выказваем свае думкі (ці то вусна, ці то пісьмова).

Галоўнае — на якой мове думаем у паўсядзённасці.

На якой мове, вобразна кажучы, жывём.

У хрысціянскім веравызнанні кананізавана ўшанаванне Айца, Сына і Святога Духа. І калі разумець Мову як святыню, як аснову духоўнай сутнасці народа, то лагічна дапусціць існаванне трэцяй яе іпастасі. Якой, як і самога Бога, немагчыма напрамую ўбачыць альбо пачуць. Але менавіта з яе, той загадкава-патаемнай трэцяй (ці першай?) іпастасі выростае дрэва нашай — беларускай! — духоўнай культуры.

Мова думання, тварэння — менавіта яна ёсць сапраўдная Мова душы.

І адраджэнне роднай Мовы, пашырэнне сферы яе бытавання, павышэнне аўтарытэту напрамую звязана з тым, ці будзем мы менавіта думаць і тварыць на беларускай мове. А не толькі чытаць, пісаць, размаўляць, вывешваць шыльды, выдаваць кнігі, напісаныя па-беларуску.

...Нядаўна адзін вядомы чалавек (музыкант, дырыжор) у даверлівай гутарцы прызнаўся: ужо гадоў 10 таму пачаў старацца гаварыць па-беларуску і толькі цяпер з радасцю заўважыў, што і думаецца яму па-беларуску!

Значыць, родная Мова цалкам, ва ўсіх іпастасях, адрадзілася яшчэ ў адной душы. Сімвалічна — што ў душы дырыжора!

**Іван ЖДАНОВІЧ.**

# Пра мову

Беларусь, хто зрабіў Табе такое ліха? Ты маеш сваю мову, Ты маеш сваю культуру, Ты ствараеш літаратурныя шэдэўры. Дзе ж Твая мова, хто размаўляе на ёй? Няўжо сапраўды толькі людзі ў вёсках валодаюць Тваёй моваю ды інтэлігенцыя, якая даглядае яе як хворага, спадзеючыся, што ён неўзабаве ачуняе, умацуецца, устане?

Белмова, Ты пайшла своеасаблівым шляхам. Твой народ вырашыў, што ў Цябе не стае сілаў, што Ты маеш патрэбу ў кімсьці, хто дапаможа Табе выйсьці зь цяжкага становішча. У прынцыпе, быў толькі адзін кандыдат. *Великий и могучий русский язык*, які заўсёды быў Тваім апекуном, які напэўна ведае Цябе лепш, чым Ты сама, які заўсёды быў у Цябе і з Табою, пры царах ды савецкіх правадырах. Расейская мова аказвала ўзьдзеяньне на Цябе, уплывала на Цябе і перадавала Табе свае элемэнты.

Дзе Ты цяпер знаходзішся, беларуская мова? Дзесьці на краі былой вялікай імпэрыі, на краі сусьветнай культуры, адасобленая. Польская мова, зь якой Ты некалі піла на брудэршафт, дапамагчы Табе таксама ня можа. Дый ня хоча, паколькі Ты для яе ўжо не цікавая. А ўкраінская мова проста зьдзекуецца зь Цябе.

— Хіба Ты ня бачыш, што расейская мова зрабіла зь Цябе? — яна зьедліва сьмяецца Табе ў твар.

А чэская і славацкая мовы толькі пацiскаюць плячыма.

— Чаму Вы з расейскай мовай не маглі разысьціся ў згодзе? — пытаюцца яны ў адзін голас.

Літоўская мова мае зусім іншыя праблемы, чым клапаціцца пра Цябе. Яна хоча цалкам вызваліцца ад расейскага ўплыву. І на самой справе здаецца, што гэта ёй удасца.

Нямецкая, французская і італьянская мовы нават не здагадваюцца, што Ты ёсьць на гэтым сьвеце. Якая ганьба!

Ангельская мова таксама ня хоча мець ніякіх адносін да Цябе.

— А Ты хто такая? — яна гучна сьмяецца.

Амэрыканская мова пыхлівая, яна нават расейскай мовы прызнаваць ня хоча.

Вось бачыш, Белмова. Ты, відаць, прапусьціла свой шанец. Трэба было мірна, але рашуча разьвітацца з расейскай мовай. Ня трэба было дазваляць ёй распараджацца Табой. Я спадзяюся, што яшчэ ня позна штосьці зьмяніць. Апамятайся, будзь моцнай, хай Твой народ любіць і паважае Цябе.

**Андрэ Бём, Ляйпцыг**



 

# Ці не сорамна вам, людзі?

Гісторыя, пра якую я хачу расказаць сваім суайчыннікам на Бацькаўшчыне, мяне вельмі ўразіла. Ніяк не магу дагэтуль зразумець, як гэта ўсё магло адбыцца. І справа не ў пакаранні тых, хто вінен, – проста сорамна глядзець у вочы чалавеку, якога бессардэчна ашукалі. Сорамна, бо думалася раней, што на такое мы, беларусы, не здатныя…

Жыве ў горадзе Чыкага Крысціян Наркевіч-Лейн. Архітэктар і дызайнер, даследчык-навуковец, ён арганізаваў унікальны ў Амерыцы Музей архітэктуры і дызайну – The Chicago Athenaeum, які карыстаецца вялікай папулярнасцю ў жыхароў горада і ў шматлікіх турыстаў. Ужо ў сталыя гады Крысціян Наркевіч-Лейн дазнаўся, што яго радавод па матчынай лініі ідзе з Беларусі. У ліку ягоных продкаў значацца Кацюцэвічы, Радзівілы, Ёдкі, Наркевічы… Маці Крысціяна, Шарлота Наркевіч-Лейн, была пляменніцай найвыдат-нейшага беларускага вучонага Якуба Ёдкі-Наркевіча.

Першая паездка на Беларусь, што адбылася ўжо амаль дзесяць год таму, вельмі ўразіла і ўсхвалявала Крысціяна Наркевіча-Лейна. Звязаўшыся з гісторыкамі, ён распачаў пошукі свайго радаводу, пабываў там, дзе было славутае Наднямонне – сядзіба і навуковая лабараторыя Я.Ёдкі-Наркевіча, наведаў іншыя мясціны Уздзеншчыны і Наваградчыны. Пабываў ён і блізка Чанобыльскай зоны; плакаў, бачучы дзяцей у бальніцах Гомельшчыны і Магілёўшчыны. Адразу вырашыў: трэба прывезці ў Амерыку выставу малюнкаў беларускіх дзяцей, бо толькі яна зможа праўдзіва і шчыра расказаць пра ўсё, што ён бачыў сам.

Задума была здзейснена. Пры дапамозе Міколы Сянкевіча, тагачаснага дырэктара Беларускага музея прыроды і экалогіі, была арганізавана вялікая выстава «Дзеці Чарнобыля». Упершыню яна была паказана ў Чыкага (на адкрыцці выступаў пасол Беларусі ў ЗША Сяргей Мартынаў), потым, дзякуючы асабістым намаганням Крысціяна Наркевіча-Лейна і сувязям музея The Chicago Athenaeum, яе ўбачылі ў Вашынгтоне, Нью-Ёрку, Бостане, Лос Анджэлесе, у Нямеччыне, Іспаніі, Італіі, Англіі, Швецыі, Фінляндыі і ў іншых краінах Еўропы. Мяркую, што гэта выстава ўнесла значны ўклад, каб прыцягнуць ўвагу сусветнай супольнасьці да праблем Чарнобыля.

Адначасова з арганізацыяй паказу гэтай выставы ў розных краінах свету ў Крысціяна Наркевіча-Лейна ўзнікла натуральнае жаданне неяк практычна дапамагчы беларускім дзецям, асабліва тым, што дагэтуль адчуваюць на сваім здароўі ўплыў той катастрофы. Ім быў арганізаваны спецыяльны Фонд дапамогі дзецям Чарнобыля, якому за кароткі тэрмін удалося сабраць звыш 1 мільёна даляраў. Было вырашана на гэту даволі значную суму набыць так патрэбныя хворым дзецям у Беларусі лекі, медыкаменты, розныя медыцынскія рэчы і абсталяванне. Мікола Сянкевіч, дырэктар Беларускага музея прыроды і экалогіі, згадзіўся атрымаць як адрасат гэты груз і прасачыць, каб ён дайшоў непасрэдна да дзіцячых бальніц і паліклінік Гомельскай і Магілёўскай абласцей.

І вось у 1997 годзе пры дапамозе амерыканскай дзяржаўнай праграмы "Operation Support Freedom" у Беларусь накіраваўся вялізны шаснаццацітонны кантэйнер. У ім былі канкрэтныя і агульныя лекі, антыбіётыкі і вітаміны, самыя розныя дарагія і рэдкія медыкаменты, сродкі для анастэзіі і перавязкі, рознае медыцынскае абсталяванне. Усё гэта было набыта ў самых прэстыжных фармацэўтычных амерыканскіх фірмах, накшталт Abbott Laboratories, Central Pharmaceutical, Baxter T.V. Systems і іншых.

Як накіраваўся гэты кантэйнер на Беларусь, так і знік. Нічога нікому аб яго прыбыцці не паведаміў спадар Сянкевіч, не паведаміў і аб тым, куды непасрэдна дастаўлена гэтая медыцынская дапамога. На лісты і званкі Крысціяна Наркевіча-Лейна не было ніякага адказу. Тады Крысціян разам з сенатарам ад штату Ілінойс Рычардам Дурбінам звярнуліся да пасла ЗША ў Беларусі Дэніэла Спекхарда з просьбай непасрэдна ў Мінску вызначыць, дзе ж дзеўся гэты каштоўны на 1 мільён даляраў груз. Пасол прыслаў ліст, у якім паведаміў, што ён з адпаведным запытаннем звярнуўся да сп. Віктара Кучынскага з Адміністрацыі Прэзідэнта і да Першага намесніка Міністра замежных спраў Сяргея Мартынава. Аднак аніякага адказу на запытанне ані гэты пасол, ані наступны – Майкл Козак – не атрымалі.

Зьнікненне гэтага грузу ні на хвіліну не дае спакою Крысціяну Наркевічу-Лейну. Ён працягвае адсылаць лісты, тэлефанаваць, і ўсё безвынікова. І вось зусім нядаўна ён атрымаў ліст ад новага дырэктара Беларускага музея прыроды і экалогіі Аляксея Ёдкі. Там сказана: «По вопросу медпрепаратов вам сообщили правильно. Медикаменты, переданные г-ну Синькевичу, действительно до настоящего времени лежат в подвальном помещении в г.Минске. Определенную часть г-н Синькевич кому-то передавал. Однако большое их количество в неприглядном виде складировано в подвале. Перед уходом с работы г-ну Синькевичу неоднократно предлагалось освободить помещение, так как оно было арендовано Музеем природы и экологии. Г-н Синькевич никаких действий не предпринял.» Далей Аляксей Ёдка піша: «По приезде в Белоруссию, я думаю, вы сможете их увидеть. Передать медикаменты в госпиталь г.Хойники я не имею права, так как они адресованы не музею, а г-ну Синькевичу… Лично я к медикаментам никаких отношений не имею».

Цяпер уявіце, што адчуваў Крысціян Наркевіч-Лейн, калі чытаў гэты ліст. Адзіная была палёгка: новы дырэктар музея згадзіўся сумесна працаваць над праектам рэстаўрацыі фамільнай сядзібы Якуба Ёдкі-Наркевіча «Наднямонне» - вельмі важнага і для Беларусі і для усёй Еўропы гістарычнага, навуковага і культурнага помніка.

Але з якім сэрцам прыедзе цяпер Крысціян Наркевіч-Лейн на зямлю сваіх продкаў? Як будуць яму глядзець у вочы людзі? Як яму цяпер ставіцца да іх? Няўжо мы, беларусы, такія няўважныя і да чужых немалых грошаў, і да шчырага, ад усяго сэрца клопату дапамагчы ў вялікай бядзе?

Крысціян Наркевіч-Лейн да ўсяго яшчэ і добры паэт. У апошніх яго паэтычных зборніках абавязкова знаходзім нізкі, навеяныя вобразамі Беларусі. У адным з вершаў, перакладзеных мною з англійскай мовы, ён прызнаецца:

Магутны голас матчынай крыві
Даўно ўжо не дае мне супакою
І апантана кліча вось сюды,
Да нашае капліцы і сядзібы,
Да гэтага чароўнага пейзажу
З яго меланхалічнаю аздобай,
З высокімі нябёсамі і сумам,
Які, здаецца, на вякі над намі…
Дык што рабіць мне: плакаць ці смяяцца?
Ды і навошта? Ўсім наканавана
Аднолькавае жудаснае пекла –
Прытулак душ, народжаных ў зняваze
І ў гэткай жа зняваze і памерлых.
Але калі гняце адчай і голад,
Тады нічога не суцешыць душу,
Усё апраўдана – любая амаральнасць
Ці парушэнне нечых там правоў…

Успомніўшы гэтыя радкі, падумалася: няўжо і дагэтуль на зямлі, дзе жыве народ, спрадвеку чуллівы і талерантны да кожнага чалавека, блізкага ці далёкага, усё апраўдана, у тым ліку і вышэйрасказаная амаральнасць?

Суняць боль. Вылечыць хворых дзяцей. Што можа быць высакароднай за гэта?

Давайце задумаемся разам, дарагія мае землякі.

Ванкарэм Нікіфаровіч, г. Чыкага.

---

Ванкарэм Нікіфаровіч, Чыкага

# *"Зямля пад белымі крыламі"*

**У Чыкага – вялікая выстава мастакоў, якія паходжаньнем з Беларусі**

"Зямля пад белымі крыламі" – так назваў свой натхнёны нарыс пра Беларусь вядомы беларускі пісьменьнік Уладзімер Караткевіч. Гэты паэтычны вобраз прыгадаўся неяк хутка і натуральна, калі група мастакоў, што жывуць сёньня ў Чыкага, але нарадзіліся на Беларусі, шукалі назоў дзеля сваёй калектыўнай выставы. Магчымасьць яе наладзіць у вялізнай зале даў Крысьціян Наркевіч-Лейн, дырэктар музэю The Chicago Athenaeum (Музэй архітэктуры і дызайну), які ў апошнія гады актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасьцю (арганізацыя ў шэрагу краінаў выставы "Малюнкі дзяцей Чарнобыля", медыцынская гуманітарная дапамога, памкненьні пачаць рэстаўрацыю маёнтка і навуковай лабараторыі "Наднямоньне" свайго вядомага дзеда, выдатнейшага беларускага вучонага Якуба Ёдкі). Вялікая заля гэтага музэю знаходзіцца ў Шамбургу, заходнім прыгарадзе Чыкага; тым не меней 24 і 25 лістапада, у дні афіцыйнага адкрыцьця выставы "Зямля пад белымі крыламі" тут пабывала вельмі многа людзей.

У першы дзень адкрыцьця ў гэтай зале адбыўся вялікі канцэрт. Фальклёрны дзіцячы харэаграфічны ансамбль "Лянок" пры Беларускай праваслаўнай царкве св. Юр'я выконваў беларускія народныя танцы. У яго складзе – Марыя Бажко, Аня Васіленка, Аліна Ступакова, Ірына Севасьцьянава, Кацярына і Ірына Камаровы, харэограф ансамблю – Алена Ступакевіч. Народныя беларускія песьні і мелёдыі гучалі ў выкананьні майстроў-музыкаў Ірыны Грыгаровіч (цымбалы), Валеры Явара (драўляныя духавыя), Андрэя Васіленкі (сьпевы і альт), Уладзімера Вараб'ёва (гармошка і баян), Пятра Кляпацкага (ударныя). Канцэрт прайшоў з велізарнейшым посьпехам.

"Я не чакаў, што выстава будзе арганізавана з такім размахам, – сказаў пра свае ўражаньні доктар Янка Запруднік, які спецыяльна прыехаў на адкрыцьцё ў Чыкага з Нью-Джэрсі. – Усе творы цікавыя тэматычна, асабліва цікава паглядзець, як мастакі ўспрыймаюць новую зямлю, новы для сябе сьвет, рэагуюць на гэта сваім талентам. Значнасьць гэтай падзеі дае надзею, што беларушчына ў Амэрыцы ня толькі не загіне, а будзе і надалей разьвівацца, духовыя традыцыі будуць працягвацца."

У цэнтры экспазыцыі – працы выдатнага беларускага мастака Хаіма Ліўшыца (1912 – 1994), які некалькі апошніх сваіх гадоў жыў і працаваў у Чыкага. Ён нарадзіўся ў Віцебску, на Малой Пакроўскай вуліцы, зусім блізка ад таго дому, дзе жыў і стварай Марк Шагал. І першым яго настаўнікам маляваньня быў Іегуда Пэн, той жа, хто вучыў Шагала. Найбольш яскрава творчая індывідуальнасьць Хаіма Ліўшыца выявілася ў жанры тэматычнай карціны. Чалавек і беларускі пейзаж на ягоных палотнах заўсёды звязаны адзінай задумай, адзіным эмацыянальным настроем. У выстаўленых тут творах Х.Ліўшыца "Пасьля працы", "Фэст у Пільніцы" чытаецца шчырая любоў мастака да простых людзей, да навакольнай прыроды. Гэтыя і іншыя карціны Х.Ліўшыца, такія як "Стары Віцебск", "Нацюрморт з кнігамі і кветкамі", "Дом у бярозавым парку", "Нацюрморт з гаршчкамі", "Пейзаж з канямі" вылучае сакавітая маляўнічасьць, кампазіцыйная завершанасьць, каларыстычнае майстэрства.

Выхаванцам той жа віцебскай мастакоўскай школы з'яўляецца адзін са старэйшых беларускіх мастакоў Юзаф Пучынскі. Ён працуе ў асноўным ў жанрах пейзажу, нацюрморту, партрэту. Яго прываблівае непаўторная прыгажосьць роднай Беларусі, нешматлікія, на жаль, помнікі гісторыі і архітэктуры, што захаваліся. У пейзажах мастака "Восень на рацэ Вяча", "Зімовы вечар", "Першы сьнег", "Сакавік" і іншых адчуваецца своеасаблівае запрашэньне гледачоў да роздуму, да суперажываньня. Цікавыя ў мастака і партрэты, навеяныя як біблейскімі матывамі ("Партрэт старой", "Іоў"), так і сучаснымі эмацыянальнымі абагульненьнямі ("Сум", "Прыгажуня"). Юзаф Пучынскі – майстар перадачы жывапісам і тонкага настрою ("Сям'я"), і актуальнага сучаснага

роздуму ("Два бажаствы").

Ізраіль Радунскі – тонкі лірык, які працуе, у асноўным, у тэхніцы акварэлі. Такія яго працы як "Зіма ў вёсцы", "Стагі", "Дарога ў вёску", "Восеньскі матыў" і іншыя вылучаюцца несхаваным аўтарскім стаўленьнем да пейзажу, кампазіцыйнай дасканаласьцю, гарманічнай каляровай гамай, імкненьнем падкрэсьліць адзінства і ўзаемазалежнасьць прыроды і таго, што стварыў сам чалавек. Выпакутаваны лірычны матыў вызначае, напрыклад, танальнасьць акварэлі Ізраіля Радунскага "Возера Нарач. Лазьня". Адценьні колераў – зялёнага, карычневага, цёмна-аранжавага – у гэтым пейзажы нібы прыглушаныя, але менавіта яны падкрэсліваюць зафіксаванае мастаком адчуваньне адзінства вечнасьці і прыгажосьці.

Шырока вядомы сёньня ў Беларусі і за яе межамі мастак Май Данцыг жыве ў Менску, з'яўляецца загадчыкам кафедры жывапісу ў Беларускай Акадэміі мастацтваў. Але ў Чыкага ён прыязджае штогод да сваякоў, тут жыве і працуе па два-тры месяцы ўлетку. У гэты час ён працягвае актыўна ствараць палотны ў сваім звычайным стылі – экспрэсіўным, дынамічным, усхваляваным. Пейзажы, нацюрморты, тэматычныя карціны Мая Данцыга, што экспануюцца на гэтай выставе, – "Бэз", "Вясковы пейзаж. Масток.", "Бабіна лета", "Нацюрморт з лімонамі" і іншыя – цікавыя перш за ўсё вастрынёй сучаснага мастакоўскага погляду, кампазіцыйнай дасканаласьцю, каларыстычным майстэрствам. Усхваляваны эмацыянальны настрой мастака выразна чытаецца ў такіх яго творах як "На аўтобусным прыпынку", "Перад навальніцай", "У лодцы", у напісаным нядаўна ў Чыкага пейзажы "Лінкальн-парк". У творах Мая Данцыга прываблівае шчырасьць пачуцьця, запрашэньне да роздуму.

Архітэктура, інтэр'ер і дызайн, жывапіс, графіка, паэзія, - такі пералік творчых захапленьняў мастака Леаніда Асеньняга. Да ад'езду ў Амэрыку ён займаўся таксама аднаўленьнем тэатра "Батлейка" і рэстаўрацыяй шэрагу архітэктурных помнікаў Беларусі. На гэтай выставе Леанід Асеньні паказвае пераважна свае гарадскія пейзажы, якія поўныя экспрэсіі і лірычнага настрою. Гэта і карціны, навеяныя беларускімі матывамі ("Рака Свіслач", "Вуліца Гандлёвая ў Менску", "Бернардынскі кляштар"), і пейзажы,



Леанід Асеньні: "Вуліца Гандлёвая ў Менску".

створаныя тут у Чыкага ("Гавань у Вілмэце", "Атракцыён у паветры", "Від на цэнтр Чыкага", "Мост цераз раку ў горадзе" і іншыя). Мастак тонка адчувае прыгажосьць наваколься; многія яго творы, у прыватнасьці, кампазіцыя "Магнолія", прываблівають сваеасаблівай яскравасьцю фарбаў і адценьняў колеру. Леанід Асеньні выставіў таксама свае цікавыя апошнія творы, выкананыя ў самай сучаснай тэхніцы камп'ютарнай графікі. Мастак у сваім кампазіцыйным бачаньні краявідаў Чыкага акцэнтуе ўвагу на прыгажосьці і дасканаласьці архітэктуры гэтага горада, яе сваеасаблівай маляўнічасьці і паэтычнасьці.

Мастак і скульптар Міхась Лівшульц пачаў выстаўляцца яшчэ ў Менску ў сямідзесятыя гады. У Чыкага ён працягвае сваю творчасьць, удумліва і няспешна ствараючы жывапісныя палотны і скульптурныя кампазыцыі. У яго працах прыкметна творчая манера, што перадалася ў спадчыну ад бацькі Хаіма Ліўшыца, – гэта актыўнае імкненьне аб'яднаць зьместоўны і эмацыянальны матывы. Прыцягваюць сваім настроем і экспрэсіўнасьцю нацюрморт Міхася Лівшульца "Менскі хлеб", яго пейзажы "Зіма ў Менску", "Стары Віцебск", "Выганічы". Цікавая і напісаная ўжо ў Чыкага яго карціна "Лагуна ў Скокі". У ягоных скульптурных працах прыкметны ўдалыя пошукі дакладнага псіхалагічнага бачаньня ў канкрэтных партрэтах ("Партрэт бацькі", "Аарон Зысман", "Джэрры Ворсаў", захапленьне прыгажосьцю ў абагульняючых кампазыцыях ("Напаўляжачыя фігуры").



Дзімітры Бажко: "Пакараньне".

У творчасьці мастака Дзімітрыя Бажко актыўна заяўлены два пачаткі, звязаныя з яго адукацыйнай падрыхтоўкай да прыезду ў Амэрыку. Ён скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут і Духоўную семінарыю. У Чыкага Дзімітры Бажко з'яўляецца сьвятаром Беларускай праваслаўнай царквы сьвятога Юр'я. Спецыяльна вывучыўшы старадаўнюю тэхніку маляваньня яічнай тэмперай, ён імкнецца ў кожнай сваёй жывапіснай працы знайсьці выяўленчы сымбаль, сэнс ідэі альбо вобразу. Традыцыйная вобразнасьць у карцінах Дзімітрыя Бажко нібы пераасэнсоўваецца, заклікаючы гледача да сумеснага роздуму. Гэтым прываблівають такія яго кампазыцыі як "Прытча", "Ва ўсе часы", "Пакараньне", "Ператварэньне" і іншыя. А напісаныя акрылавымі фарбамі карціны "Пегас" і "Папараць-кветка" – гэта ўжо зусім іншая эмацыянальная стыхія, блізкая да пошукаў сучаснай экспрэсіўнай стылістыкі.

Анатоль Упарт – прадстаўнік маладога пакаленьня мастакоў іміграцыі. Пачынаў вучыцца маляваньню ён у Менску, у Чыкага скончыў Школу Арт-інстытуту. Мастакоўскі пошук Анатоля Упарта заснаваны на спалучэньні колерамазаікі і графічных формаў крышталяў-клетачак. У аснове такой стылістыкі ляжыць успрыяцьце мастаком любога асяродьдзя як аб'екта, вельмі насычанага ўнутраным драматызмам. На выставе прываблівають карціны Анатоля Упарта "Дзяды", "Рака Няміга", "Партрэт Любы". Далейшыя пошукі зьмястоўнасьці, экспрэсіўнасьці, выразнай дэкаратыўнасьці заяўлены ў такіх палотнах мастака як "Бура", "Дзяўчына і вуліца", "Непрыхільнасьць", "Даўнтаўн", дзе асноўнае – каляровыя спалучэньні, рытм, эмацыянальнасьць убачанага імгненьня.

Зусім малады мастак і скульптар Павел Амромін, які нарадзіўся ў Гомелі, у сваіх скульптурных працах зьдзіўляе не па ўзросьце сур'ёзнымі адносінамі да абранай тэхнікі, якая традыцыйна патрабуе пэўнага жыцьцёвага і мастакоўскага вопыту. Ён выставіў выкананую ў гліне кампазыцыю з чатырох фігур, якія сымбалізуюць людзей пасля свайго піку, сваеасаблівых мінатаўраў на схіле гадоў. Але ў іх яшчэ жыве прага да жыцьця. Кампазыцыя асацыіруецца з



Хаім Ліўшыц: "Нацюрморт з гаршчкамі".

тэмай падзеньня вялікіх імпэрый, з тэмай адыходу і развянчаньня вялікіх людзей. Самой фактурай матэрыялу, парушэньнямі рэальных прапорцый натуры Павел Амромін імкнецца глыбей раскрыць эмацыянальны стан сваіх персанажаў, аддаючы даніну сучасным пошукам новай стылістыцы ў гэтым жанры.

... Дзевяць мастакоў, больш за сто твораў розных манераў, стыляў, накірункаў. Нялёгка і няпроста складваўся жыцьцёвы і творчы лёс кожнага з гэтых майстроў. Але менавіта тут, у Амэрыцы, яны атрымалі магчымасьць найбольш поўнага выяўленьня сваёй творчай індывідуальнасьці. Карціны, графічныя лісты і скульптуры, што экспануюцца на выставе "Зямля пад белымі крыламі", – яскравы доказ гэтаму.

## Расея, ЗША і Беларусь - сусьветныя лідары па колькасьці зьняволеных

**Паводле дадзеных Сусветнага агляду турмаў /World Prison Population List у сярэднім у краінах з высокім узроўнем даходу на 100 тысяч чалавек прыпадае 105 зняволеных, у краінах з нізкім узроўнем даходу - 130. Сусветны лідар па колькасці зняволеных - Расея (690 зняволеных на 100 тысяч насельніцтва). На другім месцы - ЗША. На малапачэснай трэцяй пазіцыі - Беларусь, на чацвёртай - Казахстан, на пятым - Кайманавыя выспы. Колькасць зняволеных у свеце ўвесь час расце.**

На думку экспертаў ААН, нельга лічыць, што ўзровень злачыннасці ў багатых дзяржавах вышэй ці роўны ўзроўню злачыннасці ў бедных краінах. Адпаведна дадзеным даследаванняў ААН, прыкладна 97 працэнтаў жыхароў багатых краінаў гатовыя паведаміць альбо паведамілі праваахоўным органам пра злачынствы, сведкамі якіх яны сталі. Толькі 40 працэнтаў жыхароў дзяржаваў з сярэднім узроўнем дабрабыту і 38 працэнтаў грамадзянаў бедных дзяржаваў гатовыя зрабіць тое ж самае. Прычынай недаверу лічыцца некампетэнтнасць, высокая карумпаванасць супрацоўнікаў праваахоўных органаў ды іх цесныя сувязі з крымінальнымі структурамі. Зрэшты, ёсць і выключэнні: амаль 90 працэнтаў канадцаў (багатая краіна) і больш як 80 працэнтаў кітайцаў (бедная краіна) даваряюць сваім праваахоўным органам. Для багатых Злучаных Штатаў працэнт даверу да паліцыі крыху перасягае 60 працэнтаў - па гэтаму паказчыку амерыканскія крыміналісты саступаюць сваім калегам з Францыі, Паўночнай Ірландыі, Швецыі, Гішпаніі. Сярод краінаў былога СССР найбольшым даверам, паводле дадзеных ААН, карыстаюцца праваахоўныя органы Беларусі (ім даваряюць каля 20 працэнтаў жыхароў краіны). Далей у рэйтынгу ў парадку змяншэння - Украіна, Эстонія, Латвія, Казахстан, Кыргызстан, Расея. Пры гэтым узровень даверу насельніцтва да паліцыі зусім не ўплывае на колькасць злачынстваў, учыняемых у гэтай краіне. Напрыклад, амаль 60 працэнтаў жыхароў Танзаніі даваряюць сваім праваахоўным органам, але пры гэтым узровень злачыннасці ў краіне адзін з самых высокіх у свеце. І наадварот, у Беларусі міліцыі даваряюць утрая меней, чым у Танзаніі, але злачыннасць у краіне нізкая.

*На сённяшні дзень у Беларусі ў месцах пазбаўлення волі знаходзіцца 48 тысяч зняволеных. Жылыя плошчы калоніяў разлічаныя на колькасць зняволеных, у паўтара раза меншую. У некаторых калоніях спяць у тры ярусы, быў нават выпадак калі падвешвалі спецыяльныя гамакі. Паводле афіцыйных дадзеных, толькі каля 20 працэнтаў асуджаных працуе, а на самой справе працуе не больш за 15 працэнтаў*



# Незалежная экспертыза

**Чым выклікана чарговая змена рыторыкі, або Якія два важныя крокі павінна зрабіць улада, каб выцягнуць краіну з крызісу.**

На афіцыйным беларускім палітычным небасхіле чарговая змена рыторыкі. На гэты раз у сферы эканомікі. Цяпер прадпрымальнікі ўжо не "вшивые блохи", а бізнесмены. На сустрэчы з дзелавымі коламі кіраўнік краіны загаварыў аб "адкрыцці шлюзаў для прадпрымальніцтва", аб гатоўнасці выдаць гарантыі для вяртання грошай з-за мяжы, аб акцыяніраванні прадпрыемстваў...

Рынкавая рыторыка -- хутчэй рэакцыя на ціск абставін, чым разуменне моманту. Амаль у той самы час, як Лукашэнка сыпаў згаданымі тэрмінамі на сустрэчы з дзелавымі коламі краіны, наш новы прэм'ер-міністр цікавіўся ў Кіеве, чым выклікана падзенне гандлю паміж Беларуссю і Украінай, на што кіеўскія суразмоўцы адкрытым тэкстам тлумачылі: "У нас жа 60 працэнтаў прамысловасці ўжо ў руках прыватнага сэктара, а ў банкаўскай сферы -- аж 90 працэнтаў. Вашыя ж прадпрыемствы дзяржаўныя, неплацежаздольныя. Як жа развіваць з вамі гандаль?" У такім накірунку, дарэчы, ціснe і Расія.

А таму пацешнымі выглядаюць нахвальванні "новага курсу", якія сыпліцца з вуснаў урадаўцаў, прыдворных прафесараў і палатнікаў. Каму-каму, а ім жа павінна быць вядома, "адкуль растуць ногі", як і тое, што за падобнай славеснай рыторыкай сур'ёзных канкрэтных спраў не прадбачыцца. І вось чаму.

Так, зьмяншэнне падатковага прэсу -- справа вельмі важная і вельмі неабходная. Крок у такім накірунку сапраўды можа паспрыяць развіццю бізнесу. Але ці магчыма гэта ў нашых умовах? Калі зменшыць падаткі, дык дзе тады ўзяць сродкі, каб карміць распухлыя сілавыя структуры. Значыць, іх трэба моцна скарачаць. А вось аб гэтым нічога не гаворыцца.

Любому нармальнаму чалавеку зразумела, што без буйных інвестыцый з крызісу нам не выкарабкацца. Замежны капітал ідзе толькі туды, дзе бізнес сумленны, дзе добрае і стабільнае заканадаўства, дзе дэмакратыя, дзе паважаюць правы чалавека. Але ці здольныя ўлады Беларусі развярнуцца на 180 градусаў да рынку і дэмакратыі?

У даволі "интересное положение" трапляе Беларусь у сувязі з уваходжаннем Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Паколькі наша краіна сваім саюзам з Расіяй, па сутнасці, становіцца "прычапным вагонам", ёй нічога не застаецца, як каціцца следам за ўсходняй суседкай. Але туды, у Сусветную гандлёвую арганізацыю, прымаюць толькі дзяржавы з рынкавай эканомікай. Так што прыйдзецца альбо станавіцца звычайным вагонам расійскага цягніка, ці, дакладней, суб'ектам Расійскай Федэрацыі, альбо адчапляцца ад яе.

Калі Рыгоравіч сапраўды хоча ажывіць эканоміку і палепшыць дабрабыт людзей, дык варта прыняць неардынарныя, лёсавызначальныя рашэнні. Менавіта яны дапамогуць вырашыць праблемы, што неадольнай сцяной паўстаюць перад краінай. Якія ж крокі павінны быць?

Радыкальным і самым лепшым рашэннем была б добраахвотная адстаўка Лукашэнкі. Бо сваю "гістарычную ролю" ён ужо выканаў: зразумеў, што пошук нейкага міфічнага "трэцяга беларускага шляху" правальўся, бо развіццё ўсяго чалавецтва ідзе ў адным рэчышчы. Толькі пасля зыходжання з крэсла першай асобы свет можа па-сапраўднаму актыўна павярнуцца да Беларусі.

Зразумела, што на падобны мужны мужчынскі крок Аляксандр Рыгоравіч не здольны. У такім разе трэба шукаць вельмі складаны варыянт, пры якім былі б "і авечкі цэлыя, і ваўкі накормленыя". Можна неадкладна зрабіць два важныя крокі:

Першы. Прынародна аб'явіць, што новы пяцігадовы тэрмін яго прэзідэнцтва -- апошні для яго, як гэта прадугледжана Канстытуцыяй. Што ён не будзе болей мяняць Канстытуцыю дзеля асабістай выгады, не будзе праводзіць чарговы псэўдарэферэндум аб змене Асноўнага закона з тым, каб яму можна было балатавацца ў прэзідэнты бясконца.

Другі крок. Пашырэнне паўнамоцтваў урада з тым, каб ён стаў сапраўдным урадам, і стварэнне Кабінета міністраў нацыянальнай згоды, у які ўвайшлі б прадстаўнікі ўсіх вядучых сіл краіны. Яго мог бы ўзначаліць той жа генеральны дырэктар МТЗ Лявонаў. Чалавек, які мае багаты вопыт работы з людзьмі, ведае вытворчасць, эканоміку, знаёмы з кіраўнікамі многіх краін...

Такі ўрад нацыянальнага даверу атрымаў бы падтрымку міжнароднага супольніцтва і бізнесу. Толькі пры ім можна разлічваць на буйныя інвестыцыі з перадавых краін Еўропы і свету, а значыць, і на выхад з крызісу.

Алесь **ДРАБЧУК**. (Н. Воля)

# "Я ўдзячны лёсу", -- прызнаўся Генадзь Бураўкін на сваім творчым вечары

У фае Дома літаратара, перад пачаткам вечара, я купіла новую кнігу паэта "Чытаю тайнапіс вачэй". Разгарнула наўгад, на старонцы з кароценькім вершам "Юнацтва сінія арэлі", прабегла вачыма першыя радкі. І адразу ж паланіла музыка простых, з глыбіняў сардэчнай памяці слоў, непасрэднасць і свежасць даўняга, але не згаслага пачуцця.

Сто дзесяць вершаў пра каханне пад адной вокладкай... Адгарнула другую старонку, трэцюю, чацвёртую. Ужо трэба было заходзіць у залу, а я злавіла сябе на нейкім дзіўным, нават алагічным жаданні: хай бы адкрыццё вечарыны хоць на крышачку затрымалася б, а я яшчэ хоць крышачку пачытаю...

Мастак, які сапернічае сам з сабою, пэўна, можа пазайздросціць сам сабе. Але дарэмнымі былі мае дапушчэнні, што размова аб паэзіі Генадзя Бураўкіна можа хоць у нейкай ступені прыцьміць асалоду ад самой паэзіі Генадзя Бураўкіна. Ніякіх лекцый-нудзілавак тут не было і знаку. А былі шчырыя віншаванні сяброў з нагоды 65-годдзя Генадзя Мікалаевіча (і першае з іх -- сардэчны ліст ад Васіля Быкава), сур'ёзныя і гумарыстычныя пажаданні, шмат жартаў, досціпаў, смяшынак, каламбураў, сюрпрызаў, нязмушанай весялосці -- як і "паложана" сярод блізкіх, сваіх людзей. Ды і ці магло быць інакш, калі вёў рэй не хто іншы, як Рыгор Барадулін -- непаўторны майстар трапнага слова, зямляк і сябра Генадзя Бураўкіна яшчэ з юначай пары і "па сумяшчальніцтве" -- народны паэт. Галоўнае ж, тут была шырокая прастора для вершаў, якія хацелася слухаць і слухаць -- і з апошняй, і з ранейшых кніг, і толькі што напісаныя радкі. Іх чыталі нашы знаныя артысткі Марыя Захарэвіч і Галіна Дзягілева, акцёр Вячаслаў Галуза і сам аўтар. Спявалі Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, кампазітар Мікола Яцкоў, бард Ігар Добры. Збіраўся (ды чамусьці не сабраўся) быць на вечары сам Ігар Лучанок, чыё творчае супольніцтва з паэтам дало багаты плён. І наогул, кампазітары любяць працаваць з ім, бо паэт не выпякае "тэксты"-аднадзнёўкі, а проста піша добрыя вершы, меладычныя і пранікнёныя. Яны самі просяцца на музыку. Каб усе бураўкінскія песні, што ў нас на слыху, у памяці і сэрцы, сабраліся разам ды запатрабавалі сваё законнае права на выкананне, канцэрт доўжыўся б да раніцы...

Нестарэючыя шлягеры "Завіруха", "Зачарованая мая", "Конь незацугляны", "Не шукайце красу за марамі", "Франтавыя дарогі", "Я ўдзячны лёсу", "Малітва", яшчэ, і яшчэ, і яшчэ. Мы любім іх, спяваем, пражываем з імі жыццё. Яны кранаюць запаветныя струны, гавораць, як і ўсё лепшыя творы паэта, аб дарагім, незабыўным, вечным.

Усяго трыма словамі папрасілі юбіляра акрэсліць галоўнае ў яго творчасці. І ён сказаў: "Радзіма, прырода, жанчына". Так яно і ёсць. Толькі паспрабуй аддзяліць адно ад другога -- нічога не атрымаецца. "Патухаюць, цямнеюць высі, зоркі ўспыхваюць над сінявой"... "Ты, помніш, мне казаў: "Няможна жыць, зусім не можна жыць без Беларусі"... "Душа пяе, а слоў знайсці не можа..." Дзе, скажыце, тут "патрыятычная", а дзе "пейзажная", "філасофская" ці "інтымная" лірыка? Няпростая задачка для літаратуразнаўцаў. Усё ў яго спавядальнай паэзіі зліта ў адно непадзельнае цэлае, сэнс якога -- Любоў. Любоў да мілага полацкага краю -- калыскі беларускай духоўнасці, дзе ён нарадзіўся і рос, да някідкай, шчымлівай красы бацькоўскай зямлі, да Маці-Беларусі, да каханай -- адзінай, найлепшай у свеце жанчыны. Ён удзячны лёсу -- паўтарыў паэт сваё даўняе прызнанне -- за тое, што "выбраў для яго старонку гэту", адарыў неацэнным дарам. І ён не змяняе гэты лёс, сваю зямлю з усім, што ёй наканавана, з яе бедамі, радасцямі І выпрабаваннямі ні на якія казачныя берагі і дабрoты.

Вернасць -- вось жыццёвае і творчае крэда Генадзя Бураўкіна. Дзе б ён ні быў, што б ні рабіў -- заўсёды ўсімі сіламі душы і таленту, грамадзянскага сумлення служыць Бацькаўшчыне. Нехта слушна назваў яго чорнарабочым беларускай справы, дбайным ратаем нашай нацыянальнай нівы, кожнае слова і кожны крок якога -- дзеля Беларусі. Ніколі, ні ў якіх варунках ён не саступіў са свайго шляху. У свой час, на пасадзе старшыні Белдзяржтэлерадыё рабіў усё, каб надаць, наколькі было магчыма, інтэлігентнасць і беларускасць нашаму эфірнаму вяшчанню. Менавіта пры Бураўкіне беларускія хлопчыкі І дзяўчынкі ўпершыню пачулі калыханку на роднай мове, а ва ўсе ўладныя інстанцыі пасыпаўся паток пратэстаў "ветэранаў штурму Зімняга" кшталту: "Этот националист хочет исковеркать души советских детей!".

Прадстаўніком Рэспублікі Беларусь у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Генадзь Бураўкін адкрываў усяму свету сваю краіну з яе багатай гісторыяй і культурай, важкім унёскам у агульначалавечую цывілізацыю. На чале Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ён шчыраваў, каб аберагчы святое роднае слова ад канчатковага вынішчэння антыбеларускай сённяшняй дзяржавай... Мінулым летам спрычыніўся да арганізацыі і правядзення ў Менску Трэцяга зьезду беларусаў свету...

Сэрца паэта поўніцца трывогай за лёс Радзімы:

Мы здалёк убачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут.
Божа, не дабаў майму народу
Пошасці, няпраўды і пакут...

З малітвай аб шчасці Бацькаўшчыны ідзе, жыве і творыць чалавек, які саграе гэтую зямлю сваім дыханнем, дорыць нам святло, пяшчоту і ў змрочны час успрымае жыццё ва ўсёй яго шматграннасці. Давайце павучымся гэтаму ў паэта, які і ў 65 не згубіў здольнасці ўзлятаць у неба на арэлях юначай закаханасці ў сваю нявыдуманую Лауру -- жонку Юлю. І нікому нізашто не зьбірaецца аддаваць скарбы сваёй душы.

Святлана **КЛІМЕНЦЕНКА.** (Н. В.)

# Армейскія шэрагі парадзеюць...

Да 2006 году Узброеныя Сілы Беларусі будуць скарочаныя на 18 тысяч чалавек. Пра гэта БелаПАН паведаміў часова выконваючы абавязкі начальніка ўпраўлення кадраў міністэрства абароны палкоўнік Аляксандр Цапота. На 1-га студзеня 2006 года, у адпаведнасці з планам завяршэння фармавання, колькасны склад Узброеных Сіл будзе скарочаны да ўзроўню 50 тысяч салдат і афіцэраў і 15 тысяч чалавек грамадзянскага персаналу (сёння агульная колькасць Узброеных Сіл — 83 тысячы чалавек). Разам з тым, паводле словаў Аляксандра Цапоты, «усе, хто хоча служыць, — служыць будуць». Рэфармаванне, паводле яго словаў, азначае «ў першую чаргу, арганізацыйна-штатныя мерапрыемствы, скіраваныя на аптымізацыю армейскіх структураў, зніжэнне расходаў на іх утрыманне, павышэнне кіруемасці баявых падраздзяленняў, вырашэнне сацыяльных праблемаў ваеннаслужачых».

А.Цапота паведаміў, што цяпер фактычна завершаная кампанія па заключэнні кантрактаў міністэрствам абароны з афіцэрамі Узброеных Сіл. Не пажадалі заключыць кантракт каля 500 ваеннаслужачых, або 3,3% ад агульнай колькасці афіцэраў. Яшчэ 1.500 афіцэраў часова не заключылі кантракт з прычыны праводжаных арганізацыйна-штатных змяненняў.

За апошнія 10 месяцаў, у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам мінулага года, зменшылася на 40% колькасць афіцэраў, якія пакінулі Узброеныя Сілы па ўласным жаданні.

 



# Гімназія «новага тыпу»

1-га верасня 2002 года ў Мінску мае быць адчыненая беларускамоўная гімназія. Такое рашэнне сёлета 5 верасня прыняў Мінскі гарвыканкам. У рашэнні сталічных уладаў гаворыцца, што адкрыццё гімназіі з беларускай мовай навучання робіцца ў рамках пастановы Савета міністраў 28 жніўня «Аб зацвярджэнні праграмы дадатковых мераў па пашырэнні выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі». Рашэннем мэрыя даручыла начальніку ўпраўлення адукацыі выканкама Міхаілу Ціцянкову да «1 лістапада 2001 года ўнесці прапановы па месцы размяшчэння гімназіі і яе профілю», а таксама «правесці неабходную арганізацыйную работу па стварэнні ўмоваў для адкрыцця дадзенай установы новага тыпу». Адкрыццё беларускамоўнай гімназіі — гэта беспрэцэдэнтны выпадак у Мінску за апошнія гадоў сем, калі пасля надання роўнага статусу беларускай і рускай мовам беларушчына выцясьнялася з усіх сфераў жыцця.

Ідэя з адкрыццём беларускамоўнай гімназіі доўга ішла да жыцця. Каардынатар камітэту Ігар Хляба гаворыць, што яшчэ ў 1999 годзе яны звярталіся ва ўпраўленне адукацыі Мінгарвыканкама, аднак толькі перад самымі выбарамі сталічныя ўлады рашыліся на адкрыццё гімназіі ў цэнтры Мінска. І.Хляба патлумачыў, што ўсе 11 беларускамоўных школаў сталіцы знаходзяцца на перыферыі: у Зялёным Лузе, Кунцаўшчыне, карацей, дзе заўгодна, але не ў цэнтры Мінска. Цяпер ужо вядома, што новая беларускамоўная гімназія размесціцца ў сярэдняй школе №23, якая знаходзіцца паблізу плошчы Якуба Коласа — зразумела, што сюды будучым гімназістам нават дабірацца выгадней, хоць бы і з акраінных раёнаў горада.

Упраўленне адукацыі схіляецца да таго, каб зрабіць беларускамоўную гімназію з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. Мінскі гарадскі бацькоўскі камітэт беларускіх школаў і садкоў, не адмаўляючы такога варыянту, прапануе засяродзіцца на двух напрамках: гуманітарным ды матэматычным. Кваліфікаваных настаўнікаў дакладных навук можна пералічыць на пальцах, хоць адпаведныя спецыялісты, якія выйдуць са сценаў гімназіі, будуць запатрабаваныя і БДУ, і іншымі ВНУ краіны...

********************************

## Помнік Ларысе Геніюш усталяваны і чакае свайго ўрачыстага адкрыцця

**Два гады таму прэса паведамляла, што створаны аргкамітэт па ўзвядзенні ў Зэльве помніка Ларысе Геніюш, што помнік, адліты ў сілуміне, стаіць у кабінеце старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў і чакае толькі таго часу, калі мясцовыя ўлады Зэльвы дадуць дазвол на яго ўзвядзенне.**

Як вы ўжо здагадаліся, нашыя шаноўныя чытачы, ні ўлады Зэльвенскага райвыканкама, ні ўлады Гродзенскага аблвыканкама такога дазволу не далі, хоць кіраўніцтва Саюзу беларускіх пісьменнікаў неаднаразова звярталася з такім хадайніцтвам. Мабыць, пабаяліся, што ад устаноўкі гэтага помніка адбудзецца ў Зэльве землятрус, неба ўпадзе на зямлю, а зямля паляціць у неба, а можна чакаць і горшага -- духам вялікай беларускай патрыёткі будзе знішчаны сучасны палітычны рэжым.

Вясной 2001 года аргкамітэту стала канчаткова зразумела, што усталяваць помнік у Зэльве да станоўчага вырашэння прэзідэнцкіх выбараў не ўдасца. Паўстала пытанне: што рабіць з помнікам? Разглядаліся тры прапановы: Анатоля Белага -- помнік паставіць часова ў сядзібе-музеі ў Старых Дарогах, дзе дазвол на яго ўстаноўку не патрэбен; Міхася Скоблы -- помнік часова паставіць у памяшканні краязнаўчага музея у в.Гудзевічы; Вольгі Іпатавай -- помнік часова паставіць у памяшканні Дома літаратара.

Сябры аргкамітэта адхілілі прапанову А.Белага, палічыўшы, што Ларыса Геніюш ніяк не звязана са Старымі Дарогамі, а яе помнік павінен стаяць у Зэльве, дзеля гэтага ён і рабіўся. Па гэтай жа логіцы паставіліся і да Гудзевічаў з дадаткам таго, што помнік належыць да манументальнага мастацтва, а не зьяўляецца камерным творам. Застаўся варыянт захаваць помнік на нейкі час у Доме літаратара.

Улічваючы ўсю неабходнасць усталявання на Беларусі першага помніка рэпрэсаваным грамадзянам, кіраўніцтва клуба "Спадчына" на сваім пасяджэнні вырашыла, што лепшым увасабленнем усіх палітычна рэпрэсаваных на Беларусі можа паслужыць вобраз Ларысы Геніюш. Сябра клуба прафесар Аляксей Саламонаў звярнуўся да аўтара помніка, скульптара Міхася Інькова, з просьбай даць дазвол на аўтарскі паўтор помніка Ларысе Геніюш. Дазвол быў атрыманы, а праз тры месяцы новы помнік Ларысе Геніюш, выкананы ў медзі, быў дастаўлены на сядзібу Анатоля Белага ў Старых Дарогах і ў канцы верасня ўсталяваны на пастаменце.

Саюз беларускіх пісьменнікаў і кіраўніцтва клуба "Спадчына" прынялі рашэнне ўрачыста адкрыць помнік Ларысе Геніюш у Старых Дарогах 9 снежня бягучага года. У гэты дзень споўніцца 45 гадоў, як Ларыса Геніюш вярнулася на Бацькаўшчыну са сталінскіх



лагераў. Улічваючы тое, што мы ставім першы помнік на Беларусі паліткатаржанцы, гэтая дата ў жыцці вялікай змагаркі павінна стаць дамінантай.

Саюз беларускіх пісьменнікаў, клуб "Спадчына" запрашаюць усіх, каму дарагая творчасць паэтэсы, хто лічыць сябе сябрам, вучнем, прыхільнікам, знаёмым Ларысы Геніюш, прыехаць 9 снежня ў Старыя Дарогі на адкрыццё помніка ёй. Няхай кожны адчуе непарыўную сувязь з Ларысай Геніюш.

А што да тэзы, "што Ларыса Геніюш ніяк не звязана са Старымі Дарогамі", то гэта памылка местачковага маштабу, бо вялікая дзяячка нашага Адраджэння кроўна зьвітавана з усёй этнічнай тэрыторыяй Беларусі, а таму і са Старымі Дарогамі. І кожны, хто прыедзе ў гэты горад на адкрыццё яе помніка, пераканаецца ў гэтым, калі сам пабачыць і пачуе, як "дзеткі патомныя" будуць чытаць вершы паэткі.

Мікалай ІВАНАЧКІН. – (Н.В.)

************************************************************

## Тацяна Працька: "Прэзыдэнта выбрала ўлада"

Ад 25 да 28 адсоткаў галасоў за Ганчарыка, Гайдукевіча або супраць усіх кандыдатаў на выбарах прэзыдэнта былі перададзеныя Аляксандру Лукашэнку - такая высвова зроблена ў працэсе незалежнага назіраньня за ходам галасаваньня. Адпаведныя лічбы названыя ў спэцыяльным дакладзе Беларускага Хэльсынскага камітэту "Выбары прэзыдэнта Беларусі: вынікі незалежнага назіраньня". Іх агучылі кіраўнікі незалежнага назіраньня Тацяна Працька й Мечыслаў Грыб.

Паводле падлікаў незалежнага назіраньня, фальсыфікацыі чыніліся на ўсіх роўнях выбарчага працэсу: ад датэрміновага галасаваньня да падліку галасоў.

Кіраўнікі незалежнага назіраньня заяўляюць, што пры наяўных варунках правядзеньня сёлетніх выбараў прэзыдэнта іх наагул можна было й не арганізоўваць. Маштабы фальсыфікацыяў нагэтулькі значныя, што нават не паддаюцца поўнаму апісаньню й фіксаваньню. Можна казаць толькі аб прыблізных памерах фальсыфікацыяў - гэта траціна ад усіх галасоў.

Меркаваньне Мечыслава Грыба:

- З нашае ацэны памеры фальсыфікацыяў ахопу не паддаюцца. Мы ўпэўненыя, што ніхто ня ведае рэальных лічбаў: як і за каго прагаласавалі.

Спадар Грыб перакананы, што канкрэтных лічбаў фальсыфікацыяў ня ведаюць ня толькі ў тэрытарыяльных камісіях і ў Цэнтравыбаркаме, але іх ня ведае нават прэзыдэнт.

Тое ж цьвердзіць і старшыня БХК Тацяна Працька:

- Нельга называць аніякіх лічбаў. Сацыялягічныя апытаньні ёсьць: вы ведаеце настрої людзей. А выбары на сёньняшні дзень ня могуць даць аніякае лічбы, бо гэта былі ня выбары, а прыпісваньне галасоў і перапісваньне пратаколаў.

Сп-ня. Тацяна Працька, спаслаўшыся на крыніцы ў Адміністрацыі прэзыдэнта, паведаміла: 9 верасьня ў атачэньні кіраўніка дзяржавы да апошняга вагаліся: пісаць 80% за Лукашэнку, або - 52%, як у свой час у Расеі за Пуціна. Урэшце спыніліся на лічбе 75%.

"Прэзыдэнта выбрала ўлада", - рэзюмавала Тацяна Працька. Яна ўважае, што сытуацыю ўскладняе беспакаранасьць фальсыфікатараў выбараў - і гэта азначае: заганная практыка будзе доўжыцца й далей. На думку сп-ні Працькі, у Беларусі не замацаваныя прынцыпы законнасьці: грамадства жыве не паводле закону, а з волі асобных людзей, якія кіруюць дзяржаваю.

Што да практычных вынікаў маніторынгу парушэньняў у часе выбараў, дык кіраўнікі БХК спадзяюцца: іх прааналізуюць ўва ўладных калідорах і зробяць адпаведныя высновы. Сп-ня Працька мяркуе, што справаздача пра выбары павінна паўплываць і на пазыцыю парлямэнтароў у перагалядзе дзейнага заканадаўства, каб стварыць надзейную абарону ад паўтору падобных сцэнароў. (Паводле Радыё Р.)

=====================================

## Легіёны чужых – нібы беларусы...

**Амаль палова нацыянальных зборных Беларусі на зімовай Алімпіядзе будзе прадстаўлена зусім не беларусамі.**

...Мы б прапанавалі закрануць такое пытанне. Галоўная ідэя новага веку -- глабалізацыя -- захапіла ня толькі палітыку, эканоміку і гэтак далей. Яна закранула і спорт. Прычым значна раней. Што я маю на ўвазе?

Возьмем, напрыклад, беларускі спорт. Усё часцей у яго трапляюць спартсмены з іншых краін. Гэта робіцца паўсюдна, прычым не першы дзесятак год. І тут мы не былі першапраходцамі. Узгадаем, напрыклад, славуты паўночна-амерыканскі хакей у НХЛ... Увогуле, кожная краіна, якая дасягнула поспехаў на міжнароднай арэне, можа прывесці прыклады са сваёй практыкі. Такое становішча мы бачым навокал.

Але каб так званыя легіянеры зьяўляліся ў складах нацыянальных зборных іншых краін не па адзіночцы, а цэлымі "легіёнамі" -- гэта адбываецца ўпершыню. І гаворка ідзе аб нашай дзяржаве.

У апошні час узніклі цэлыя калектывы, складзеныя з расіян, якія, калі патрабавалася, імгненна ператвараліся ў беларусаў, атрымлівалі сінія пашпарты і станавіліся нашымі суайчынікамі. Патрэбны факты? Калі ласка. Толькі паспявайце загібаць пальцы.

Жаночая зборная па біятлоне, жаночая каманда па лыжных гонках, члены нацыянальнай зборнай па фігурным катанні, шорт-трэку... Сапраўдная экспансія з боку ўсходняга суседа. Хоць ён нам і першы сябра.

Рэпетыцыі такой "глабалізацыі" прайшлі даўно, а пачалася яна з барацьбы, калі на беларускіх дыванах падчас збораў галоўнай дружыны краіны трэніраваліся розныя прадстаўнікі шматнацыянальнай Расіі. Слоў няма, сустракаліся сярод іх выдатныя спартсмены, для якіх наш сцяг і гімн былі не чужымі, сталі сапраўды роднымі, але гаворка ідзе, на жаль, толькі аб некаторых з іх.

Як правіла, да нас прыязджаюць майстры, якім ужо нічога "не свеціць" на радзіме. Я разумею іх настрой. Цяжка, калі ты аддаеш сябе цалкам любімай справе, а сустракаеш напрыканцы свайго спартыўнага шляху зачыненыя дзверы. Але што рабіць хлопцам, якія нарадзіліся тут і таксама мараць аб спартыўнай вышыні?

Беларускі спорт апошнія гады мае вялікія праблемы. Перш за ўсё, гэта датычыцца яго масавасці. Менавіта з нізоў пачынаем шукаць мы таленты, Мядведзямі ці Раманькавымі адразу не нараджаюцца. Спартыўныя секцыі гадуюць, песцяць іх і даюць пуцёўку ў жыццё.

На жаль, адбываецца так, што моладзь асабліва не імкнецца ў спорт. Зачыняюцца секцыі. Кідаюць працу, якой іх вучылі ў інстытутах і акадэміях, трэнеры. На стадыёнах і пляцоўках пасуцца каровы...

Спартыўнае кіраўніцтва краіны бачыць толькі верхнюю частку айсберга -- спорт вышэйшых дасягненняў. А што ўнізе -- там хоць трава не расці.

Зразумела, добразычлівыя расіяне даюць нам, прабачце, тавар не першай якасці, другога, а то і пятага гатунку. І нашы спецыялісты добра разумеюць, што кардынальна праблемы не вырашаюцца. Калі хочаш нешта зрабіць, трэба пачынаць з пачатку. Ну, прынясуць нам біятланісткі ці лыжніцы нейкія ...наццатыя месцы на Алімпіядзе. А што далей? Колькі дзяўчат і хлопцаў ужо пакідаюць спартыўныя секцыі ў той час, калі вы чытаеце гэты артыкул?

У трэнераў, якія яшчэ цалкам не адмовіліся ад сваёй працы, безумоўна, апускаюцца рукі. Могуць з'явіцца велізарныя амбарныя замкі на спартыўных пабудовах дзесяці ў глыбінцы.

Які сэнс тады займацца тым жа біятлонам, калі ў любую хвіліну цябе могуць выкінуць на вуліцу? І не толькі са зборнай. Галы, ачкі, секунды патрэбны на розных узроўнях. Чэмпіянатах вобласці, раёна, горада. І, атрымліваецца, значна танней запрасіць на некалькі сезонаў нейкую зыходзячую зорку з-за мяжы, чым гадаваць сваіх. Дык навошта тады агарод гарадзіць?

Уладзімір ДАЎЖЭНКА. -- (Н.В.)

КУРС ДОЛАРА

1550

 

# Мова павінна быць мэтай, а не гвалтам

## Беларускі нацыянальны універсітэт: мара ці рэальнасць?

***Пра тое, што беларуская мова ў нашай краіне - пытанне палітычнае, так ці інакш мы ўзгадваем усюды, пачынаючы ад сямейнай кухні і заканчваючы кабінетам чыноўніка. Так склалася, што з палітыкай воляй-няволяй звязваюць і стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ). Камусьці магчымасць адкрыцця гэтай вышэйшай навучальнай установы з выключна беларускай мовай навучання падабаецца, камусьці - не. Аднак зараз, мабыць, упершыню за доўгі час існавання гэтай ідэі пра яе загаварылі больш сур'ёзна. Пацвярджэнне таго - з'яўленне Праекта Канцэпцыі стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, які быў надрукаваны ў такіх дзяржаўных і недзяржаўных выданнях, як "Наша слова", "Пагоня", "Рабочы", "Беларуская маладзёжная", "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "Народная воля". Але найбольш важнай і, шчыра кажучы, некалькі нечаканай надзеяй стала прапанова Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны (ТБМ) - аўтара ідэі БНУ - абмеркаваць пытанне яго адкрыцця на адной з сустрэч удзельнікаў грамадска-палітычнага дыялогу. Што з гэтага атрымаецца - пакажа час. А пакуль мы вырашылі пагутарыць з чалавекам, які мае да гэтай праблемы непасрэднае дачыненне, - старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алегам Трусавым.***

- Ідэя стварэння вышэйшай навучальнай установы, у якой навучанне і справаводства вяліся б толькі на беларускай мове, - распавядае наш суразмоўца, - узнікла ў нас амаль тры гады таму. Праз некаторы час да ТБМ далучыліся Таварыства беларускай школы і Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны. Восенню мінулага года ўтварылася спецыяльная ініцыятыўная група, якая нарэшце распрацавала праект статута БНУ. Сёння мяркуецца, што універсітэт будзе мець філіялы ў беларускіх гарадах, насельніцтва якіх складае больш за 100 тысяч жыхароў і дзе адсутнічаюць іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Перш за ўсё - у Лідзе, Оршы, Пінску, Бабруйску.

У Беларускім нацыянальным універсітэце плануецца стварыць шэсць факультэтаў - фізіка-матэматычны; юрыдычны з аддзяленнямі міжнароднага, грамадзянскага і адміністрацыйнага права; філасофскі, на якім папярэдне будуць навучаць студэнтаў па трох спецыяльнасцях - сацыялогіі, культуралогіі і тэалогіі. Таксама павінны быць створаны прыродазнаўчы і гісторыка-лінгвістычны факультэты. Апошні, акрамя гістарычнага і музейна-архіўнага, будзе мець і лінгвістычнае аддзяленне, дзе збіраюцца рыхтаваць прафесійных перакладчыкаў, літаратурных крытыкаў, журналістаў, рэдактараў і спецыялістаў выдавецкай справы. Шосты, эканамічны, факультэт будзе мець кафедру дэмаграфіі, бо на Беларусі апошнім часам вельмі востра адчуваецца неабходнасць у такіх кадрах. Асаблівую ўвагу варта звярнуць на стварэнне кафедраў вайсковай гісторыі Беларусі, гісторыі архітэктуры і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва - гэта, мяркую, будзе і цікава, і карысна.

Студэнты кожнага факультэта будуць вывучаць гісторыю сваёй спецыяльнасці, шырокі курс беларусазнаўства і, акрамя абавязковай для кожнага заходнееўрапейскай мовы, па сваім выбары адну са славянскіх моў. Можна будзе пазнаёміцца і з балцкімі, і з мовамі народаў Усходу (хіндзі, японскай, арабскай і г.д.). Такая "шматмоўная" палітыка абумоўлена перш за ўсё дыпламатычнымі стасункамі Беларусі з іншымі краінамі свету. Тут дарэчы ўзгадаць простую ісціну: хочаш мець з нейкай краінай добрыя адносіны - размаўляй на яе мове. У Літве і Польшчы пра гэта не толькі памятаюць - там ужо вывучаюць беларускую мову. А мы... мы ў гэтым сэнсе выглядаем не зусім прыгожа: краіна, якая гучней за ўсіх крычыць пра тое ж славянскае адзінства, надае мала ўвагі мове суседняй дзяржавы і важнага партнёра Беларусі на міжнароднай арэне - Украіны, рэдка дзе вывучае чэшскую, балгарскую ці сербскую, зусім ігнаруе славенскую... і грэбуе сваёй роднай - беларускай. Выпускнікам і без таго нешматлікіх беларускамоўных класаў і школ проста няма куды падзецца: амаль усе ВНУ, што прапануе ім наша сістэма вышэйшай адукацыі, з рускай мовай навучання. Або спыняйся на тым, што ўжо атрымаў, або мірыся з разнастайнымі, у тым ліку і псіхалагічнымі, цяжкасцямі, паступіўшы ў абраную вышэйшую навучальную ўстанову. Трэцяга не дадзена. Таму, відавочна, неабходнасць у стварэнні БНУ ужо наспела.

*- Алег Анатольевіч, у адносінах да Беларускага нацыянальнага універсітэта вы часта ўжываеце наступныя азначэнні: новая беларуская навучальная ўстанова еўрапейскага тыпу, элітны універсітэт. Што прынцыпова новага чакае нас у ім?*

- Змешаная еўрапейска-амерыканская мадэль атрымання вышэйшай адукацыі. Галоўнай яе асаблівасцю з'яўляецца дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў і прынцып акадэмічнай свабоды. Апошні прадугледжвае, што студэнт сам вырашае, хадзіць яму на заняткі

(Далей на бач.9-й)

# ВЫРАТАВАНЬНЕ

## СТРАТЭГІЯ АФІЦЫЙНАГА ВЫКАРЫСТАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ

У практыцы цывілізаваных краін яшчэ не назіралася такога, каб у час, калі шмат якія народы вядуць змаганне за нацыянальна-культурнае адраджэнне, у ім не брала аніякага ўдзелу наша дзяржава, хаця ў яе не можа быць больш святога абавязку, як усяляк дапамагаць такому руху. Таму сёння многіх беларусаў моцна здзіўляе, чаму дзяржаўныя ўлады нашай краіны не толькі стаяць убаку ад яго, але нават сям-там чыняць сур'ёзныя перашкоды. Хочацца думаць, што гэтая супярэчная беларускаму нацыянальнаму інтарэсу з'ява ўсё ж носіць часовы характар і мы неўзабаве станем сведкамі актыўнага ўдзелу ўладных структур у выратаванні роднай мовы тытульнай нацыі дзяржавы, як гэта было ў 20-я гады мінулага стагоддзя. І як у тыя гады, на беларускай мове запрацуюць усе органы ўлады і кіравання, а дзяржаўным дзеячам будзе ганарова карыстацца родным словам народа, які даверыў ім вырашаць свой лёс.

Ад таго часу як пазначацца першыя пазітыўныя зрухі ва ўсталяванні беларускай мовы ў дзейнасці дзяржаўных органаў, міністэрстваў і ведамстваў, прадпрыемстваў і ўстаноў, намнога прасцей яе будзе ўкараняць ва ўсіх навучальных установах. А гэта архіважна ў справе нацыянальна-культурнага адраджэння любога народа. Як біялагічны стан нацыі залежыць ад вынікаў працы на збожжавых палетках, так этнакультурны стан яе вызначаецца нацыянальным фактарам у сістэме народнай адукацыі. Гэта добра ведалі яшчэ ў старажытнасці, і калі хацелі без праліцця крыві знішчыць той ці іншы народ, вучылі на чужой мове, усяляк стараліся адарваць іх ад уласнай культуры, пазбавіць гістарычнай памяці. Для беларусаў такія жорсткія выпрабаванні амаль бесперапынна доўжацца яшчэ з тых часін, калі яны разам з палякамі жылі ў складзе Рэчы Паспалітай, а пазней з рускімі — у царскай імперыі. Зараз, дзякаваць Богу, становішча карэнным чынам змянілася. Беларусь, як любяць заяўляць палітыкі, стала суверэннай дзяржавай і, ні ў кога не пытаючы дазволу, можа будаваць сістэму народнай адукацыі на собскім духоўным падмурку. Каб гэтую праблему дзяржаве даводзілася вырашаць з народам, асабліва палітыкамі і інтэлігенцыяй з трывалай нацыянальнай самасвядомасцю, асаблівых цяжкасцяў не існавала б. Зусім іншая справа, калі "суверэнная" Рэспубліка Беларусь атрымала ў спадчыну ад СССР моцна зрусіфікаваны народ. Але і ў такой сітуацыі ў нацыянальна-прагрэсіўных колах грамадства не павінны апускацца рукі. Галоўнае, каб самі дзяржаўныя органы сур'ёзна заняліся беларусізацыяй сваёй дзейнасці, тады прасцей будзе скіраваць на такі шлях і адукацыю. Вельмі важна — тут ужо можна спаслацца і на айчынны вопыт міжваеннай беларусізацыі, — каб пераход на беларускую мову ажыццяўляўся раўналежна ва ўсіх установах выхавання і навучання, пачынаючы ад дзіцячага садка і канчаючы інстытутам ці універсітэтам. Калі ж працаўнікам беларускай ідэі ўдасца пэўную частку найбольш зрусіфікаваных людзей прычыніць да нечага падобнага на лінгвістычныя забастоўкі, дык і ў такіх сітуацыях ёсць выйсце. Неабходна забяспечыць, як таго патрабуе майскі рэферэндум 1995 года, прапарцыянальнае выкарыстанне і беларускай, і рускай моў у педагагічным працэсе. Такім шляхам ужо прайшлі ці ідуць шмат якія народы свету.

У гэтым сэнсе варта колькі слоў сказаць пра вынаходлівасць настаўнікаў з Каталоніі, аўтаномнай вобласці Іспаніі, якія паказалі і паказваюць сябе найбольш актыўнай часткай інтэлігенцыі ў нялёгкім змаганні за нацыянальнае выжыванне. У мэтах хутчэйшага авалодвання школьнікамі роднай каталонскай мовай, якую пачала выцясняць іспанская, ім прапаноўвалі не толькі на пераменках, але і на занятках размаўляць паміж сабою ў форме каталонска-іспанскага дыялога ці пры адказе на пытанне педагога спачатку выкарыстоўваць адну, а потым і другую мову.

Развіццё мовы таго ці іншага народа моцна залежыць і ад яе месца ў такой прэстыжнай сферы дзейнасці чалавека, як **навука**. Сама логіка навуковага мыслення, наяўнасць багатай навуковай тэрміналогіі, неабходнасць гаварыць і пісаць пра з'явы высокай матэрыі не могуць не паўплываць на стан і развіццё мовы. Зразумела, дзеля выхаду на сусветную арэну, для прапаганды дасягненняў айчыннай навукі неабходна выкарыстоўваць і больш распаўсюджаныя ў свеце мовы, аднак мова карэннага насельніцтва краіны павінна ў поўным аб'ёме абслугоўваць унутраныя патрэбы навукі: ужывацца пры складанні ўсіх відаў службовай і навуковай дакументацыі, правядзенні пасяджэнняў вучоных і навуковых радаў, канферэнцый, сімпозіумаў, "круглых сталоў", арганізацыі мерапрыемстваў, звязаных з прафесійнай дзейнасцю навукоўцаў.

Істотнае пагаршэнне моўнага становішча ў краіне цесна звязана з рэзкім звужэннем сферы выкарыстання роднага слова ў дзейнасці дзяржаўных установ **культуры**, а таксама непрафесійных мастацкіх калектываў. Асабліва выразна такое стала назірацца пасля майскага рэферэндуму 1995 года, які зрабіў зусім неабавязковым развіваць культуру Беларусі на яе роднай мове. Многія кіраўнікі дзяржаўнага сектара культуры лічаць, што дастаткова тут будзе і рускай мовы, якую зараз у нас лепш разумеюць за беларускую. Выходзіць, не марна на працягу больш як два стагоддзі стараліся і стараюцца русіфікатары, у тым ліку і з саміх беларусаў.

Хоць многія элітарныя колы нашага грамадства вялікім прагрэсам называюць франтальнае выцясненне беларускай мовы рускай, прычым нават і з прафесійна-культурнай дзейнасці чалавека, я ніяк не магу пагадзіцца з такой памылковай і шкоднай высновай. Цвёрда перакананы: нішто не робіць дзеяча культуры такім непатрэбным на духоўнай ніве Беларусі, як неваloданне і невыкарыстанне роднай мовы. Як найстрашнейшае боскае пакаранне беларускага народа, гэтае зло з гадамі набывае ўсё больш і больш шырокія маштабы, як ніколі раней, прычыняе яму глыбокія раны. Дажыліся да таго, што нават **абсалютная бальшыня высока ўганараваных дзяржавай дзеячаў культуры не ведае, цураецца мовы народа краіны**, хоць і мае тут сталую працу. Такога наслання я не пажадаў бы нават якому-небудзь нешматлікаму племені. А ў нас на Беларусі не без дапамогі саміх жа работнікаў культуры, якія ва ўсіх цывілізаваных нацый з'яўляюцца асноўнымі носьбітамі духоўных, моўных традыцый, штодня ўчыняецца адкрытае моўнае калечанне дзесяцімільённага народа. І каб апраўдаць такое злачынства, палітыкамі супольна з блізкімі з імі навукоўцамі прыдуманы і ўсяляк распаўсюджваецца на самым высокім дзяржаўным узроўні міф, што беларусы ёсць адзіны ў свеце народ, у якога не адна родная мова, а дзве: беларуская і руская! Таму апошняя можа панаваць і ў нашай прафесійнай культуры.

Хутчэй за ўсё не па сваёй ініцыятыве, а ў выніку ідэалагічнага ўздзеяння многія прадстаўнікі прафесійнай культуры ўзялі на сябе зусім не ўласцівыя для іх функцыі: быць актыўнымі інтэгратарамі палітычнага аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну саюзную дзяржаву. Вядома, для нацыянальна пасіўнага кампазітара, музыканта, артыста куды больш пажаданым з'яўляецца працаваць не на карысць уласнага народа, а дэманстраваць свой талент на як мага больш шырокіх расійскіх тэрытарыяльных прасторах, выконваць у арыгінале творы, што належаць народам з прызнанай у свеце культурай, чым выкарыстоўваць свой талент пераважна на працягах Беларусі. На такі высакародны нацыянальны ўчынак здольныя пайсці толькі асобы, якіх нават самыя магутныя сілы, высокія ганарары не ў стане вылушчыць з арганізма роднага народа.

Сёння, як ніколі раней, на такіх асобаў у нас велізарны дэфіцыт. Амаль усе, што маюць хоць і самы мізэрны талент у той ці іншай сферы мастацкай дзейнасці, кінуліся пасля майскага рэферэндуму 1995 года шырыць, мацаваць рускую культуру на Беларусі. І самае парадаксальнае, такія разбуральныя працэсы ў духоўным жыцці Беларусі ўсяляк падтрымліваюць адпаведныя дзяржаўныя структуры, якія, наадварот, павінны былі б імкнуцца да ўмацавання ў ім нацыянальных асноў. Каб паспрыяць мастацкай інтэлігенцыі Беларусі ў правядзенні актыўнай і бунімальнай працы, скіраванай да яшчэ большай інтэграцыі яе насельніцтва ў рускую культуру, практычна ўсе

чыноўнікі дзяржаўнай сферы культуры, пачынаючы ад дырэктараў дамоў і палацаў культуры і канчаючы апаратчыкамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, свядома ўхіляюцца ўжываць беларускую мову ў сваіх публічных выступленнях. Не выключана, што хтосьці гэта робіць і з прычыны няведання беларускай мовы. Таму вывучэнне, дасканалае авалоданне апошняй з мэтай зрабіць яе рабочай у дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных устаноў культуры павінны разглядацца ў якасці асноўнай задачы іх кіраўнікоў. Трэба як мага хутчэй пазбавіцца ад такой адмоўнай і шкоднай з'явы, калі прафесійная, элітарная культура замест узбагачэння нацыянальных асноў духоўнага жыцця мэтанакіравана разбурае іх. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў час правядзення традыцыйных "Славянскіх базараў" у Віцебску. Мала хто з прысутных на іх гасцей застаецца з уражаннем, што гэтае славянскае свята адбываецца на беларускай зямлі. Сама логіка вымушае мову карэнных жыхароў зрабіць рабочай у час правядзення ўсіх мерапрыемстваў, звязаных з кірмашом. Яна ж з'яўляецца блізкароднаснай не кітайскай, японскай ці якім-небудзь іншым усходнім мовам, а знаходзіцца ў адной групе з усімі славянскімі мовамі, таму прыродныя носьбіты іх з ліку мастацкай інтэлігенцыі без перакладчыка зразумеюць нас. Нас ніхто не асудзіў бы і правільна зразумеў бы, калі б адным з патрабаванняў удзелу ў "Славянскім базары" было выкананне кожным артыстам адной беларускамоўнай песні.

Вельмі хутка выпрацавалі "сваю" лінію ў паслярэферэндумны перыяд афіцыйныя і неафіцыйныя **сродкі масавай інфармацыі**, а таксама **выдавецтвы**. Выкарыстанне беларускай мовы ў іх дзейнасці апусцілася ніжэй за той узровень, на якім яно знаходзілася да так званага перабудовачнага часу. І адбылося такое пры самым актыўным удзеле дзяржавы. Будучы выхаванымі на рускамоўнай культуры, гэтыя новыя людзі, што з'явіліся апошнімі гадамі на тэлебачанні і радыё, у выдавецтвах, з зайздроснай актыўнасцю і хуткасцю ледзь не дарэшты вытрылі беларускае слова з сваёй дзейнасці. Ніколі яго стан не быў тут такім жабрацкім, як сёння. Не ведаю, па чыім прадпісанні, але нават традыцыйныя беларускамоўныя радыёперадачы зараз да такой ступені "ўпрыгожваюцца" цытатамі з літаратурных твораў рускіх пісьменнікаў, рускамоўнымі песнямі, прыказкамі і прымаўкамі, што, паслухаўшы іх (перадачы), больш узбагаціш сябе здабыткамі рускай, чым беларускай культуры. Тым больш, што з 2001 года на нашых тэлеканалах з'явіўся яшчэ адзін рускамоўны канал.

Надзейна служыць пасля 1995 года дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі афіцыйны і ў значнай ступені неафіцыйны перыядычны друк. Калі першы прытрымліваецца такога курсу... па ўсім вядомых прычынах, дык другі з-за таго, што ў штаце працуюць пераважна ўзгадаваныя ў сем'ях і навучальных установах на рускіх культурнамоўных традыцыях журналісты. Гэта прывяло да ненармальных суадносін паміж выкарыстаннем беларускай і рускай моў у перыядычным друку, а тым больш — у дзяржаўным, які павінен мэтанакіравана вяртаць здэнацыяналізаваны народ да сваёй спрадвечнай мовы. Дзяржаўны друк свядома не дазваляе сабе такога, жадаючы ўсяляк дагадзіць афіцыйнаму курсу ў галіне нацыянальна-культурнага, моўнага развіцця краіны...

Няўвязка атрымліваецца і з недзяржаўным друкам, хаця некаторыя прыцягнутыя сюды да працы журналісты займаюць, як правіла, зусім іншую, даволі прагрэсіўную пазіцыю па нацыянальным пытанні. Але ў пагоні за накладам, з мэтай хоць трохі палепшыць фінансавае становішча і недзяржаўны друк максімальна запаўняе старонкі сваіх газет і часопісаў матэрыяламі на рускай мове.

Як ніколі раней, моцна збяднілася прысутнасць беларускай мовы **ў візуальным афармленні ўсіх тыпаў населеных пунктаў, іх прадпрыемстваў і ўстаноў.** Адарваныя ад духоўных традыцый Бацькаўшчыны кіраўнікі вытворчасці і гандлю ўпарта не жадаюць, зусім усвядомлена ўхіляюцца выкарыстоўваць родную мову ў маркіроўцы сваёй прадукцыі і тавараў. А між іншым, ужыванне акурат у гэтых мэтах роднай мовы вельмі садзейнічае не толькі аваладванню ёю, але і папулярызацыі як унутры краіны, так і па-за яе межамі. І, наадварот, нічога пазітыўнага не здабыць народу, калі такога роду функцыі выконвае чужая для яго мова. Ужыванне ў практыцы выключна рускай мовы на паказальніках назваў гарадоў і вёсак, шыльдах прадпрыемстваў і ўстаноў, у тэхнічнай дакументацыі на айчынную прадукцыю, у наклейках на таварах, на вулічных транспарантах, у розных аб'явах і афішах фармуе ў нашых грамадзян погляд на сваю краіну як на нешта непаўнацэннае ў свеце, якая нават не можа візуальна вызначыцца ў ім як пэўная самабытная тэрытарыяльная адзінка. Што ж датычыць гасцей, што прыбываюць да нас з-за мяжы, візуальнае афармленне тэрытарыяльнай прасторы Беларусі ўспрымаецца імі як неабвержны доказ адсутнасці ў апошняй свайго ўласнага нацыянальна-дзяржаўнага аблічча. Зразумела, якраз на такія наступствы ад істотнага абмежавання ўжывання мовы карэннага насельніцтва краіны ў візуальным афармленні яе прасторы і разлічваюць праціўнікі беларускай дзяржаўнасці. Яшчэ ніколі рускамоўныя шыльды, транспаранты, афішы, абвесткі так не лезлі сляпіцаю ў вочы, як сёння. Без самага шырокага выкарыстання ў гэтых мэтах беларускай мовы нельга прызнаць, што ў нацыянальнай палітыцы нашыя ўлады кіруюцца інтарэсамі тытульнага народа.

Апошнімі гадамі вызначыліся самыя прыязныя дачыненні паміж дзяржавай і кіраўніцтвам **праваслаўнай царквы,** як найбольш масавай у нас па колькасці вернікаў. Належныя ўмовы створаны для нармальнай дзейнасці і другой уплывовай у краіне хрысціянскай канфесіі — **каталіцкай.** Гэта адкрывае шырокія магчымасці для творчага супрацоўніцтва дзяржавы з праваслаўнай царквой і каталіцкім касцёлам у такой важнай справе, як нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа. Не трэба забывацца, што менавіта названыя хрысціянскія канфесіі найбольш за ўсё пацярпелі і прычыняюцца да асіміляцыі насельніцтва нашага краю. Час сплачваць яму даўгі і рашуча адмовіцца ад яго русіфікацыі і паланізацыі. Атрымліваецца зусім не па-хрысціянску, што практычна ўсе высокія праваслаўныя і многія каталіцкія духоўныя асобы за працяглы час службы ў нашым краі не авалодалі мовай беларускага народа і карыстаюцца дзяржаўнымі мовамі суседніх яму краін. Такая моўная практыка ў набажэнстве характэрна толькі для каланіяльна залежных, а не нацыянальна вольных народаў. З ласкі кіраўніцтва праваслаўнай царквы яе ідэолагі праз дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі сваю рэлігійна-асветніцкую прапаганду і агітацыю вядуць выключна толькі на рускай мове, прычым часта свядома выказваюць памылковыя, абразлівыя думкі адносна самабытнасці беларускага народа, яго культуры і мовы, ставяць пад вялікае сумненне існаванне ў мінулым беларускай дзяржаўнасці і мэтазгоднасці яе захавання на сучасным этапе. Такая садружнасць свецкіх і духоўных уладаў Беларусі прыносіць непапраўную шкоду карэнным інтарэсам яе народа, перашкаджае мабілізацыі намаганняў па спыненні далейшага распаўзання русіфікацыі на прасторах нашай Бацькаўшчыны. Каб пасадзейнічаць ёй у гэтую невыносна цяжкую часіну, кіраўніцтва праваслаўнай царквы павінна карэнным чынам змяніць свае падыходы ў вызначэнні мовы набажэнства і рэлігійнай прапаганды. З улікам так моцна здэфармаванага нацыянальнага патэнцыялу беларускай культуры і мовы, у чым на працягу больш за два стагоддзі самы актыўны ўдзел брала і праваслаўная царква, проста недаравальна, каб у час, калі на ўвесь рост стаіць пытанне быць ці не быць беларускаму народу самастойным этнасам, не гучала яго мова ў храмах гэтай самай масавай у нашай краіне хрысціянскай канфесіі. Кіраўнікам усіх хрысціянскіх веравызнанняў на Беларусі трэба трывала ўсвядоміць, што да таго часу, пакуль мова яе карэннага народа не загучыць у набажэнстве, яно не будзе адыгрываць на нашай зямлі пазітыўнай ролі ў духоўным сталенні грамадства. Сусветная практыка багата прыкладамі актыўнага ўдзелу духавенства ў нацыянальна-культурным адраджэнні сваіх народаў. Недапушчальна, каб праваслаўная царква і каталіцкі касцёл у дачыненні да гэтай лёсавызначальнай праблемы беларускага народа і надалей праводзілі дэструктыўную дзейнасць. За яе давядзецца несці боскае пакаранне і высокім духоўным асобам.

Такім чынам, непадзельнае панаванне рускай мовы ва ўсіх відах службовага справаводства, у адукацыі, навуцы, культуры, сродках масавай інфармацыі, царкоўна-рэлігійным жыцці, візуальным афармленні населеных пунктаў, прадпрыемстваў і ўстаноў, а адсюль і ў міжасобасных зносінах людзей паставілі беларускую мову на яе этнічнай тэрыторыі на мяжу поўнага вымірання. Страшэнны заняпад нацыянальна-культурнага жыцця краіны абумоўлівае неабходнасць тэрміновай распрацоўкі і прыняцця на дзяржаўным узроўні Стратэгіі выратавання і афіцыйнага функцыянавання беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Яшчэ ніколі не існавала для яе такой сур'ёзнай пагрозы адмірання, як сёння. Ні дзяржаве без нацыянальна актыўнай часткі народа, ні апошняй без дзяржавы нельга выратаваць наш неацэнны скарб — беларускую мову. Дзеля гэтага патрэбна максімальнае напружанне ўсіх здаровых сіл грамадства, на бок якіх павінна рашуча стаць дзяржава. Сотні народаў свету праз свае агульныя намаганні змаглі ўхіліцца ад культурнамоўнай асіміляцыі, пабудаваць уласны дом, стварыць у ім усе ўмовы для прыстойнага нацыянальнага жыцця. Не верыцца, што такое непадуладна беларусам.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**



ці не, аднак пры ўсім гэтым залікі ці экзамены ён павінен здаваць своечасова. "Нездавальняюча" азначае для яго выключэнне, але праз год студэнт-гаротнік зноў можа вярнуцца на той курс, які не здолеў скончыць, і такім чынам дадаць да абавязковых пяці гадоў навучання ва універсітэце яшчэ адзін. Выкладанне на беларускай мове будуць весці лепшыя навукоўцы нашай краіны і замежжа. Ужо зараз у нас маецца база даных на больш за 100 патэнцыяльных выкладчыкаў, якія ў любы момант гатовы прыйсці працаваць у БНУ. Сярод іх - каля 30 беларусаў, што жывуць за мяжой і працуюць у знакамітых універсітэтах Расіі, Польшчы, Англіі, Швейцарыі... Ёсць і навукоўцы іншых нацыянальнасцей, што выдатна валодаюць беларускай мовай. У далейшым мяркуем наладзіць конкурсны адбор выкладчыкаў, галоўнымі патрабаваннямі да якіх стануць прафесіяналізм, цудоўнае валоданне беларускай мовай і ўжыванне яе ў паўсядзённых зносінах. Жорсткі конкурс чакае і абітурыентаў. Бо мяркуемы універсітэт зможа даць месца не больш як 3-3,5 тыс. студэнтаў. Такая малая іх колькасць абумоўлена як фінансавым бокам справы, так і тым, што рыхтаваць у БНУ будуць будучых навукоўцаў і кіруючыя кадры ў галіне палітыкі, культуры, адукацыі і гаспадаркі - нацыянальную эліту. А яна проста не можа быць шматлікай.

*- Аднак ходзяць чуткі, што ўжо зараз ТБМ збірае подпісы студэнтаў, якія гатовы перайсці вучыцца ў БНУ...*

- Гэта не зусім так. Зразумела, да нас паступаюць падобныя просьбы ад студэнтаў розных ВНУ. Аднак нават пры жаданні мы не зможам прыняць іх усіх: розніца ў навучальных праграмах не пакідае іншага варыянту. Праўда, для некаторых асабліва адораных студэнтаў можа быць зроблена выключэнне, але вучыцца яны пачнуць з першага курса. Здадзеныя ж у папярэдніх ВНУ экзамены будуць ім залічаны. Таксама БНУ мяркуе супрацоўнічаць з адзіным у нашай краіне цалкам беларускамоўным гуманітарным ліцэем імя Якуба Коласа, і 2 педкаледжамі ў Мінску, лепшыя выпускнікі якіх будуць аўтаматычна залічвацца ў шэрагі яго студэнтаў. Астатніх жа жадаючых паступіць у БНУ чакае звычайны конкурс сярод абітурыентаў. Такім чынам, праблем з выкладчыкамі і студэнтамі не прадбачыцца. Распрацоўваюцца і навучальныя праграмы, спонсары гатовы ўжо ў бліжэйшы час выдаць 20 падручнікаў, кожны накладам у 299 асобнікаў. Справа, як кажуць, за "малым" - вырашыць пытанне аб стварэнні БНУ палітычна.

*- Наколькі вядома, дагэтуль улады не звярталі асаблівай увагі на гэту праблему...*

- Часам ствараецца ўражанне, што чыноўнікі баяцца сустрэцца і пагутарыць з намі, бо добра ведаюць, што паводле перапісу насельніцтва, у 1999 годзе 85,6 працэнта грамадзян Беларусі назвалі сваёй роднай мовай беларускую і 41,3 працэнта прызналі яе мовай паўсядзённых зносін. З гэтай прычыны некалькі дзіўнай падаецца мізэрная колькасць беларускамоўных класаў, школ, адсутнасць ВНУ, дзе б навучанне цалкам вялося на нацыянальнай мове беларускага народа. Разам з тым, за стварэнне БНУ выказаліся амаль 30 тыс. грамадзян Беларусі і іншых краін. І мы рады ўжо таму, што аб праблеме беларускамоўнай ВНУ нарэшце пачалі гаварыць і на дзяржаўным узроўні. Так, 29 красавіка ў Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь адбылася нарада з прадстаўнікамі адміністрацый Беларускага дзяржаўнага універсітэта (БДУ) і Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка (БДПУ), прысвечаная пытанню адкрыцця БНУ. Ніхто з ТБМ туды запрошаны не быў. Вердыкт, які вынеслі ўдзельнікі нарады, як і трэба было чакаць, адмоўны. Падстава - эканамічныя цяжкасці, хоць, паводле нашых падлікаў, на стварэнне Беларускага нацыянальнага універсітэта першапачаткова дастаткова выдаткаваць паўмільёна долараў. Гэта параўнальна невялікая сума. Узамен нам паабяцалі перавесці на беларускую мову навучання адну з ужо існуючых ВНУ (БДУ ці БДПУ). Наколькі гэта сур'ёзна, пакуль цяжка меркаваць. Але зразумела адно: ні гэтае рашэнне, ні прапановы стварыць БНУ шляхам рэарганізацыі (г.зн. закрыцця) адной з існуючых ВНУ, добрых вынікаў не дадуць. Бо ў той ці іншай ступені кожная з гэтых акцый азначае прымус, а мова павінна быць мэтай, а не гвалтам.

Наталля **ШЧАСНАЯ.** (Ч.З.)

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты... Прыцягвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

# АПОШНЯЯ НОЧ БЕЛАРУСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ, ЦІ ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З 21-га НА 22-га ЛІСТАПАДА 1996 ГОДУ

М. ПАСТУХОЎ, судзьдзя Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь (красавіка 1994 – студзень 1997 г.)

*Час няўмольна адцягвае нас ад так званага рэферэндуму, калі беларускаму народу прапанавалі для галасаваньня за новую Канстытуцыю. Пасьля яе сумнеўныя па сваёй прававой прыродзе нормы паслужылі падставаю для роспуску дзейснага парлямэнту – Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. Тады ж спыніў існаваньне і першы склад Кастытуцыйнага суда. Аднак ня ўсе ведаюць, што галоўная падзея ў беларускай гісторыі таго часу адбылася ў ноч з 21 на 22 лістапада 1996 году. І хоць у тую ноч у Менску не пралілася кроў, па сваіх наступствах для лёсу Беларусі яна параўнальная да "варфаламееўскай" ночы ў Парыжы, калі ў жніўні 1572 году каталікамі была зарганізаваная масавая разьня гугенотаў. Так што адбылося пяць гадоў таму халоднай ноччу 22-га лістапада?*

Передо мной лежит оригинальный документ, который представил судьям Конституционного суда его тогдашний председатель В.Тихиня утром 22 ноября 1996 года. В это время мы готовились выйти в зал заседания для рассмотрения самого ответственного в нашей истории дела *"О нарушении президентом Республики Беларусь А.Г.Лукашенко Конституции Республики Беларусь"*. Однако председатель срочно пригласил судей на экстренное совещание. На нем он ознакомил нас с документом, подписанным накануне ночью. Он назывался "Соглашение об общественно-политической ситуации и о конституционной реформе в Республике Беларусь" и начинался следующими словами: "Мы, президент Республики Беларусь Лукашенко А.Г. и председатель Верховного Совета Республики Беларусь Шарецкий С.Г., исходя из интересов белорусского народа и в целях обеспечения в республике гражданского мира и стабильности согласились о нижеследующем...". Самое интересное, что этот "исторический" документ принимался под патронажем высших должностных лиц соседнего государства: председателя правительства России В.Черномырдина, председателя Государственной думы Г.Селезнева и председателя Совета Федерации Е.Строева. Они, видите ли, залетели на "огонек" в другую страну, чтобы урегулировать в ней общественно-политическую ситуацию. А гарантом законности этой сомнительной сделки между А.Лукашенко и С.Шарецким выступил председатель Конституционного суда В. Тихиня.

О чем же договорилась вышеупомянутая "троица" в условиях полной конфиденциальности? На эту встречу не пропустили даже вице-спикера Верховного Совета Геннадия Карпенко, который пытался прорваться сквозь плотный кардон охраны.

Пункт первый Соглашения гласил: "Президент Республики Беларусь отменяет свои указы от 5 ноября 1996 года №455 и от 7 ноября 1996 года №459".

Первый указ устанавливал, что изменения и дополнения Конституции могут быть проведены через обязательный референдум. Решение об изменении и дополнении Конституции считается принятым, если за него проголосовало большинство граждан, внесенных в списки для голосования. Получается, что президентский указ дополнил Конституцию, в которой не было такой нормы. Во всяком случае президент взял на себя функции законодательного органа власти и официально разъяснил (по своему усмотрению) Конституцию 1994 года. По сути подзаконный акт, каковым является указ президента, был издан в форме конституционного закона (замечу, что этот указ президента находился на рассмотрении в Конституционном суде и, по всей вероятности, был бы признан неконституционным).

Другим своим указом президент "отменил" заключение Конституционного суда от 4 ноября 1996 года, в соответствии с которым итоги голосования по вопросу о внесении поправок в Конституцию могли иметь лишь рекомендательный характер.

Сам по себе это -- беспрецедентный факт в мировой юстиции. Ведь решение Конституционного суда обладает высшей юридической силой и никем не может быть отменено. Тем не менее в условиях белорусской действительности оно было отменено единоличным актом президента "как существенно расходящееся с Конституцией и ограничивающее конституционное право граждан на участие в референдуме (народном голосовании)".

Более того, своим указом А.Лукашенко установил, что "деятельность государственных органов ...препятствующая проведению в Республике Беларусь республиканского референдума 24 ноября 1996 года, подлежит прекращению, а виновные в этом лица привлекаются к ответственности в соответствии с законодательством".

По сути дела 7 ноября 1996 года Лукашенко ввел в стране прямое президентское правление, захватив всю государственную власть и отменив действие Конституции. Тогда об этом вслух не говорили, но юристы прекрасно понимали, что произошло в стране и как это называется на языке уголовного закона.

И такие, мягко говоря, неконституционные указы стали предметом торга на высшем уровне: за их отмену обещалось прекратить дело об отрешении А.Лукашенко от должности. При этом забывались его прошлые "прегрешения" в виде многочисленных нарушений Конституции и законов.

Пункт второй Соглашения предусматривал, что Верховный Совет в лице его председателя обеспечивает отзыв из Конституционного суда предложения депутатов о даче заключения на предмет нарушения президентом Республики Беларусь Конституции. А Конституционный суд в ответ на такое обращение прекратит 22 ноября дело о нарушении президентом Республики Беларусь Конституции. Под этим обязательством поставил свою подпись В.Тихиня.

На таких условиях "договаривающиеся стороны" согласились на проведение референдума, результаты которого в части внесения изменений в Конституцию должны были иметь рекомендательный характер. После проведения референдума предполагалось сформировать Конституционное собрание. В его состав должны были войти: президент Республики Беларусь - - председатель Собрания, 50 депутатов Верховного Совета, делегируемых фракциями пропорционально их численности в Верховном Совете, и 50 представителей президента на паритетных началах: 50 депутатов Верховного Совета и 50 представителей от президента.

Перед Конституционным собранием ставилась задача -- в течение трех месяцев на основе текста изменений и дополнений Конституции, получивших большинство на республиканском референдуме, принять новую редакцию Конституции (как видим, предлагался российский вариант принятия Основного закона с той только разницей, что там выработанный Конституционным собранием проект Конституции был утвержден на референдуме. – Авт.).

Стороны (президент Республики Беларусь и председатель Верховного Совета Республики Беларусь) взяли на себя обязательство не предпринимать никаких действий по досрочному прекращению полномочий соответственно -- Верховного Совета и по смещению президента с должности. Соглашение вступило в силу со дня его подписания, т.е. ночью 22 ноября.

Однако уже на следующий день "Соглашение" было вероломно нарушено. Верховный Совет не смог его "ратифицировать" по той причине, что депутаты пропрезидентской фракции отказались за него голосовать. С парламентской трибуны В.Коноплев отдавал распоряжения своим сторонникам. В итоге Верховный Совет не принял "одобряющего" решения, что позволило А.Лукашенко обвинить его в срыве договоренностей и вернуться к проведению своей политической линии в канун референдума.

Судьи Конституционного суда, несмотря на подписание председателем пресловутого Соглашения, отказались прекратить дело об импичменте. Попытки В.Тихини настоять на принятии такого решения успехом не увенчались. Однако рассмотрение дела было перенесено на вторник, 26 ноября (видимо, по этой причине итоги референдума были оглашены не через 10 дней, как требовалось по президентскому указу, а через день после голосования -- утром 26 ноября. -- Авт.).

Итак, "ночное соглашение" 22 ноября не удалось. Сейчас очевидно, по чьей вине так произошло. Скорее всего группе власти нужно было выиграть время, чтобы удержать зашатавшийся трон. В этом деле весьма полезной оказалась российская "помощь" в лице высокопоставленных государственных мужей. Как только опасный период прошел, Соглашение было "провалено", а вина списана на другую сторону. Верховный Совет был распущен сразу же после объявления итогов референдума. Его судьбу разделил и Конституционный суд. Страна стала жить по новой Конституции.

==========================================================

## СТВОРАНА НОВАЯ ВЕТЭРАНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

25 лістапада ў Менску адбыўся ўстаноўчы сход рэспубліканскага грамадзкага аб'яднаньня "Вэтэраны Адраджэньня".

Новая арганізацыя ставіць сабе за мэту збор, апрацаваньне й папулярызацыю матэрыялаў аб працы й дзейнасьці беларускіх нацыянальных арганізацый і іх удзельнікаў. Плянуецца ўшаноўваць памяць загінуўшых удзельнікаў вызвольных змаганьняў, у тым ліку й пошукам ды аднаўленьнем іх магіл, усталяваньнем помнікаў і г. д. «Вэтэраны Адраджэньня» спадзяюцца, што знойдуць фінансавыя рэсурсы й для сацыяльнай дапамогі беларускім вэтэранам, многія з якіх прайшлі праз савецкія турмы й канцлягеры.

Сябрамі аб'яднаньня могуць стаць ня толькі ўдзельнікі ваеннага й паваеннага беларускага нацыянальнага антыбальшавіцкага руху, але й дысідэнты-змагары супраць рэжыма 60-80-х гадоў, удзельнікі беларускага руху часоў «перабудовы».

Старшынёй грамадзкага аб'яднаньня «Вэтэраны Адраджэньня» быў абраны вядомы беларускі археолаг і грамадзкі дзеяч Міхась Чарняўскі.

**********************************************

## Сцяг Беларусі -- на руінах Нью-Ёрку

**Нацыянальныя сцягі 86 дзяржаў, у тым ліку Беларусі, устаноўлены на руінах Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Ёрку.**

11 лістапада тут адбылася цырымонія памінання ахвяраў трагедыі, якая два месяцы таму забрала жыцці тысяч людзей з 86 краін. У цырымоніі ўзялі ўдзел прэзідэнт ЗША Джордж Буш і дзяржсакратар Колін Пауэл, а таксама генеральны сакратар ААН Кофі Анан і іншыя высокія чыноўнікі.

У ліку тых, хто загінуў у выніку тэракта 11 верасня, была і адна грамадзянка Беларусі, якая працавала ў Нью-Ёрку. Яе імя не паведамляецца па просьбе сваякоў.

==========================================

## Сакрэтныя рахункі беларускай улады

Прэс-служба АГП

Анатоль Лябедзька заклікае рассакрэціць рахункі беларускай улады ў швейцарскіх банках.

27 лістапада лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі А.Лябедзька ў Гародні правёў прэс-канферэнцыю і сустрэчу з партыйным актывам і грамадскасцю горада. Падчас сустрэчы з прадстаўнікамі рэгіянальнай прэсы ён заявіў пра свой намер звярнуцца да кіраўніцтва Еўрасаюза і Швейцарыі з прапановай рассакрэціць банкаўскія рахункі, якія могуць належаць кіруючай вярхушцы Беларусі. У апошнія гады адзначаны рост колькасці рахункаў, уладальнікамі якіх з'яўляюцца выхадцы з Беларусі. Міжнародныя эксперты звязваюць гэты факт з ростам карупцыі ў Беларусі.

Лідэр АГП лічыць, што паміж продажам зброі і рахункамі ў швейцарскіх банках можа існаваць непасрэдная сувязь.

# Рускія ў Беларусі

**Зьяўленне этнічна рускага насельніцтва на беларускіх землях адносіцца да перыяду сярэднявечча. У тыя часы аснову мясцовай рускай супольнасці складалі перасяленцы. Адныімі з першых былі слугі, што суправаджалі сваіх гаспадынь, якія ўступалі ў дынастычныя шлюбы з князямі Беларуска-літоўскай дзяржавы. Так, у 1350 г. вялікі князь Альгерд ажаніўся на дачцы цвярскога князя Юльяне. Аднак шматлікія дынастычныя шлюбы не былі перашкодай для войнаў паміж дзяржавамі, якія існавалі на тэрыторыях сучасных Беларусі і Расіі. Прычым, з канца 15 ст. агрэсія часцей ішла з захаду. У выніку на беларускіх землях асядалі тысячы ваеннапалонных. Напрыклад, у выніку пахода вялікага князя Вітаўта на Пскоў (1405) некалькі тысяч жыхароў Пскоўшчыны былі паселеныя ў Гародні. Больш масавы характар перасяленне набыло ў 15-16 ст. На беларускія землі беглі прыгонныя сяляне ў пошуках волі ці лепшага памешчыка, сюды ж з мэтаю заробку накіроўваліся вольныя людзі. Частка з іх увайшла ў групу ваеннаслужылых людзей – панцырных баяраў, якія сяліліся на ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага і неслі службу ў яго вайсковых фармаваннях.**

У другой палове 17-пачатку 18 ст. колькасць рускіх мігрантаў узрасла коштам стараавераў, якія шукалі ў Беларусі паратунку ад рэлігійных перасьледаванняў у Расійскай дзяржаве. Менавіта ў гэты час пачала фармавацца досыць шматлікая калонія рускіх старавераў у Беларусі. Іх цэнтрам на працягу доўгага часу была слабада Ветка на Гомельшчыне, заснаваная ў 1685 г. Яна ператварылася ў сапраўдны Ерусалім старавераў. У 18 ст. іх колькасць у раёне Веткі дасягала 40 тыс.чал. Іншая хваля рускай міграцыі распачалася пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі ў другой палове 18 ст. У Беларусі з'явіліся рускія чыноўнікі і памешчыкі. Паўстанне 1830-1831 гг., якое адбывалася пад лозунгам "За нашу і вашу свабоду!», паказала імкненне значнай часткі насельніцтва былой Рэчы Паспалітай, у першую чаргу, шляхты, да свабоды і незалежнасці. Паўстанне распачалося ў Польшчы, але і на беларускіх землях яно знайшло падтрымку. А вось ягоны разгром абярнуўся мэтанакіраванай рускай каланізацыйнай палітыкай. Урад пачаў прадастаўляць землі ў Беларусі не толькі рускім памешчыкам, але і сялянам. Аднак гэтая спроба рускай каланізацыі Беларусі пацярпела поўны крах. Рускія землеўласнікі звычайна распрадавалі свае землі і выязджалі на ўсход. Перасяленні сялян мелі нязначны характар. Па звестках менскага гісторыка Паўла Церашковіча, у 1837 г. у Менскую губ. перасялілася з этнічнай Расіі 40 сялянаў, а ў Віленскую – 70. На пачатку 1861 г. «новых» перасяленцаў з Расіі налічвалася не болей 10 тыс.чал. Асноўную масу рускага насельніцтва на беларускіх землях па-ранейшаму складалі старавеіры. Па падліках беларускага даследчыка В.Цітова, іх было каля 34 тыс.чал.

Расійскі ўрад імкнуўся да уніфікацыі і русіфікацыі беларускіх земляў таксама палітычнымі сродкамі. У 1839 г. была зліквідаваная беларуская уніяцкая царква. У 1840 г. загадам імператара Мікалая І пачала распаўсюджвацца новая назва беларускіх земляў – «Паўночна-Заходні край». У сярэдзіне 19 ст. распрацоўваліся асновы ідэалагічнай дактрыны «заходнерусізма». Яна зыходзіла з таго, што беларусы з'яўляюцца толькі часткай «рускага народу», якая падпала пад «польска-каталіцкія» ўплывы і «сапсавала» сваю сапраўдную рускасць. Гэтая дактрына дыктавала неабходнасць тэрміновага выпраўлення «сапсаванасці».

Пасля падаўлення паўстання 1863-1864 г. распачалася больш жорсткая палітыка русіфікацыі. Устаноўленыя ўладамі прывілеі прывабілвалі ў Беларусь натоўп чынавенства. Беларускі палітык і гісторык Аляксандр Цвікевіч наступным чынам ахарактарызаваў гэтую хвалю чыноўнай міграцыі: «Залітая крывёй толькі што задушанага паўстаньня, разбураная гаспадарча, змучаная і зьбітая з астоі нормальнага жыцьця, краіна сапраўды стагнала ад гэтае процьмы кар'ерыстаў і прайдзісьветаў».

Беларускі друк польскай лацінкай быў забаронены. За перыяд з 1863 па 1888 г. у межах Расійскай імперыі не было надрукавана ніводнага беларускага мастацкага твора. Дазвалялася друкаваць толькі асобныя этнаграфічныя творы на кірыліцы. Гісторык Міхась Біч адзначыў: "Адмаўляючы, як і раней існаваньне беларускага этнасу, яго мовы і культуры, царскі ўрад і мясцовыя адміністратары ў 60-я г. рэзка ўзмоцнілі ідэалагічную апрацоўку беларускага насельніцтва праз царкву, асвету, друк, дзяржаўныя ўстановы з мэтай надання краю «истинно русского» аблічча, выкаранення гістарычнай памяці, нацыянальнай сьвядомасці і ўсіх этнічных асаблівасцей беларусаў... І школьны настаўнік, і праваслаўны святар, і дзяржаўны чыноўнік, і афіцыйная газета настойліва і паслядоўна даказвалі беларусам, што яны – рускія, толькі «сапсаваныя» польска-каталіцкім уплывам, што ім як мага хутчэй трэба пазбавіцца сваёй «мужыцкай», «хамскай» мовы і зліцца з вялікарусамі». Адным з асноўных накірункаў новай палітыкі было панаванне рускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. У гэты час руская мова і культура не столькі спрыялі культурнаму развіццю беларускай зямлі, колькі сталіся сродкам асыміляцыі карэннага насельніцтва.

Трэба прызнаць, што ўлады дасягнулі пэўнага поспеху. У 1904 г. віленскі генерал-губернатар князь Пётр Святаполк-Мірскі ў справаздачы імператару адзначаў: «Процесс окончательного обрусения Северо-Западного края идёт хотя и медленно, но твёрдыми шагами и не преминет из года в год оказывать воздействие на местное инородческое население".

Пэўныя поспехі русіфікацыі адлюстраваліся ў выніках перапісу 1897 г. За апошнія чатыры дзесяцігодзьдзі 19 ст. колькасць рускага насельніцтва ў Беларусі павялічылася ў 23,5 разы і дасягнула 235 тыс.чал. (3,6%). Пры гэтым колькасць «новых» рускіх-мігрантаў складала каля 90 тыс., старавераў налічвалася каля 100 тыс., а астатнія з'яўляліся зрусіфікаванымі беларусамі.

Найбольш прадстаўнічай групай рускага насельніцтва ў Беларусі заставаліся стараверы. Па-ранейшаму іх цэнтры знаходзіліся на Гомельшчыне і Віцебшчыне. Так, у Гомельскім уездзе стараверы ў канцы 19 ст. складалі 11% насельніцтва, а ў Віцебскім – 6,6%. Беларускі географ Аркадзь Смоліч адзначаў, што рускія стараверы «і па быту, і па нацыянальнаму характару вельмі рэзка аддзяляюцца ад беларусаў, прадстаўляюць з сябе чыста маскоўскі тып і блізка што ня змешваюцца з акружаючым беларускім насяленьнем. Займаюцца яны найбольш гандлем, рамяством, а мяйсцамі – гародніцтвам; да земляробства вялікага замілаваньня ня маюць». Аднак самаізаляцыю старавераў не трэба перабольшваць. Этнографы (А. Дзембавецкі) заўважылі пранікненне ў мову старавераў беларускіх слоў. А на пытанне перапісчыкаў, якія ў адпаведнасці з апытальнымі аркушамі перапісу 1897 г. высвятлялі родную мову, 12% старавераў прызналі, што роднай мовай з'яўляецца беларуская. Відавочна, што працэс адаптацыі рускіх старавераў да беларускіх умоваў пастуюва набываў пэўныя рысы беларускай асіміляцыі.

Складанасць беларуска-рускіх адносінаў другой паловы 19 – пачатку 20 ст. адлюстравалася ў беларускім фальклоры. Рускія ў фальклоры прысутнічалі пад назвамі «расейцы» і «маскалі». «Расейцамі» звычайна называлі старавераў, а «маскалямі» – чыноўнікаў, памешчыкаў і вайскоўцаў. Аналіз фальклорнага матэрыялу сведчыць пра досыць талерантныя адносіны беларусаў да «расейцаў». А вось у адносінах да «маскалёў» прысутнічала выразная варожасць: «Не за тое маскаля б'юць, што ўкраў, а за тое, што дрэнна схаваў»; «– Тата, тата, лезе чорт у хату! – Нічога, сынок, абы не маскаль» і г.д. Гэтая варожасць, магчыма, была абумоўлена негатыўнымі адносінамі чыноўнікаў і вайскоўцаў да працэсаў нацыянальнага адраджэння народаў Беларусі, якія распачаліся напрыканцы 19 ст. і набылі асабліва прыкметны характар у перыяд рэвалюцыі 1905-1907 гг. Сваю ролю адыгрывала і тое, што рускія чыноўнікі не ведалі, а зачастую і не жадалі ведаць пра існаванне адметных культурных, гаспадарчых і рэлігійных традыцый і асаблівасцяў Беларусі.

Аднак нельга рускую прысутнасць у Беларусі трактаваць толькі ў рэчышчы нацыянальнай канфрантацыі. Дэмакратычна настроеная частка рускай грамадскасці супрацьстаяла праявам "вялікарускага" ваяўнічага нацыяналізма. Гэта на яе было разлічана выданне кіраўнікамі беларускага руху братамі Антонам і Іванам Луцкевічамі рускамоўнай «Вечерней газеты» (Вільня, 1911-1915). У артыкуле «Национальные течения и демократия» галоўная задача рускай дэмакратыі фармулявалася як «борьба с проявлениями национализма в своей национальной среде и объединение всей краевой демократии». Браты Луцкевічы хавалі ў таямніцы сваё рэдактарства ў гэтай газеце. Аднак тлумачыць феномен гэтага выдання, толькі як «беларускую інтрыгу» па стварэнню рускай дэмакратыі ў Беларусі, нельга. Газета знайшла свайго чытача і выходзіла болей чатырох гадоў.

Таксама варта адзначыць існаванне беларусафілаў, якія, паводле ацэнкі А.Цвікевіча, «выходзілі з рускай культуры... канчалі расійскі універсітэт, пісалі і думалі па-расійску, але адчувалі па-беларуску». Такія іх прадстаўнікі, як аўтар беларускай граматыкі сярэдзіны 19 ст. Павел Шпілеўскі, вядомы філолаг і этнограф рубяжа стагоддзяў Яўхім Карскі, гісторык і этнограф Аляксей Сапуноў і інш., актыўна прычыніліся да фармавання новай беларускай культуры.

У 20 ст. рускія – гэта адна з асноўных іншаэтнічных групаў насельніцтва БССР. Падчас палітыкі «беларусізацыі» (першая палова 20-х г.), для якой была характэрнай партыйная падтрымка развіцця беларускай культуры, рускае насельніцтва БССР атрымала каштоўны вопыт існавання ва ўмовах беларускай культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Руская мова разам з беларускай, яўрэйскай (ідыш) і польскай мела статус дзяржаўнай мовы. Існавала 14 рускіх сельсаветаў. У рускамоўных школах вучылася 6% дзяцей.

Колькасць рускага насельніцтва расла коштам міграцыі. Паводле перапісу 1926 г. у Беларусі пражывала 384 тыс. (7,7%) рускіх. Сюды накіроўваліся партыйныя чыноўнікі, рабочыя, спецыялісты розных галінаў народнай гаспадаркі, выкладчыкі ВНУ, навукоўцы. Варта адзначыць уклад апошніх у развіццё беларускай культуры. Так, дацэнт Беларускага Дзяржаўнага універсітэту Мікалай Шчакаціхін стаўся пачынальнікам беларускага мастацтвазнаўства. У Беларусі працавалі вядомыя рускія літаратуразнаўцы Іван Замоцін, які кіраваў Інстытутам літаратуры і мастацтва АН БССР, А.Вазнесенскі, філосаф В.Іваноўскі, прафесар хіміі М.Прылежаеў. Яны выкладалі ў БДУ на беларускай мове. Аднак у другой палове 30-х г. усе названыя асобы, як і шмат іншых прадстаўнікоў рускай інтэлігенцыі, сталіся ахвярамі палітычных рэпрэсій. Колькасць рускага насельніцтва значна зьменшылася. Паводле дадзеных перапісу 1937 г., якія сталі вядомымі толькі недаўна, у Беларусі пражывала толькі 248 тыс. (4,8%) рускіх.

Выпрабаванні ваеннага часу, сумесная барацьба супраць агрэсіі германскага нацызма спрыялі ўмацаванню беларуска-рускіх адносінаў. Гэта адбылося нягледзячы на тое, што цэнтральнае партыйнае кіраўніцтва падчас вайны 1941-1945 гг. прыкладала вялікія намаганні дзеля барацьбы з праявамі беларускага нацыянальна-культурнага жыцця і са спробамі арганізацыі беларускага нацыянальнага антыфашысцкага і антыкамуністычнага руху супраціўлення.

Беларусь выйшла з савецка-нямецкай вайны абезлюдненай, са зруйнаванай гаспадаркай. У пасляваеннай адбудове Беларусі ўдзельнічалі апроч беларусаў прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў, у т. л. і рускія. Колькасць рускага насельніцтва хутка расла за кошт перасяленцаў, якімі часцей зьяўляліся былыя ваеннаслужачыя, рабочыя, спецыялісты народнай гаспадаркі і партыйныя функцыянеры. Паводле перапісу 1959 г. у рэспубліцы пражывала ўжо каля 659 тыс. (8,2%) рускіх. Варта адзначыць, што гэтая хваля перасяленцаў уладкоўвала сваё жыццё ва ўмовах, калі тэрмін «беларусізацыя» быў выкрэслены з грамадска-культурнага ўжытку. Камуністычныя ўлады працягвалі наступ на беларускую культуру. Спробы абараніць беларускую мову жорстка пераследаваліся. Так, у маі 1947 г. на паседжанні бюро ЦК КП(б)Б была прынятая асуджальная пастанова па справе загадчыка кафедры педагогікі Гомельскага педінстытута І.Алісіевіча, які публічна выказваў занепакоенасць становішчам беларускай мовы

У пасляваенны час колькасць рускага насельніцтва ў БССР хутка расла: 1970 г. – 938 тыс. (10,4%), 1979 – 1134 тыс. (11,9%), 1989 г. – 1342,1 тыс. (13,2%). Прырост колькасці рускага насельніцтва забяспечваўся таксама развіццём асіміляцыйных працэсаў сярод беларусаў і некаторых нацыянальных меншасцяў. Вельмі часта нацыянальнасць дзяцей ад змешаных беларуска-рускіх, украінска-рускіх і г.д. шлюбаў бацькі вызначалі як «рускую».

На працягу 1959-1989 гг. лічба беларускага насельніцтва, якое ставілася да беларускай мовы як да роднай, узрасла на 255,1 тыс. Затое колькасць рускіх і беларусаў, якія лічылі роднай рускую мову павялічылася на 1773,5 тыс. Калі сумірваць рускамоўных беларусаў і рускіх, то атрымаецца, што ў 1989 г. па-за сферай беларускай культуры ў Беларусі жылі, па меншай меры, 1874,2 тыс.чал. (28,3%). У 1959 г. для параўнання гэтая супольнасць налічвала 1100,7 тыс. (13,7%). Лічбы яскрава сведчаць пра русіфікацыйныя працэсы, якія пагражалі існаванню беларускай культуры. Не рускія падвяргаліся беларусізацыі, а беларусы русіфікаваліся ва ўласнай рэспубліцы. Наймацней русіфікацыя адбывалася ў гарадскіх цэнтрах, а буйнейшым яе цэнтрам сталася сталіца БССР – Мінск.

Распад СССР і абвяшчэнне незалежнай і Беларусі прычыніліся да пачатку новага этапу беларусізацыі. У 1990 г. Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў Закон аб мовах, які абвяшчаў беларускую мову дзяржаўнай мовай рэспублікі і забяспечваў яе ўсебаковае развіццё і функцыянаванне ва ўсіх галінах грамадскага жыцця. Канстытуцыя, прынятая ў 1994 г., пацвердзіла статус беларускай мовы як дзяржаўнай. Адначасова яна гарантавала права карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносінаў. Зноў жа трэба адзначыць, што частка рускага насельніцтва прыняла гэтыя перамены. Сацыялагічныя даследаванні сярэдзіны 90-х г. сьведчылі, што 8 з 10 рускіх чытаюць творы беларускіх пісьменнікаў, а кожны шосты чытае іх толькі на беларускай мове.

Аднак многім рускім вельмі цяжка было пагадзіцца з істотнымі пераменамі іх становішча ў Беларусі, дзе яны паступова ператвараліся з дамінуючай нацыі ў нацыянальную меншасць. Таксама цяжка прымалася крушэнне міфа пра «старэйшага брата», новыя досыць крытычныя ацэнкі месца і ролі Расіі ў беларускай гісторыі і г.д. На пачатку 90-х у рэспубліцы пачалі з'яўляцца напоўпадпольныя рускія арганізацыі і таварыствы («Русь», Народна-праваслаўны саюз «Белая Россия», таварыства «Отечество», рэспубліканскі філіял «Памяти»), для ідэалогіі якіх было характэрным спалучэнне антысемітызма з нянавісцю да беларускага руху.

Ператварэнне БССР у беларускую нацыянальную дзяржаву сустрэла досыць моцнае супраціўленне. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на пачатку 1995 г. ініцыяваў правядзенне рэферэндума па пытаннях мовы, дзяржаўнай сімволікі і паўнамоцтваў прэзідэнта. Па выніках рэферэндума былі прынятыя законы, якія, фактычна, спынялі працэс беларусізацыі. Дапаўненні да Канстытуцыі ад лістапада 1996 г. уводзілі дзяржаўнае двухмоўе, што ва ўмовах постсавецкай рэспублікі адраджала панаванне рускай мовы.

Палітычныя перамены не маглі не паўплываць на становішча рускай грамадскасці Беларусі, што ў пэўнай ступені адлюстравалі вынікі перапісу 1999 г.. Упершыню за пасляваенны час за перыяд з 1989 па 1999 г. быў зафіксаваны рост удзельнай вагі беларусаў сярод усяго насельніцтва рэспублікі. Апроч таго беларусы аказаліся адзінай нацыяй краіны, колькасць якой узрасла па абсалютным паказчыкам: 1989 – 7905 тыс. (77,9%), 1999 – 8159 тыс. (81,2%). Прычынамі гэтага росту можна лічыць міграцыйныя працэсы на постсавецкай прасторы, развіццё нацыянальнай свядомасці. Апошняе ў вялікай ступені вызначалася самым фактам абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту І пашырэннем сярод насельніцтва краіны беларускай гістарычнай памяці. Таксама ўпершыню зьменьшылася абсалютная колькасць і ўдзельная вага рускага насельніцтва: 1989 – 1342 тыс. (13,4%), 1999 – 1142 тыс. (11,4%).
Колькасць рускіх зменшылася за дзесяцігоддзе на 14,9%. Галоўнай прычынай гэтага прыкметнага змяншэння таксама трэба лічыць міграцыйныя працэсы. Непрыняцце палітыкі беларусізацыі, надзеі на хуткае павышэнне жыццёвага ўзроўня грамадзян Расійскай Федэрацыі абумовілі працэс актыўнай эміграцыі рускіх з Беларусі на пачатку 90-ых гадоў. Але пасля 1995 г. сітуацыя змянілася. Міграцыйны прыток рускіх у Беларусь аднаўляецца. У 1996 г. у рэспубліку перасялілася 3953 чал., у 1997 г. – 4347 чал. Міграцыі таксама спрыяў працэс беларуска-расійскай інтэграцыі.

Перапіс засведчыў пэўныя перамены моўнай сітуацыі ў рэспубліцы. Па-ранейшаму пануе руская мова, на якой звычайна размаўляюць 62,8% насельніцтва (па-беларуску размаўляе 36,7%). Аднак узрасла колькасць людзей, якія лічаць роднай беларускую мову – 85,6% (1989г. – 80,2%). Прычым, сярод рускіх 95,7% лічаць роднай мовай рускую, а 4,3% – беларускую (1989 г. – 2,2%). Апошняе сведчыць пра наяўнасць прабеларускіх сімпатый сярод часткі рускай грамадскасці.

Сёння ў Беларусі рускае насельніцтва мае выдатныя ўмовы, каб задаволіць свае патрэбы ў сферы культуры і асветы. Старшыня «Рускага таварыства» Міхаіл Ткачоў у выступленні на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў (снежань 2000 г., Мінск) заявіў, што рускія ў Беларусі маюць больш магчымасцяў для развіцця ўласнай культуры, чым нават у Расіі...

Большасць беларускай інтэлігенцыі ацэньвае дзяржаўную палітыку ў галіне беларускай культуры як палітыку яе маргіналізацыі і выцяснення на перыферыю грамадскага жыцця. Далейшая фаварызацыя рускай культуры ўтрымлівае небяспеку рэальнага пагаршэння адносінаў паміж беларусамі і рускімі ў краіне.

Алесь **СМАЛЯНЧУК** (Біржа Інф.)

# Беларускія палякі або палякі ў Беларусі?

**Аналіз навуковай літаратуры сведчыць, што на сённяшні дзень прынцыповых разыходжанняў у характарыстыцы радаводу палякаў Беларусі і Літвы паміж беларускімі, літоўскімі і польскімі навукоўцамі амаль няма. Найбольш аўтарытэтныя даследчыкі прыйшлі да высновы, што ў сваёй абсалютнай большасці мясцовыя палякі зьяўляюцца нашчадкамі палянізаваных або паланізаваўшыхся аўтахтонаў беларускіх і літоўскіх земляў.**

Першымі выказалі гэтую думку прадстаўнікі г. зв. "ліцвінскай" (на пачатку XX ст. – "краёвай") гістарыяграфіі, якія паходзілі з мясцовай польскай грамадскасці. Вядомы навуковец і палітык пачатку XX ст. Міхал Ромэр быў упэўнены, што палякі Літвы і Беларусі не павінны ўспрымацца як прышлы і чужы элемент накшталт нямецкіх баронаў у Латвіі і Эстоніі. На яго думку, характэрныя для іх рысы польскай культуры былі вынікам працэсу паланізацыі. На пачатку XX ст. М.Ромэр увёў у навуковы зварот паняцце "літоўскія палякі [САФ1]". У ягонай далейшай навуковай і грамадска-палітычнай дзейнасці тэзіс мясцовага паходжання польскай шляхты атрымаў сваё развіццё. Навуковец катэгарычна абвяргаў сцвярджэнне, што палякі Беларусі і Літвы з'яўляюцца часткай польскай нацыі, якая пасялілася на т.зв. "крэсах усходніх". Ён даказваў, што мясцовыя палякі – гэта прадукт культурнай паланізацыі вышэйшых колаў грамадства "гістарычнай Літвы", а таксама гарадского насельніцтва і сялянства ўсходніх рэгіёнаў этнічнай Літвы. Маючы на ўвазе літоўскіх і беларускіх палякаў, даследчык заяўляў: "Мы не імпартаваны экзатычны тавар, а прадукт непасрэднай гістарычнай эвалюцыі, якая адбывалася ў нашым краю па прычыне ўздзеяння пэўных падзей палітычнай гісторыі". М. Ромэр характарызаваў палякаў Літвы як адметны этнакультурны феномен, не падобны ні на палякаў, ні на літоўцаў, ні на беларусаў.

Трэба адзначыць, што гэтая канцэпцыя знайшла водгук у польскай гістарыяграфіі другой паловы XX ст. Прыкладам могуць служыць працы вядомага гісторыка Юлюша Бардаха. Ва ўмацаванні польскіх пазіцый на тэрыторыі "гістарычнай Літвы" галоўную ролю, па яго меркаванню, адыграла пашырэнне польскай мовы і культуры сярод вышэйшых колаў грамадства Вялікага Княства Літоўскага. Ю.Бардах адзначыў супольнасць паходжання "літоўскіх палякаў" з этнічнымі беларусамі і літоўцамі, культурныя ўзаемаўплывы. На яго думку, у выніку паланізацыі ў Літве і Беларусі сфармаваўся адметны тып паляка, які па сваім этнакультурным характарыстыкам быў бліжэйшым да літоўца і беларуса, чым да паляка з этнічнай Польшчы.

Тэрмін "паляк" у часы існавання Рэчы Паспалітай быў тэрмінам не нацыянальным, а саслоўным. І толькі ў такім сэнсе гэтую краіну можна лічыць "польскай дзяржавай". Спроба ахарактарызаваць працэсы паланізацыі часоў Рэчы Паспалітай у катэгорыях палітыкі дзяржаўнай асіміляцыі ўладаў II Рэчы Паспалітай (1918-1939) толькі заблытвае сітуацыю. У гэтым выпадку мы сустракаемся з пэўнай ідэалагічнай зададзенасцю, якая перашкаджае навуковаму вырашэнню праблемы.

Частка польскіх навукоўцаў (напрыклад, Пётр Эбэргардт і Роман Вапіньскі) лічаць "літоўскіх палякаў" часткай польскай нацыі, якая апынулася ў больш цяжкіх гістарычных абставінах і не здолела захаваць усе польскія этнакультурныя рысы. Яны карыстаюцца традыцыйным паняццем "палякі ў Беларусі". Іншыя даследчыкі (напрыклад, Уладыслаў Вяльхорскі і Юліўш Бардах) адзначаюць адметнасць палякаў Беларусі і Літвы ад палякаў з этнічнай Польшчы. Яны досыць шырока ўжываюць паняцце "літоўскія палякі".

Пры гэтым падкрэсліваецца, што ў свядомасці гэтых палякаў іх прыналежнасць да польскай культуры спалучалася з выразным успрыняццем Беларуска-літоўскага краю як сваёй гістарычнай Радзімы. Вось, як характарызаваў гэты феномен у 1915 г. карэспандэнт газеты "Mysl Polska": "Польскасць у Літве (маецца на ўвазе "гістарычная Літва"-А.С.) абсалютна незалежная ад лозунгаў, што ідуць з Варшавы. Гэта асобная, лакальная польскасць. Толькі ад мясцовых фактараў залежыць, ці поўніцца справамі яе жыццё, ці яна празябае ў бездзейнасці. Пра "вяртанне" літоўскіх палякаў у этнаграфічную Польшчу не можа быць і размовы, бо яны і не прыходзілі ў Літву з Польшчы. Літва – гэта адзіны край, з якім яны этнаграфічна звязаныя". Літоўскі даследчык Рымантас Мікныс, які прывёў гэтую цытату ў адным з артыкулаў, лічыць, што на пачатку XX ст. існавалі пэўныя ўмовы фармавання нацыі літоўскіх палякаў. Яе асноўную масу маглі скласці носьбіты т.зв. "тутэйшасці". Толькі ўзнікненне польскай і літоўскай нацыянальных дзяржаваў, на яго думку, зашкодзіла гэтаму працэсу.

Развіццё літоўскага нацыянальнага руху выклікала пэўную трансфармацыю паняцця "літоўскія палякі". Нацыянальныя памкненні літоўскага этнасу спрыялі таму, што частка эліты "літоўскіх палякаў" пачала актыўна звяртацца да элементаў этнічнай літоўскай культуры. Словы "літоўскія" у словазлучэнні "літоўскія палякі" на пачатку XX ст. звязвалася ўжо не толькі з "гістарычнай", але і з "этнаграфічнай" Літвой. У той жа час па меры развіцця беларускага руху "літоўскія палякі", якія жылі на этнічных беларускіх землях, падпадалі пад пэўныя ўплывы беларускасці. Можна назваць імёны Эдварда Вайніловіча, Аляксандра Ельскага, Марыі Магдалены Радзівіл і Рамана Скірмунта. Аўтарытэт, якім карысталіся гэтыя асобы сярод асноўнай масы мясцовых палякаў, сведчыць пра тое, што беларускасць у той ці іншай форме прысутнічала ў свядомасці значнай часткі польскай грамадскасці на этнічных беларускіх землях. Усё гэта дае падставы для ўжывання паняцця "беларускія палякі".

Права на існаванне гэтага тэрміну пацвердзіў таксама аналіз палітычнай дзейнасці польскай грамадскасці Беларусі і Літвы напрыканцы XIX – пачатку XX ст., асабліва ў перыяд рэвалюцыі 1905-1907 гг. У польскім руху ў гэты час выразна выявіліся два накірункі – краёвасць і прыхільнасць польскай нацыянальнай дактрыне ў фармуліроўцы Партыі нацыянальных дэмакратаў. Пры гэтым дамінаваў першы. Краёўцы, якія зыходзілі з інтарэсаў усяго Беларуска-літоўскага краю і ўсіх насяляючых яго народаў, імкнуліся замяніць этнакультурнае разуменне нацыі разуменнем яе як палітычнай катэгорыі і пастаянна падкрэслівалі адметнасць Беларусі і Літвы ад Польшчы, карысталіся падтрымкай пераважнай большасці мясцовай польскай грамадскасці. Такая пазіцыя беларускіх палякаў спрыяла фармаванню даволі прыязных адносінаў з беларускім нацыянальным рухам.

Варта заўважыць, што на працягу амаль усяго XIX ст. паміж палякамі і беларусамі не існавала выразнага пачуцця нацыянальнай чужасці. Аналіз беларускага фальклору, зроблены Паўлам Церашковічам, сведчыць, што палякі Беларусі нават не траплялі ў катэгорыю "чужых". Частка інтэлігенцыі з ліку беларускіх палякаў (Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Людвік Сыракомля, Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч і інш.) прыняла актыўны ўдзел у працэсе беларускага культурнага накаплення і выпрацоўцы ўласна беларускай культурнай традыцыі. Толькі напрыканцы XIX ст. стаў адчувальным пэўным этнасацыяльны канфлікт. Ён быў вынікам як дэмакратызацыі грамадства, якая суправаджалася радыкалізацыяй настрояў сацыяльных нізоў, так і наступствам русіфікацыі Беларусі. З пачаткам палітычнага этапу беларускага Адраджэння гэты канфлікт мог яшчэ больш абвастрыцца. Аднак доўгі час гэтага абвастрэння не назіралася, бо краёвая пазіцыя большасці беларускіх палякаў была выдатнай глебай для супрацоўніцтва. Польскія краёўцы, як і беларускія дзеячы, успрымалі Беларусь і Літву ў якасьці суб'екта гісторыі і марылі пра яе ператварэнне ў суб'ект палітыкі.

У 1917-1918 гг. Беларуска-літоўскі край ператварыўся ў арэну вострага палітычнага і нацыянальнага змагання. Распачалася барацьба за стварэнне нацыянальных дзяржаваў. У гэтых умовах краёўцы як з'ява рэгіянальная страцілі свае пазіцыі. Адметнасць інтарэсаў беларускіх палякаў была прынесена ў ахвяру агульнапольскім інтарэсам.

Дамінаванню ідэі польскай нацыянальнай дзяржавы спрыяла прызнанне германскімі ўладамі незалежнасці Літвы са сталіцай у Вільні, што перакрэсліла геапалітычныя праекты беларусаў і мясцовых палякаў па адраджэнню былога Вялікага Княства Літоўскага (г.зв. "гістарычнай Літвы"), а таксама захоп улады ў Расіі бальшавікамі. Апошнія распалілі сапраўдную сацыяльную вайну ў беларускай вёсцы, што прывяло да канчатковага афармлення ўласна нацыянальнага беларуска-польскага канфлікту. Большасць недаўніх краёўцаў сталася прыхільнікамі канцэпцыі інкарпарацыі беларускіх земляў у склад Польшчы. Буйнейшыя польскія партыі імкнуліся да стварэння незалежнай Польскай дзяржавы. "Беларускае пытанне" як самастойны палітычны фактар для іх не існавала. Наладжванню кантактаў не спрыяла таксама спроба беларускіх палітыкаў услед за літоўскімі разыграць "германскую карту" у мэтах умацавання ўласнай дзяржаўнасці.

Бліжэйшым наступствам гэтага канфлікту сталася савецка-польская Рыжская дамова (1921 г.) і падзел Беларусі, які на працяглы час зруйнаваў ідэю незалежнай беларускай дзяржавы і паспрыяў далейшаму пагаршэнню польска-беларускіх адносінаў.

Паводле лічэнне колькасці палякаў на беларускіх землях у XX ст. адбывалася ў асноўным у Заходняй Беларусі, якая ў 1921-1939 гг. уваходзіла ў склад Польскай дзяржавы. Польскімі ўладамі праводзілася палітыка дзяржаўнай асіміляцыі беларускага насельніцтва. З этнічных польскіх земляў сюды перасяляліся групы "асаднікаў" (ваенных і цывільных каланістаў), розныя катэгорыі рабочых і чыноўнікаў. Па звестках Ігара Карашчанкі і Анатоля Валахановіча было перасялена каля 300 тыс.чал.

У БССР паводле перапісу 1926 г. пражывала 97,5 тыс. (2,0%) палякаў. Польскія даследчыкі лічаць гэтыя дадзеныя сфальсіфікаванымі. Так, гісторык з Вроцлава Мікалай Іваноў, спасылаючыся на запіску дырэктара Акруговай статыстычнай управы ў Менску пад назвай "Пра скажэнні падчас Усеагульнага перапісу 1926 г.", у якой сцвярджаўся факт паслядоўнай дыскрымінацыі польскага насельніцтва, ацаніў колькасць палякаў у 1926 г. у 300 тыс.чал.

(Далей будзе)



# Страсьці-мардасьці вакол доляраў

У "Народнай волі" за 27 верасня быў надрукаваны допіс Анатоля Казловіча "Беларускі зух". Як хто, а я адразу, разгарнуўшы газету, запыніўся вокам на гэтым матэрыяле. Размова ішла пра выдадзеную "Беларускім кнізаборам" на заказ Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" па-акадэмічнаму грунтоўную кнігу "Шлях нацыі і дзяржавы".

У аўтара прыкрасць выклікала тое, што так патрэбная ў сучаснай сітуацыі кніга-паратунак, наша "нацыянальная Біблія" здольна паўплываць усяго на некалькі соцень чалавек, а не на ўвесь занядбаны і прыніжаны беларускі народ, як у дачыненні да ўсяго чалавецтва ўздзейнічала Біблія ад Бога. І аўтар імкнецца знайсці вінаватых, з-за якіх і надалей народ застанецца цёмным і няўцямным. Гэта найперш нядаўнія кандыдаты ў прэзідэнты, паводле А.Казловіча, спрэс багатыя людзі, якія на добры лад павінны былі б укласці свае сродкі ў гэтае выданне, а не ў выбарчую кампанію. Папрок досыць недарэчны, нават смешны. Бо выбары якраз і існуюць на тое, каб выявіць найбольш годных і вартых на вышэйшую кіраўнічую пасаду, ад якой урэшце залежаць і наклады кніг, сутнасць і напаўненне нацыянальнай адукацыі, змест і накірунак дзейнасці СМІ і шмат чаго іншага, закліканага выхоўваць асобнага чалавека і ўвесь народ адначасова. Бо справа гэта ого якая няпростая і адной, мо і сапраўды звышвыдатнай кнігай не разбурыш стэрэатыпы, што ўбівалі ў галовы людзей на працягу стагоддзяў паднявольнага існавання...

Ад кандыдатаў у прэзідэнты аўтар пераходзіць у наступ на згуртаванне "Бацькаўшчына", што "недзе ў мінскім офісе сядзіць, пра якое, дарэчы, не ведае ні тутэйшы люд, ні расцярушаная па свеце, няўлоўная (? -- Я.Л.), як пылок папараць-кветкі, беларуская дыяспара". Увайшоўшы ў азарт крытыцызму і адмаўлення ва ўласцівым яму скептычна-зневажальна-абразлівым тоне, А.Казловіч дагаварыўся да таго, што "беларускай дыяспары не існуе як рэаліі гэтага (падкрэслена мной. -- Я.Л.) свету". Выходзіць, усе нашы суродзічы, уключаючы старых і малых, перамясціліся ў царства Аіда і зніклі ў невядомасці, нібы тая міфічная Атлантыда...

Што на такое можна сказаць? Надараюцца ж выкапні, таксама нібыта вучоныя людзі, якія на поўным сур'ёзе сцвярджаюць, што беларускай нацыі як такой увогуле не існуе, што беларуская мова ўяўляе сабой трасянку з рускай і польскай і ўзнікла не ў працэсе тысячагадовага натуральнага развіцця, а як штучная выдумка інтэлігенцыі, якой нібыта няма чым займацца, як толькі выдумляць тое, што нікому не патрэбна...

Што датычыць сказанага тут Анатолем Казловічам пра дыяспару, то я мог бы, ды толькі гэтага не дазваляе газетная плошча, шмат расказаць аўтару допіса пра рэальныя беларускія асяродкі ў замежжы, пра беларускія не па назве, а па сутнасці і духу праваслаўныя Аўтакефальную і належную да грэчаскага патрыярхата цэрквы, увенчаныя Крыжам святой Еўфрасінні Полацкай, у якіх святары прамаўляюць да вернікаў не на чужой, а толькі нам, як і кожнаму іншаму народу, Богам дадзенай сваёй мове. Можна было б падрабязна распавесці пра беларускамоўныя самабытныя мастацкія калектывы ў замежжы, якія даўно наспеў час сабраць разам у Беларусі, як гэта прынята ў іншых цывілізаваных народаў. Ёсць што сказаць пра беларускамоўныя перыядычныя і кніжныя выданні, пра перадачы на радыё і тэлебачанні, на роднай нашым суродзічам мове і пра шмат чаго іншага...

Пра тое, што беларуская дыяспара не міф, а рэальнасць, спачатку і нечакана для многіх заявіў Першы сход беларусаў блізкага замежжа, а потым куды мацней пацвердзіў Першы з'езд беларусаў свету, які праходзіў у пайнюткай зале Дзяржаўнага тэатра оперы і балета і сабраў каля тысячы дэлегатаў, што прадстаўлялі нашых суродзічаў з усіх кантынентаў і розных краін, дзе яны кампактна пражываюць. Каб атрымаліся такія сапраўды прадстаўнічыя форумы, каб сабраць і арганізаваць да таго сапраўды расцярушаных па свеце беларусаў, аўтару гэтых радкоў, які выступіў спачатку з ініцыятывай усебеларускага яднання, узначаліў аргкамітэт, а потым і быў абраны першым старшынёй новастворанай грамадскай міжнароднай арганізацыі, давялося цалкам, адмовіўшыся ад усяго іншага, у тым ліку і ад літаратурнай працы, папрацаваць на гэтую высакародную ідэю. У якім святле падаецца гэта Казловічам, мы паглядзім крыху пазней.

Сутнасць і пафас гэтай часткі казловічавых нататак у сцвярджэнні маральнай спустошанасці нацыі, яе здранцвеласці і абыякавасці, пры якіх аніхто ні ў Беларусі, ні ў замежжы (за выключэннем толькі Ірэны Каляды-Смірновай) не падтрымаў так патрэбнага ў гэты час выдання -- "калі б далі хаця па цэнту, то трох мільёнаў (колькасць дыяспары) цэнтаў хапіла б на велізарны тыраж кнігі".

Пры такой пастаноўцы і самому Анатолю Казловічу правамерна задаць пытанне: ну а ты сам, Анатоль, даў свой цэнт альбо рубель, ці не? І не толькі ў падтрымку менавіта гэтага праекта, а ўвогуле, на ўсім працягу ад пачатку перабудовы, калі на энтузіязме і імпэце свядомай грамады праводзіліся сотні дабрачынных грамадска-культурных імпрэзаў?..

Але, скажыце, хіба нават з боку таго, хто неаднойчы ахвяроўваў свой час і сродкі, будзе маральна папракаць і абражаць усё агулам беларускае замежжа і яго асобных прадстаўнікоў? Папракаючы ў сквапнасці, у тым, што самі маюць, а нам не даюць гэтых самых доляраў і цэнтаў?! Бо тут жа ўзнікае сустрэчнае пытанне-папрок: а што ж такое мы самі нашым суродзічам падаравалі, што яны так перад намі абавязаны і не хочуць сплачваць даўгі?.. Ходзіць тут нават не пра матэрыяльнае, якое ім зусім непатрэбнае, бо яны людзі забяспечаныя, хоць таксама не лілася ім манна з неба, асабліва на пачатковым этапе эміграцыі, калі не было ні кала ні двара і трэба было цяжкай працай у поце здабываць і прырошчваць свой набытак ды ахвяроўваць з яго на грамадскія патрэбы. І сёння таксама там не бібікі б'юць, як гэта надараецца часцяком у нас, а працуюць з поўнай аддачай -- хто галавою, а хто рукамі. Свядомая частка эміграцыі, аднак жа, жыла і жыве не толькі здабываннем хлеба надзённага, але і вышэйшымі клопатамі, жыццём духоўным. Дык вось, шаноўны Казловіч, у той час як многія тут на Бацькаўшчыне ці па бязглуздай завядзёнцы, ці па шкурных патрэбах адракаліся ад свайго, роднага, яны там на чужыне захоўвалі вернасць беларускай мове і культуры, свята шанавалі духоўную спадчыну свайго народа, ды нязводна верылі, што ў рэшце рэшт адродзіцца нацыянальная беларуская дзяржава, народ устане з каленяў на ногі і Беларусь зойме, як марыў наш прарок, "свой пачэсны пасад між народамі"...

Аднак і пры нашым нешанаванні свайго, а калі больш рэзка, то ў дачыненні да шмат каго -- самаплюйстве, пры адсутнасці ў людзей самаахвярнасці ў змаганні за ідэалы незалежнай Бацькаўшчыны, уклад дыяспары, а не адной Ірэны Каляды, якая ў мяне, як і многіх, ёсць блізкага зямляка, выклікае асаблівае пачуццё гонару і ўдзячнасці за сваю высакародную дзейнасць, спалучаную з уменнем здабываць грошы, вельмі істотны. Сцвярджаю гэта як чалавек, пры пасрэдніцтве якога было перададзена ў беларускія шпіталі лекаў на некалькі мільёнаў доляраў.

Сваёй дабрачыннай дзейнасцю і ад сябе асабіста, і ад добра арганізаванай кліўлендскай грамады беларусаў, лідэрам якой ён быў на працягу амаль усяго пасляваеннага часу, вызначыўся светлай памяці Сяргей Карніловіч. Не магу таксама не згадаць імёны яго блізкіх сяброў і паплечнікаў -- вядомага ў беларускім замежжы прадпрымальніка Толіка Лук'янчыка і грамадскага дзеяча (займаецца і бізнесам) Янку Ханенку. Дык вось, першы не толькі істотна дапамагаў на роднай яму Брэстчыне, але і ўклаў значныя сродкі ў рэстаўрацыю нашай пярліны -- Мірскага замка. Не ведаю, ці запрашалі яго прыехаць на юбілейныя ўрачыстасці, што адбываліся некалькі гадоў таму, але вось што сярод ахвярадаўцаў на свяце забылі згадаць і яго, дык гэта мне дакладна як прысутнаму там, вядома. Шмат зрабілі для Беларусі і сябры другога магутнага нацыянальнага асяродка -- Беларуска-Амерыканскага грамадскага цэнтра ў Саўт-Рыверы на чале са сваім нязменным старшынёй Юркам Навумчыкам. Зрабілі і робяць, пра што сведчыць і нядаўняя публікацыя ў "Народнай волі" маёй любімай журналісткі Марыны Коктыш, дзе распавядаецца пра тое, што на запрашэнне Цэнтра і Фундацыі імя Крычэўскага ў Амерыку разам з дачкой Алесяй паехаў Анатоль Ярмоленка запісваць свой новы альбом. Паверце, іх пералёт, побыт і запіс на амерыканскіх мерках каштуюць нямала, але ж запрошаны не абы хто, а нашы славутыя артысты, якія і тут, на Радзіме, і ў замежжы высока шануюць свой нацыянальны гонар...

А хіба мала паклапаціліся, каб хоць неяк суцешыць наш незагойны чарнобыльскі боль таксама амэрыканскія беларусы Алекс Сільвановіч і Мікола Прускі, які, дарэчы, адзін (факт, як лічу, у сусветнай нават практыцы унікальны, выдаў на ўласным друкарскім абсталяванні (ды як паліграфічна дасканала!) цэлую бібліятэку беларускамоўнай замежнай класікі.

Паколькі гаворка кранулася выдавецкіх спраў, то мушу параіць сп. Казловічу разгарнуць упершыню пасля Скарыны аддрукаваную тут, на Радзіме (у эміграцыі ў пасляваенны час такіх выданняў было некалькі), Святое пісанне ("Новы запавет" і "Псалтыр") у перакладзе Васіля Сёмухі, выдадзенае за сродкі доктара гісторыі, вядомага эміграцыйнага дзеяча Янкі Запрудніка. Увішнаму ў іншых выпадках журналісту варта зазірнуць і ў кнігу паэзіі Генадзя Бураўкіна "Паміж зоркай і свечкай", фундатарамі якой пазначаны сябры вышэйзгаданага Беларуска-Амерыканскага Цэнтра ў Саўт-Рыверы і прыхаджане Беларускай царквы святой Еўфрасінні Полацкай з гэтага ж ці не самага беларускага па колькасці беларускамоўных жыхароў горада ў свеце. Назваеныя кнігі пабачылі свет у выдавецтве "Бацькаўшчына". Але не толькі гэтай, узначаленай мной структуры, дапамагла эміграцыя ў выданні сапраўды карысных і значных для нашай гісторыі і культуры кніг. Каб пераканацца ў гэтым, раю журналісту ўзяць у рукі нядаўна перавыдадзеныя кнігі Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род" і (разам з Г.Сагановічам) "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі". У іх выказваецца падзяка шматлікім арганізацыям і асобам беларускага замежжа...

Ці мо замала робіць і таму заслужыла папрокі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, з ласкі і пры спрыянні якой штолета адпачываюць у Канадзе сотні чарнобыльскіх дзяцей?! Або такая унікальная Асоба, як айцец Аляксандр Надсан, які пры яго высокім святарскім сане і пры яго паважаным узросце неаднойчы на грузавічку за рулём пераадольваў тысячы кіламетраў прасторы, везучы лекі ў Беларусь. Пра зробленае гэтым чалавекам найпаўней гаварылася нядаўна падчас яго юбілею на старонках "Нашай Нівы", якой, так выглядае, наш амбітны журналіст увогуле не чытае.

Пералік праяў высакароднай чуласці і ахвярнасці не пасаваных псеўдацывілізацый і чыстаганам, традыцыйна прыгожых беларускіх душаў у імкненні дапамагаць Беларусі і яе насельнікам можна працягваць далей і далей. Але ці патрэбна рабіць гэта менавіта тут. Бо зразумела, што, выбачаюся за слова, лямант вакол выдання кнігі "Шлях нацыі і дзяржавы" штучна інспіраваны. А вакол яго ўзніклі і надуманыя папрокі і абразы ў адрас усёй беларускай дыяспары. Бо калі аўтара нататак сапраўды "за жывое" закранула праблема накладу і фундатарства названага выдання, то першае, што павінен быў зрабіць вопытны журналіст, пачынаючы сваё расследаванне, дык гэта патэлефанаваць у згаданы ім офіс няхай сабе і амаль зусім невядомага цяпер Згуртавання "Бацькаўшчына" і ўдакладніць, расшыфраваць узніклыя пытанні. І непатрэбным стаў бы "плач на рэках Вавілонскіх".

Велічыня накладу, між іншым, залежыць не толькі ад фінансавых магчымасцяў заказчыка, але і ад свядомага выбару ім тыпу выдання. Бо можа быць масавае, па коштах даступнае людзям з невялікім дастаткам, ці камерцыйнае, разлічанае на "багаценькіх". Перад гэтым, напрыклад, Згуртаванне беларусаў свету выдала не менш салідную кнігу "Хто ёсць хто сярод беларусаў свету", якраз і разлічаную на заможнага пакупніка. Не ведаю, колькі зарабляе ў незалежнай газеце Анатоль Казловіч, я ж, працуючы ў дзяржаўнай, магу за сваю месячную "заплату" набыць усяго некалькі асобнікаў гэтага, мне, дарэчы, вельмі патрэбнага выдання. Але пакуль што не купіў. І калі такія дарагія коштам кнігі выдаваць тысячнымі накладамі, то пры нэндзе і гаротнай долі народа яны надоўга лягуць мёртвым грузам на кніжныя паліцы і для выдаўца праект будзе цалкам стратным.

***

Здавалася б, можна паставіць кропку. Але канцоўка нататкаў А.Казловіча не дазваляе мне гэта зрабіць. Менавіта ў апошніх абзацах, як кажуць, сабака закапаны, бо, я лічу, усё папярэдняе спатрэбілася аўтару толькі для прыкрыцця таго, пра што пойдзе далей гаворка.

Выліўшы вядро бруду на эміграцыю, аўтар удакладняе, што на гэтым безнадзейна-змрочным фоне поўнай абыякавасці да праблемы выжывання нацыі і нейкай паталагічнай скупасці заходняй эміграцыі надараецца, аднак, і асобныя праблiскі. Цытую А.К.

"Хачу ўдакладніць. Рэальная не адна амерыканка беларускага паходжання Каляда-Смірнова. Рэальнымі таксама можна лічыць, напрыклад, беларусаў Аўстраліі, куды з Мінска і адправіўся аднойчы літаратар Яўген Лецка -- адзін з першых кіраўнікоў "Бацькаўшчыны". Адправіўся ён за акіяны-горы з канкрэтнай мэтай: папрасіць грошай на выданне патрэбных беларусам кніг. Не ведаю, колькі ён падарожнічаў, што рабіў. Ведаю толькі фінал. У 1995 годзе "Народная газета" (яшчэ пры рэдактарстве Сярэдзіча) змясціла заметачку пад дзіўнаватай назвай "Як беларус Лецка аўстралійскія долары пратанцаваў". У заметачцы найцікавейшы крымінальны (падкрэслена мной -- Я.Л.) сюжэт.

Прывёз Лецка чамадан ("дыпламат") доляраў, сабраных у беларусаў Аўстраліі, і чамусьці з тым чаманам, па яго словах, пацяцеў на танцы ў мінскі Дом літаратара. Там выступаў фальклорны калектыў, разам танцавалі і артысты, і гледачы. Лецка таксама не ўцярпеў, бо -- зух. Паставіў свой чамадан і ў скокі з упадабанай кабетай. Вярнуўся распараны, а чамадана з грашыма, зноў жа па яго версіі, няма. Укралі. Ёсцьтакі ў Беларусі свае ухі! Беларускі дух выпарыўся, а зух застаўся.

Што адбылося далей з чамаданам-кашальком -- невядома. Ці знайшлі яго міліцыянеры, ці сам Лецка -- СМІ не паведамілі. Вядома адно: грошы ў чамадане сапраўды былі, і немалыя, бо калі б былі малыя, то карыстальнік паклаў бы іх у партманэт, а партманэт -- у кішэню. Тоўстая кішэня добраму танцору не замінае.

Выснова просіцца наступная. Дыяспара быццам ёсць, грошы ў яе ёсць, офіс "Бацькаўшчыны" ёсць, управа ў ім праце, ідэі генерыруе, факсы шле, новы кіраўнік важную справу вядзе, а кніга-унікум, магчымая біблія ўсіх беларусаў свету, мае наклад усяго 500 асобнікаў".

Абвінавачанні, як бачым, вельмі сур'ёзныя і сапраўды цягнуць на артыкул Крымінальнага кодэкса. Даводзіцца

толькі здзіўляцца, як мне яшчэ пасля колішняй публікацыі ў "Народнай газеце" ўдалося адкруціцца ад турмы і дасюль "зухаваць" на волі. Нават, як гэта ні дзіўна, карыстацца аўтарытэтам і даверам у той жа дыяспары...

Так, на папярэднім, 2-м З'ездзе беларусаў свету, а ён адбываўся якраз пасля таго, як Лецка "ўкраў" чамадан сабраных на грамадскія патрэбы долараў, мяне не толькі не вывелі на чыстую ваду і з трэскам не турнулі са Згуртавання, але і выбралі ва ўсе яго кіраўнічыя структуры -- Вялікую і Малую Рады, а таксама Управу, з якой я, праўда, на пэўным этапе самахоць, падаўшы заяву, выйшаў. А на нядаўнім 3-м З'ездзе, таксама абралі сябрам Вялікай і Малой Рады. Больш за тое, Управа рэкамендавала мяне на пасаду віцэ-прэзідэнта, але паколькі Іван Саверчанка, правай рукою якога я меўся быць, адмовіўся ад лідэрства ў "Бацькаўшчыне", а новы прэзідэнт, шаноўны Анатоль Грыцкевіч вырашыў, што зручней кіраваць аднаму, пасада віцэ была па ходу скасавана. Аднак на з'ездзе прагучалі галасы за тое, каб вярнуць мяне на старшыню Рады, аднак ад такога гонару я катэгарычна адмовіўся...

Дык у чым жа справа? Выходзіць, што да згаданых вышэй абвінавачанняў А.Казловіча ў адрас беларускай эміграцыі дабаўляецца яшчэ адно не менш істотнае. Бо, пагадзіцеся, не толькі не асудзіць, а вылучаць "крымінальніка" на адказную ў грамадскім аб'яднанні ролю -- гэта шмат пра што сведчыць. Ды, магчыма, да апошняга часу дыяспара проста не ведала, што за чалавек і з якімі мэтамі стварыў, а потым і ўзначаліў Згуртаванне беларусаў свету?! У такім разе найбольшая віна кладзецца на кіраўніцтва суполак Аўстраліі, якія не праінфармавалі сусветную беларускую грамадскасць пра тое, якім чынам Яўген Лецка распарадзіўся іхнімі сродкамі. А грошы немалыя -- я цікавіўся ў дасьведчаных людзей: кажуць, у невялікі чамаданчык можна ўпакаваць каля паўмільёна долараў... А калі так, то, высоўваючы такія абвінавачанні, журналіст павінен усё да драбніц выверыць, напісаць так, каб камар носа не мог падтачыць...

Праўдай зьяўляецца тое, што я сапраўды лятаў у Аўстралію да сваіх суродзічаў. Але было гэта не ў 1995-м, а два гады раней, напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету. Паездка была абумоўлена тым, што Федэральная Рада беларусаў Аўстраліі, якая, па сутнасці, аб'ядноўвае ўсе суполкі нашых суродзічаў на гэтым кантыненце, прыслухоўваючыся да аўтарытэтных галасоў адсюль, з Беларусі, а найперш лідэра Беларускага народнага фронту Зянона Пазьняка аб немэтазгоднасці склікання Усебеларускага форуму ў той час і па ініцыятыве ЗБС "Бацькаўшчына", да апошняга марудзілі са сваім рашэннем. Аднак, лічылі мы на Управе, прадстаўніцтва на з'ездзе павінна быць як мага больш поўным. А беларуская дыяспара ў Аўстраліі адна з самых моцных сярод іншых, яе няўдзел у з'ездзе не мог прайсці незаўважаным. Таму і было прынята адпаведнае рашэнне наконт маёй паездкі туды, супраць якога, зазначаю з гледзішча гістарычнай адпаведнасці, катэгарычна выступіла Ганна Сурмач і Лідзія Савік. Ды гэта была іх асабістая думка, нічым аб'ектыўна не абгрунтаваная. І я паляцеў. А запрасіны мне выслаў мой блізкі зямляк, чалавек незвычайна чулай паэтычнай душы, Мікола Сазановіч, які, на жаль, некалькі гадоў таму адышоў назаўсёды ад нас, але пакінуў, як архітэктар, па сабе слаўную памяць у горадзе Якарандзе, дзе ён працаваў увесь пасляваенны час і збудаваў дзесяткі адметных і выразных па дойлідскім вырашэнні будынкаў -- цэркваў, касцёлаў, школ і іншых збудаванняў самага рознага прызначэння. У ягонай гасціннай сям'і я на пару дзён і спыніўся і адсюль наладжваў стасункі з беларускімі суполкамі ў розных гарадах. Паспрыяла тое, што ў Мельбурне, дзе знаходзіцца кіраўніцтва Федэральнай Рады, жыў блізкі Міколаў сябра, таксама ў беларускім асяроддзі вельмі аўтарытэтны чалавек, шчыры, да апошняга ўздыху беларус Уладзімір Сідляровіч, у якога я і атабарыўся. Але варта было сустрэцца з цудоўнымі людзьмі і адданымі Беларусі патрыётамі – Прэзідэнтам Фэдэральнай Рады Паўлам Гузам, старшынёй Аўгенам Грушам і сакратаром Алегам Шнэкам, як паміж намі зніклі ўсе непаразуменні і ўсталяваліся вельмі прыязныя, нават сяброўскія, што датычыць асабліва апошняга, дачыненні. І далей усё пайшло як па масле. Нават, больш за тое, быў уражаны, хоць ніколі не пакідала пачуццё няёмкасці, калі ў беларускіх цэрквах адпраўлялі ў мой гонар святую службу. Але ж я быў першым, няхай не афіцыйным, не на дзяржаўным узроўні, але правамоцным прадстаўніком на той час ужо аўтарытэтнай грамадскай арганізацыі, які прыляцеў да іх з важнай місіяй і гаварыў пра тое, што іх усе гады хвалявала, -- пра духоўнае і дзяржаўнае адраджэнне Беларусі. Ні пра якую выдавецкую дзейнасць, якую я тады яшчэ і не наладжваў, нават і гаворкі не ўзнікала, а таму ніякіх сродкаў я на гэта не прасіў. Увогуле мушу сказаць, што нечага прасіць я арганічна не магу. Іншая справа прапанаваць паўдзельнічаць у нейкім, патрэбным не толькі мне, а найперш грамадству, праекце. На той час, зразумела, гэта была ідэя ўсебеларускага яднання і арганізацыйнага правядзення Першага з'езда беларусаў свету. І яе, у чым якраз і заключалася мэта маёй паездкі на далёкі кантынент, аўстралійскія беларусы дружна падтрымалі як маральна, арганізацыйна, так і фінансава, за што ім была выказана ўдзячнасць у ходзе Першага з'езда беларусаў свету.

Паколькі з-за долараў і ўзгарэўся ў далейшым увесь гэты сыр-бор, ёсць патрэба сказаць пра завядзёнку ў нашых далёкіх суродзічаў, а яна трымаецца на традыцыях спрадвечнай беларускай гасціннасці: не толькі смачна частаваць госця, але і даваць яму на дарогу па якіх дзесяць-дваццаць тых самых зялёных. І я таксама атрымаў такога гасцінца як ад названых тут, так і падчас наведвання Сіднея і Адэлайды. Карыстаючыся выпадкам, хачу няхай сабе ў друку наўздагон, выказаць шчыры дзякуй Міхасю Лужынскаму і Міколу Антуху, айцам Бурносу і Кулакоўскаму, Алесю Садоўскаму, кіраўніку суполкі ў Адэлайдзе, сп.Коленсу, імя якога, на жаль, я ўжо не памятаю. Апрача гэтага, пяцьдзесят долараў па пошце пераслаў Міхась Раецкі, мой блізкі зямляк, чалавек незвычайнага лёсу (сядзеў у польскай, савецкай і нямецкіх турмах), нязменны кіраўнік беларускай грамады ў горадзе Пэрце і арганізатар-вядучы тамтэйшага радыё на беларускай мове. З ім пабачыцца, бо паміж намі ўжо тады завязалася актыўнае сяброўскае ліставанне, мне хацелася мо больш, чым з кім, аднак брак часу (паездка з побытам у Аўстраліі разам заняла каля 10 дзён) не дазволілі спатоліць душу супольніцаннем з гэтым цікавым чалавекам. Дый за такі кароткі час адбылося шмат запамінальных сустрэч і гаворак з добрымі і гасціннымі людзьмі, набралася багатых уражанняў, але выкласці на паперу ці хоць бы занатаваць іх я проста не здолеў у перад'ездаўскіх клопатах, у розных канфліктах і непаразуменнях, што ўзнікалі вакол правядзення гэтага сапраўды значнага, эпахальнага агульнанацыянальнага мерапрыемства. Вось і кажу наўздагон шчыры дзякуй усім, з кім мне собіла сустрэцца і пазнаёміцца на ласкавай, гасціннай і працавітай аўстралійскай зямлі! Дзякуючы новым сябрам-знаёмым у мяне сапраўды сабралася, як на нашыя меркі, досыць салідная кішэнная сума, якая складалася з асабіста мне падораных грошай, якія, зразумела, я мог скарыстаць на ўласныя патрэбы. Я ж імі распарадзіўся інакш. Бо вырашыў чыстым пакінуць сваю кіраўнічую пасаду ў "Бацькаўшчыне", каб ніхто і ніколі не мог мяне папракнуць у выкарыстанні грамадскага становішча для асабістых мэт. Карацей, адразу ж пасля з'езда вярнуў назад грошы, за якія я набываў білет туды і назад у Аўстралію. І, да слова, пакідаў "Бацькаўшчыну" не з пустой скарбонкай, а заможнай, з дзвюма выдатна абсталяванымі кватэрамі і офісам у цэнтры горада. Ды сёння, на жаль, маёмасныя магчымасці гэтай грамадскай арганізацыі змізарнелі, як, дарэчы, і ўся яе дзейнасць...

А можа, узнікае правамернае пытанне, я сябе знарок падхвальваю, нават хлушу. Бо інакш адкуль жа ўзяўся "кампрамат", на падставе якога з'явілася публікацыя А.Казловіча "Беларускі зух". Зноў дазволю, але на гэты раз кароценькую вытрымку з ягонага матэрыяла, дзе мова ідзе пра "заметачку пад дзіўнаватай назвай "Як беларус Лецка аўстралійскія долары пратанцаваў". У заметачцы -- найцікавейшы крымінальны сюжэт.

Пра тое, што гэта за "заметачка", як яна ў сярэдзічаўскай "Народнай газеце" ўзору 1995 года з'явілася ды што ёй папярэднічала, пра ўсё гэта і пойдзе гаворка ў заключнай частцы нашых нататкаў.

***

Падобны, але да неверагоднасці перакручаны і ва ўласцівай Анатолю Казловічу з'едлівай саркастычнай манеры пададзены, выпадак сапраўды адбыўся ў 1995 годзе. З маім на той час двухгадовай даўнасці падарожжам у Аўстралію ён звязаны ў тым сэнсе, што тады між мной і суродзічамі ўзнікла дамоўленасць наконт перасылкі ім перыёдыкі, кніг і сувеніраў. Што я і рабіў рэгулярна на працягу двух гадоў, са сваёй кішэні аплачваючы кошт прадукцыі і паштовыя выдаткі (а яны немалыя) у тую далёкую краіну. І вось пры нагодзе мой сябра перадаў праз чалавека, што ляцеў з Мельбурна ў Мінск, мне належнае. Зразумела, ні ў якім не чамадане, пісаць пра што можа ці толькі беспардонны хлус, ці чалавек з яўнымі псіхічнымі адхіленнямі, а ў звычайным канверце разам з лістом да мяне. Зразумела, атрымаўшы, надзейней было ўсё аднесці дахаты. Але якраз у той дзень у Доме літаратара ладзіўся праз Беларускі Саюз фалькларыстаў фэст з удзелам лепшых народных калектываў. І на гэтае свята я быў афіцыйна запрошаны як чалавек, што спрыяў яго правядзенню.

Спачатку, як і належыць, была афіцыйная частка з прамовамі і выступленнямі на сцэне славутых фальклорных гуртоў, спевакоў і танцораў, а па завяршэнні сцэнічнай імпрэзы арганізатары з лепшымі выканаўцамі перайшлі ў канферэнц-залу Дома літаратараў "на чай". Але дзвярэй ніхто не зачыняў і для аматараў павесяліцца на дармавінку.

Я сядзеў за сталом, а дыпламат стаяў ля нагі на падлозе. У ім, апрача атрыманага з Аўстраліі канверта, былі дакументы і пячатка выдавецтва "Бацькаўшчына", якое я на той час, згодна з рашэннем Вялікай рады ЗБС, узначальваў.

Вясёлая як звычайна гамана раз-пораз расквечвалася прыгожымі песнямі ў калектыўным і сольным выкананні. І мне сапраўды шчымлівай нотай запаў у вуха спеў маладзенькай прыгожай артыстачкі, якую я прыкмеціў яшчэ на сцэне. Між намі заіскрылася мова вачэй, і ў пэўную хвіліну я падхапіўся са свайго месца, паставіў дыпламат на стол, каб быў навідавоку, перайшоў на другі канец стала і сеў поруч з артысткай. Размаўлялі мы мо якіх хвілін 5--7, я перавёў вока на супрацьлеглы край авальнага, метраў на дзесяць, стала і зьнячэўку зжахнуўся: дыпламата на стальніцы не было. Не аказалася яго і пад сталом. А на маё запытанне тыя, хто застаўся, бо людзі якраз пачыналі разыходзіцца, няўцямна паціскалі плячыма. Я кінуўся на выхад, спытаў, ці не прыкмецілі вахцёры чалавека з дыпламатам, ды папрасіў, калі з'явіцца падазроны, яго на некалькі хвілін затрымаць, а сам пачаў шныраць па закутках Дома літаратара, спадзеючыся, што маглі канверт выняць, а дыпламат з пячаткай і дакументамі выкінуць. Пошукі, да якіх далучылася яшчэ некалькі чалавек, былі марнымі. І я, увагнуўшы галаву ў плечы, пасунуўся, кленучы сябе, на свой васемнаццаты аўтобус...

А назаўтра недзе ля палудня мне патэлефанавалі з чыгуначнай міліцыі і загадалі неадкладна з'явіцца ў прывакзальны пастарунак. Там падрабязна, па некалькі разоў перапытваючы пра адно і тое, пачалі распытваць пра ўчарашні дзень і маю прапажу. Потым прынеслі мой дыпламат. У ім было усё, апрача канверта з Аўстраліі. Ды тое, што я пачуў ад людзей у пагонах, сваёй неверагоднасцю прыглушыла шкадаванне ад страты і дасюль трывожыць памяць невытлумачальнай загадкай гэтага эпізода ў летапісе нябеднага на прыгоды і здарэнні майго жыцця...

***

Сталася так, што падзеі, пра якія пішу, па часе супалі з афіцыйным візітам кіраўніка Расіі Барыса Ельцына ў Беларусь. У фармаце пратакола побыту прадугледжвалася і ўскладанне кветак да помніка Перамогі. Вось тут і адбылося неверагоднае. Перад тым як ускочыць у вагон метро на станцыі "Плошча Перамогі", невядомы гучна закрычаў, што станцыя замініравана, і пакінуў на пляцоўцы дыпламат. Менавіта ў гэты час і павінен быў пад'ехаць да "Плошчы Перамогі" картэж з Ельцыным -- спецслужбы, як і належыць у такіх выпадках, былі напагатове. Тут жа аб'явілі трывогу, спынілі рух цягнікоў метро і пачалі аперацыю па размініраванні...

Аднак ніякіх узрыўных ладункаў у маім, як здагадваецеся, мірным дыпламаце выкліканыя сюды мінашукальнікі не выявілі. Адпаведна і мяне, падрабязна дапытаўшы назаўтра ў аддзяленні чыгуначнай міліцыі, жывым і здаровым выпусцілі на волю. Безумоўна, я турбаваўся пра скрадзены з дыпламата канверт, і мяне запэўнілі, што будзе ўсё зроблена, каб адшукаць таго самага ці то хулігана, ці то правакатара, ці звычайнага злодзея, і вярнуць мне маё...

Ішлі дні, але ніхто мяне больш нікуды не выклікаў і не інфармаваў. І я, зняверваючыся, напісаў ліст на імя кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, яшчэ раз нагадаўшы, што фестываль, уключаючы ягоную неафіцыйную частку ў канферэнц-зале Дома літаратараў, запісваўся на відэастужку. У апошнім выпадку -- на аматарскую. Але ж, напэўна, у аб'ектыў маглі трапіць адзін-два падазроных, якіх можна было сярод іншых выявіць і дапытаць. З гэтага, меркаваў я, і трэба было пачаць следства. Тым больш, што на асобу аднаго бузацёрна-авантурнага паэта мне самі ўдзельнікі вечарыны падказвалі, аднак ягонага прозвішча, пакуль што не маючы ніякіх для гэтага здарэння канкрэтных падстаў, я ў міліцыю не падказваў. Аднак з праваахоўных органаў прыйшоў адназначны адказ, што з-за адсутнасці канкрэтных улік справа ў вытворчасць не ўзята...

Ці то не схацелі "раздзьмухваць" досыць анекдатычны з гледзішча дзяржаўных інтарэсаў выпадак, да якога незнарок прыткнуўся лідэр Расіі, маючы з-за гэтага калі не страх, то пэўны клопат, ці ўсё ж тое здарэнне на фоне гучнага крыміналу (буйнамаштабныя крадзяжы і забойствы) выглядала занадта мізэрным і дробязным, каб ім усур'ёз займацца.

***

Якое пачуццё ў нармальных людзей выклікае бяда іншага чалавека? Найперш спачуванне. Рэакцыя суперажывання адчувалася адразу ж пасля здарэння і ва ўдзельнікаў вечарыны, і ў вахцёраў Дома літаратара, і нават назаўтра ў міліцэйскім пастарунку, і ва ўсіх іншых, хто так ці інакш даведваўся пра скрадзены дыпламат.

Так здарылася, што ў Доме друку, дзе размяшчаліся рэдакцыі рэспубліканскіх газет, я, будучы там па справах недзе праз дзень-два, выпадкова напаткаў галоўнага рэдактара "Народнай газеты" Іосіфа Сярэдзіча. І я яму распавёў пра выпадак у Доме літаратара і метро. Ён, вопытны журналіст, адразу ж загарэўся, бо ўбачыў у гэтым цікавы газетны сюжэт. Падгаварыў напісаць пра гэта ў "Народную газету", што я і зрабіў, падпісаўшыся, як дамовіліся, не ўласным прозвішчам, а псеўданімам Я.Варанец, якім і датуль досыць часта карыстаўся. Праз пару дзён аднёс матэрыял у рэдакцыю. Сакратарка ў прыёмнай

паведаміла, што галоўны кудысьці ад'ехаў і паабяцала, як толькі з'явіцца, яму перадаць...

Можа ўзнікнуць пытанне: а ці трэба было ўвогуле пра ўсё гэта пісаць? Бо адно інтарэсы рэдакцыі і яе шэфа (тут натуральнае імкненне да сенсацыйнасці), а іншае -- мае асабістыя матывы. Бо, калі цвяроза разважаць і быць шчырым, у той сітуацыі я апынуўся ў незайздроснай ролі, пра што лепш было прамаўчаць. Пра гэта я і казаў пры той нашай сустрэчы галоўнаму рэдактару "НГ", ды ён, прыкінуўшы, запярэчыў, што ўсё ж надзейней пра ўсё напісаць у трэцяй асобе самому, бо дзе гарантыя, што, як гэта часта бывае ў журналістыцы, нехта не перахопіць ініцыятыву і ўсё перакруціць да вольнасці...

Як у ваду глядзеў шматвопытны шаноўны Іосіф Паўлавіч!

Разгортваю праз пару дзён "Народную газету" і вачам сваім не веру... Найперш паласнуў па сэрцы загаловак "Як беларус Лецка аўстралійскія долары пратанцаваў". Не лепш было і са зместам. У маім матэрыяле рабіўся націск на здарэнне ў метро. Гэтым я завастраў увагу на шэрагу іншых, яўна правакацыйных авантурах, што ініцыяваліся ў дачыненні да мяне падчас старшынёўства ў ЗБС "Бацькаўшчына" і пасля. Аднак у "Народнай газеце" значны грамадскі сэнс публікацыі знік, а Лецка быў выстаўлены звычайным шалапутам, але, заўважым, не крымінальнікам. Так што мой статус на гэты раз у "Народнай волі" значна павысіўся. Акцэнт у "НГ" быў зроблены на тым, што Лецка ўкляпаўся ў маладую дзяўчыну і, забыўшыся на дыпламат з грашыма, кінуўся з ёю ў імпэтныя скокі, якіх на самай справе ў канферэнц-зале ўвогуле не было.

Абураны, патэлефанаваў галоўнаму рэдактару. Сакратарка адказала, што шэф у камандзіроўцы. Тады праз знаёмых даведаўся, хто рыхтаваў мой допіс у друк. Выявілася, што А.Казловіч, які ў той час працаваў у "Народнай газеце".

Я тады не ўступіў у дыскусію. На гэты раз вырашыў выкарыстаць свае законнае права.

*Яўген* **ЛЕЦКА**. (Народная Воля, № 206)

## УЛАДЫ ЗАКРЫЛІ "ПАГОНЮ"

12-га лістапада Вышэйшы Гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь вынес пастанову спыніць дзейнасьць незалежнай газеты «Пагоня».. Вышэйшы гаспадарчы суд не прыняў да ўвагі аргументы прадстаўнікоў рэдакцыі газеты і Міністэрства інфармацыі, якое адмовілася ад зыску яшчэ да суда.

Беларуская асацыяцыя журналістаў выказала рашучы пратэст у сувязі з такім рашэньнем суда. БАЖ зьвязвае закрыцьцё газеты «Пагоня» і ліквідацыю яе рэдакцыі з абяцаньнем Аляксандра Лукашэнкі «разабрацца» з незалежнай прэсай пасьля выбараў. У гэтым жа шэрагу – працяг расьсьледаваньня крымінальных справаў, распачатых па факце публікацыі передвыбарчых матэрыялаў у газетах «Пагоня» і «Рабочы» і адмова Вышэйшага Гаспадарчага суда разгледаць зыск газеты «Брестский курьер» да Міністэрства адукацыі аб прызнаньні несапраўдным папярэджаньня.

З асуджэньнем рашэньня Вышэйшага Гаспадарчага суда РБ і заклікам спыніць палітычна матываваныя крымінальныя справы, датычныя незалежных выданьняў і журналістаў выступілі таксама Сусьветная кампанія за свабоду слова "Артыкль 19", Камітэт па абароне правоў журналістаў, Міжнародная ліга правоў чалавека і іншыя арганізацыі.

*********************



OFFICE OF THE GOVERNOR
JRTC, 100 WEST RANDOLPH, SUITE 16
CHICAGO, ILLINOIS 60601

GEORGE H. RYAN
GOVERNOR

December 1, 2001

Mr. Nikolas Prusky
Editor
Bielarusian Digest
1086 Forest Hills Ave, SE
Grand Rapids, MI 49546-3616

Dear Mr. Prusky:

As Governor of the State of Illinois, I would like to congratulate you on the 10th Anniversary of your publication, "Bielarusian Digest."

Illinois is comprised of many ethnic communities that join to form a great state while also maintaining their rich cultural individualities. Your publication serves as a vital link to the Bielarusian American community. Not only are your readers educated by its contents, but they also benefit by affirming an invaluable connection to their heritage.

On behalf of the people of the State of Illinois, I commend your dedication to the Bielarusian American community. The hard work that goes in to each and every publication is appreciated.

Sincerely,

George H Ryan

GEORGE H. RYAN
Governor

==========================================

## УКАЗ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 663

Аб мерапрыемствах па святкаванню 120-годдзя з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У сувязі з будучым святкаваннем 120-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай і сусветнай літаратуры, народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа пастанаўляю:

1. Зацвердзіць склад Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па правядзенню ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа (прыкладаецца).
2. Нацыянальнаму арганізацыйнаму камітэту распрацаваць і зацвердзіць план правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, прадугледзеўшы арганізацыйна-фінансавае забеспячэнне дадзеных мерапрыемстваў, шырокую інфармацыйна-растлумачальную, культурную, выдавецкую і міжнародную дзейнасць па прапагандзе творчай спадчыны народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.
3. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь забяспечыць фінансаванне ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.
4. Міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам аказваць садзейнічанне Нацыянальнаму арганізацыйнаму камітэту па правядзенню ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.
5. Дадзены Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка.**

*13 лістапада 2001 г., г. Мінск.*

**ЗАЦВЕРДЖАНА Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 13.11.2001 № 663**

***Склад Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па правядзенню ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа***

Дражын Уладзімір Несцеравіч — намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь (старшыня арганізацыйнага камітэта)

Гуляка Леанід Паўлавіч — міністр культуры (намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта)

Андрэйчанка Уладзімір Паўлавіч — старшыня Віцебскага аблвыканкама

Брыгадзін Пётр Іванавіч — міністр адукацыі

Буралкін Генадзій Васільевіч — старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў»

Ганчарэнка Уладзімір Іванавіч — міністр сувязі

Далгалёў Васілій Барысавіч — старшыня Брэсцкага аблвыканкама

Дамашкевіч Мікалай Фёдаравіч — старшыня Мінскага аблвыканкама

Дапкюнас Жанна Казіміраўна — дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы

Іпатава Вольга Міхайлаўна — старшыня грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў»

Камароўская Зінаіда Мікалаеўна — дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа

Корбут Мікалай Пятровіч — міністр фінансаў

Карэнда Іван Арсеньевіч — начальнік Дэпартамента сацыяльнай палітыкі Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы (з яго згоды)

Катляроў Ігар Васільевіч — старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу

Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч — прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Паўлаў Міхаіл Якаўлевіч — старшыня Мінскага гарвыканкама

Падгайны Міхаіл Васільевіч — міністр інфармацыі

Рыбакоў Ягор Уладзіміравіч — старшыня Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі

Саламаха Аляксандр Пятровіч — начальнік галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

Сівалобава Алена Аляксандраўна — начальнік упраўлення сацыяльна-культурнай сферы Апарату Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

Сычоў Аляксандр Мікалаевіч — намеснік міністра замежных спраў

Шымаў Уладзімір Мікалаевіч — міністр эканомікі.

* * *

## Без маралі грамадства гіне

Я пачаў азіраць цяперашняе жыццё, каб знайсці прыклады, дзе нашы ўлады шануюць Памяць і беларускасць. Цяжкая задача... А на памяць ідзе лёс герба "Пагоня" і нацыянальнага сцяга -- святыняў дзяржавы -- у дзяржаве лукашэнкаўскай. Апаганілі, зьбэсцілі і скінулі, парваўшы сцяг на шматкі...

Завітаў у школу. А там "русский дух, там Русью пахнет", родная ж мова няма месца, як няма месца п'есе Купалы "Тутэйшыя" на сцэне Купалаўскага тэатра. Такога дзікунства нідзе ў свеце не знойдзеце!

Зажадалася мне знайсці хоць у адной дзяржаўнай газеце краіны праўду пра наша цяперашняе жыццё. Не знайшоў. Так выконваецца абяцанне прэзідэнта забяспечыць у краіне свабоду слова. Зараз адбываецца суд над падазраваемым у многіх страшных злачынствах Ігнатовічам. Постаці згінуўшых вядомых палітыкаў Ю.Захаранкі, В.Ганчара, А.Майсені і іншых выдатных сыноў Беларусі стаяць перад вачыма. Помніцца і тая несусвецца, якую гаварыў аб іх лёсе кіраўнік краіны. І яго пахвальба: "У нас раньше не было сильной власти -- сейчас у нас сильная власть". Калі б яна і насамрэч была "сильной", то банда, якая знішчыла нямала самых розных людзей, была б даўно асуджана, а Курапаты мелі б статус і выгляд дзяржаўнага Пантэона...

Віктар СКАРАХОД.

## Выратаваньне Нясвіжскага замку

Урад прыняў пастанову «Аб рэстаўрацыі і прыстасаванні палацава-паркавага ансамбля ў Нясьвіжы». Згодна з дакументам, адзіным заказчыкам на распрацоўку і ажыццяўленне рэстаўрацыі і прыстасавання палацава-паркавага ансамбля XVI-XVIII стагоддзяў у Нясьвіжы (Мінская вобласць) вызначаны Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясьвіж».

На гэтыя мэты міністэрствам эканомікі, фінансаў, культуры пры фарміраванні дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы ў 2002-м і ў наступныя гады даручана прадугледжваць асігнаванні з улікам магчымасці рэспубліканскага бюджэту. Міністэрства фінансаў таксама павінна выдзеліць міністэрству культуры ў чацвёртым квартале гэтага года 100 мільёнаў рублёў на выкананне першачарговых і супрацьаварыйных работ у будынках ансамбля.

Мінскаму аблвыканкаму рэкамендавана прадугледжваць у 2002 годзе і ў наступныя гады выдзяленне фінансавых сродкаў для падтрымання ў рабочым стане кацельні і забеспячэння абагрэву будынкаў у перыяд рэстаўрацыі ансамбля.

Намеснік старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры міністэрстве культуры Іг... Чарняўскі станоўча ацаніў палажэнні дакумента аб аднаўленні замку Радзівілаў.

---

## Студэнты або тэрарысты?

У Камітэце дзяржаўнай бяспекі Беларусі не выключаюць, што ў краіне пад выглядам замежных студэнтаў могуць знаходзіцца асобы, што маюць дачыненне да міжнародных тэрарыстычных арганізацый.

Пра гэта 28 лістапада заявіў намеснік старшыні беларускага КДБ Валянцін Нікіцін, прадстаўляючы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу законапраект аб барацьбе з тэрарызмам.

Паводле ягоных слоў, цяперашнім часам у ВНУ і іншых навучальных установах Беларусі вучацца каля 3 тысяч іншаземцаў больш чым з 50 краін. Толькі ў Мінску, паведаміў Нікіцін, па лініі міжнароднага гуманітарнага абмену вучацца і працуюць каля 2 тысяч замежных студэнтаў. «Маюцца звесткі, што некаторыя з замежных камерцыйных структур, што дзейнічаюць у нашай рэспубліцы на рынку платнай адукацыі, з'яўляюцца фіктыўнымі, – сказаў Нікіцін. – Нельга выключыць, што сярод студэнтаў, аспірантаў, стажораў могуць быць асобы, датычныя да міжнародных тэрарыстычных арганізацый».

## "ХТО ЁСЦЬ ХТО Ў БЕЛАРУСІ — WHO'S WHO IN BELARUS — КТО ЕСТЬ КТО В БЕЛАРУСИ – 2001"

Пад гэкім загалоўкам выйшаў у Менску даведнік пра людзей, якія, як сказана ў кнізе, "актыўна ўплываюць на грамадзка-палітычнае жыцьцё Беларусі". Гэта ўжо трэцяе выданьне такога даведніка. Першыя два былі выдадзеныя паза межамі рэспублікі, адзін у Маскве (1999 г.), а другі ў Беластоку (2000 г.). Гэтым разам месца выданьня – Менск. Выдавецтва – "Мэджык Бук", а ўкладальнікі – творчы калектыў Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская пэрспэктыва": В. Голубеў, А.Смольскі, В. Трыгубовіч (каардынатар), А. Фядута й В. Чуйко. Новае выданьне абшырнейшае за папярэднія, у ім – каля 400 біяграфіяў. Прозьвішчы пададзіца ў расейскім, беларускім і англамоўным варыянтах, тэксты – па-расейску. Трансьлітарацыя прозьвішчаў у ангельскую мову дадзеная зь беларускага варыянту. Прыкладам:

АБРАМОВА Ольга Михайловна (Абрамава Вольга Міхайлаўна, Abramava Volha Mikhaylawna)

Які падбор прозьвішчаў у кнізе? "Мы прапануем, -- кажуць укладальнікі, -- знаёмства з прадстаўнікамі палітычных і дзелавых колаў Беларусі, дзеячамі навукі й культуры, лідэрамі няўрадавых арганізацыяў і журналістамі, якія ў тэй ці іншай меры ўплываюць на сытуацыю ў нашай краіне і на грамадзкую думку вакол яе. Мы імкнуліся прыцягнуць у сваё выданьне першых асобаў у кожным структурным фармаваньні, ці то Адміністрацыя прэзыдэнта, партыя або моладзевая арганізацыя, як мага паўней прадставіць спэктар палітычных арыентацыяў – ад прыхільнікаў камуністычных ідэяў да лібэральна-рынкавых, паказаць фармальных і нефармальных лідэраў краіны".

Укладальнікі слушна зазначаюць, што "чалавек на службе грамадзтву павінен быць даступным і зразумелым, 'празрыстым' для людзей". На Захадзе такія даведнікі – даўно стандартная рэч. У Беларусі ж робяцца толькі першыя крокі ды з пэўнымі цяжкасьцямі. Людзі на розных урадавых пасадах і няўрадавых становішчах ня хочуць тае "празрыстасьці", кожны дзеля сваіх прычынаў. Зьбіраць дадзеныя даволі складана. Шмат хто яшчэ баіцца ўсякага анкетаваньня. Весткі даводзіцца выдабываць з самых розных крыніцаў, не заўсёды лёгка даступных. І тым большая заслуга ўкладальнікаў ды выдаўцоў, што яны, перамагаючы ўсе цяжкасьці, запачаткавалі й працягваюць практыку выдаваньня такога даведніка.

У кожным артыкуле падаюцца, калі ведама, навуковая ступень, службовае становішча, займаныя пасады, узнагароды, дысэртацыі, апублікаваныя кнігі, судовыя перасьледы, веравызнаньне, сямейны стан, палітычная эміграцыя, а таксама бібліяграфічныя крыніцы з дадатковымі весткамі. Не падаюцца нацыянальнасьць, этнічнае паходжаньне.

Сымэтрычнасьці ў біяграфічных артыкулах няма дзеля вышэй адзначаных прычынаў: немагчыма дастаць поўную інфамрацыю. Гэтак, прыкладам, не заўсёды зазначана месца нараджэньня; далёка не ўва ўсіх асобаў падаецца веравызнаньне, партыйная прыналежнасьць. Але, трэба сказаць, у большыні выпадкаў весткі даволі поўныя.

Калі пераглядаеш даведнік, узьнікаюць розныя пытаньні. Бо як-ніяк, перад намі 394 асобы, уплывовыя людзі – эліта нацыі, вяршальнікі лёсу краіны. Усе яны – жыхары Беларусі, за выняткам Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, якая жыве ў Канадзе. Хто яны сваім месцам нараджэньня, векам, адукацыяй, полам, сямейным станам? Хоць, як сказана вышэй, не на ўсе падобныя пытаньні знойдзеш адказ, тым ня менш, прыблізнае ўяўленьне пра актыў краіны можна атрымаць. Гэтак, прыкладам, з пэўнасьцяй устанаўляем, што сярод пералічаных у даведніку 394 всобаў -- 46 жанчын. Актывісткі жаноцкага руху зробяць сабе з гэтага факту адпаведныя высновы.

Нас зацікавіла пытаньне пра месца нараджэньня кожнага з суб'ектаў. У 14 біяграфіях яно не пададзена, але з таго, што там напісана, можна меркаваць, што пераважная бальшыня зь іх нарадзілася ў Беларусі. Рэшта, 380 чалавек, паводле месца нараджэньня разьмяркоўваецца наступна: Беларусь – 210, Расея – 42, Украіна – 18, Казахстан – 2, Узбэкістан – 2. Таджыкістан – 1, Арменія – 1, Летвува – 1. Эстонія – 1, Ізраіль – 1, Уругвай – 1.

Ці можна з гэтых лікаў рабіць якія-небудзь высновы? Можна, але асьцярожна, асабліва з высновамі пра сувязь месца нараджэньня й нацыянальна-палітычнай дзейнасьці. Трэба не забывацца, што сучаснае беларускае грамадзтва нясе на сабе выразны адбітак савецкага часу. Тады, як памятаем, праводзілася палітыка "зьліваньня" нацыяў і нацыянальнасьцяў, сем'і вайскавікоў і цывільных службоўцаў пасылаліся ўладай на працу з аднае рэспублікі ў другую. Там радзіліся дзеці, якія пасьля вярталіся з бацькамі на іхную радзіму. У выніку тае палітыкі сёньня сярод актыўных удзельнікаў беларускага дэмакратычнага й нацыянальнага руху ёсьць ці мала людзей, што нарадзіліся (пераважна) у Расеі або ў якой іншай рэспубліцы. Да такіх належаць, прыкладам: Славамір Адамовіч, Алесь Бяляцкі, Валянтын Голубеў, Сяргей Грахоўскі, Валерый Карбалевіч, Іван Нікітчанка й інш.

Тая акалічнасьць, што ўраджэнцы Расеі беларускага й небеларускага этнічнага паходжаньня біруць актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным будаўніцтве, бязумоўна, ніяк не паслабляе крытыкі, што ў сілавых структурах РБ усталявалася вялікадзяржаўніцкае засільле этнічных расейцаў, якое, разам з промаскоўска настаўленымі беларусамі, становіць пагрозу беларускай дзяржаўнасьці й нацыянальнай культуры.

Даведнік "Хто ёсць хто ў Беларусі" выйшаў накладам 1000 экзэмпляраў. Яго можна выпісаць, паслаючы заказ на адрас "Беларускай пэрспэктывы": 220012 Мінск-12, а/с 225. Факс: (011-375-17) 227-13-16. E-mail: bp_inf@hotmail/com.

Даведнік – яшчэ адзін довад, што Міжнароднае грамадзкае аб'яднаньне "Беларуская пэрспэктыва" праводзіць выдатную дзейнасьць, а значыцца заслугоўвае ня толькі на падзяку, але й на ўсякую магчымую, у тым ліку фінансавую падтрымку.

*Янка **Запруднік** (ЗША)*

## XIV Зьезд БГКТ

Вялікую залу ў сядзібе ГП БГКТ у Беластоку запоўніла больш за 130 чалавек, якія 18 лістапада 2001 года прыбылі на XIV Зьезд Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. У гэты дзень спаткаліся людзі з усіх канцоў Беласточчыны, з Варшавы, Гданьска і прадстаўнікі ўлад Польшчы і Рэспублікі Беларусь. Зьезд пачаўся дзяржаўным гімнам Польшчы і беларускім гімнам „Магутны Божа" ў выкананні Данчыка.

У Зьездзе ўдзельнічала 79 дэлегатаў на 90 выбраных на павятовых канферэнцыях у Беластоку, Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Саколцы, Сямятычах, Варшаве і Гданьску. Зьезд адкрыў старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі, сардэчна вітаючы дастойных гасцей: амбасадара Беларусі ў Польшчы Мікалая Крэчку, генеральнага консула РБ у Беластоку Леаніда Каравайку, генеральнага консула РБ у Гданьску Міхася Аляксейчыка, а таксама нашых парламентарыяў і прадстаўнікоў цэнтральных і ваяводскіх улад…

У яўным галасаванні было выбрана 35-асабовае Галоўнае праўленне БГКТ і 7-асабовая Галоўная рэвізійная камісія. Пасля адбыліся пасяджэнні выбраных органаў для сфарміравання улад. Прэзідыум ГП БГКТ складаюць Ян Сычэўскі — старшыня, Мікалай Мікалаюк і Тамара Русачык — намеснікі старшыні, Валянціна Ласкевіч — сакратар, члены: Яўген Валкавыцкі, Васіль Ляшчынскі, Янка Забродкі, Сяргей Крышань, Лідзія Лук'янюк, Ніна Цыванюк, Віталіс Бонда. Рэвізійную камісію складаюць: Міхась Хмялеўскі — старшыня, Хвёдар Галёнка — намеснік старшыні, Кастусь Масальскі — сакратар. Паўторна выбраны старшыня Ян Сычэўскі падзякаваў гасцям і дэлегатам за ўдзел у працах Зьезду, а па ініцыятыве Алы Каменскай сабраныя адсьпявалі „Многае лета" і песню „Дзе б я не нарадзіўся".

* * *

Нам паведамляюць, што беларускіх незалежнікаў-патрыётаў моцна непакоіць факт цеснага супрацоўніцтва БГКТ з анты-беларускім рэжымам А. Лукашэнкі.

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!
### Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты... Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!

=====================

## *Нам Пішуць...*

### ТАКОЕ ШТОСЬ МОЖА РАБІЦЦА ТОЛЬКІ Ў ПАРЫЙНАЙ ДЗЯРЖАВЕ

Нам, далёка ад Бацькаўшчыны, прыкра і сорамна чытаць паведамленьні, што менская акружная дарога, пад прэтэкстам неабходнасьці яе пашырэньня, мае прайсьці праз Курапаты. У Курапатах, як ведама ўсяму сьвету, ляжаць ахвяры сталінскіх катаў. Дзеля аб'ектыўнасьці, трэба ўспомніць, што ў сёньняшняй Беларусі ёсьць апалагэты-эпігоны камуністычнага рэжыму, якія стараюцца даказаць, што забойствы ў Курапатах былі зробленыя... фашыстамі. Як доўга будуць яны прапагаваць сваю тэорыю, цяжка прадбачыць.

Гісторыя добра ведае падобныя камуністычныя хлусьні. Абаронцы сталінскіх забойстваў доўгі час абвінавачвалі фашыстаў у забойстве польскіх палонных афіцэраў у Катыні, назахад ад Смаленску. Замест прызнацца да забойстваў у Катыні, або маўчаць аб гэтым, камуністычна-бальшавіцкая прапаганда ўпарта абвінавачвала нямецкіх фашыстаў. Але раптам, пасьля 50-ці гадовай хлусьні, прызналіся. Толькі чамусьці забойцаў не знайшлі, нікога не судзілі і не зьбіраюцца судзіць... А чаму не?!

Прыйдзе час, калі камуністы прызнаюцца да забойстваў у Курапатах ды іншых месцах.

Што ў Курапатах ляжаць людзкія косьці і астанкі — ёсьць незапярэчным фактам. Гэта іх могліцы, некрапалі. Іхняе жыцьцё напэўна было цяжкім і скончылася трагічна Яны заслужылі на "Вечны супакой". Ды іхні "вечны супакой" хочуць заглушыць гусяніцамі бульдозераў ды грузавікамі ломячы і панявяраючы людзкія косьці.... Каму захацелася рабіць такое варварства? Ці-ж у ўрадзе прэзыдэнта Лукашэнкі няма людзей, якія маглі-б спыніць такія задумы, як пашырэньне дарогі праз Курапаты? Добра было-б ведаць і становішча самога А. Лукашэнкі. З другога боку няма чаму дзівіцца, што так творыцца на Беларусі, дзяржаве парыяў*). Ангельскія газэты пісалі, што прэзыдэнт Лу- кашэнка абярнуў Беларусь у парыйную дзяржаву... Вось што пісалася ў ангельскай газэце "The Times" 10.10. 2001 аб Беларусі і Лукашэнку: "...authoritarian president, Alexander Lukashenko, has turned the former Soviet republic /Belarus/ into pariah state..." Падобных выказваньняў у якіх крытыкуецца А. Лукашэнка можна часта спатыкаць у газэтах.

10.11. 2001 г. на ангельскім TV /BBC/ было паведамленьне, што ў Менску людзі пратэставалі супраць пашырэньня дарогі праз Курапаты. Міліцыя затрымала 10 асоб. Можна сьмела сказаць, што сярод пратэстантаў ня было камуністаў. Ведаем таксама і пра іншых сумленных людзей для якіх справа Курапатаў ня ёсьць абыякавай. Вось што яны зрабілі і што пра гэта пісалася ў газэце: *"...каб не дапусьціць нанесеньня ўрону мэмарыялу "Курапаты", група вядомых беларускіх пісьменьнікаў і вучоных, грамадзкіх дзеячоў падпісалі заяву..."* Дай Бог, каб іх заява не была "голасам крыку ў пустыні..."

У цывілізаваным сьвеце ня нішчаць, не руйнуюць магілаў. Такое робяць толькі варвары і хуліганы. Маральным абавязкам кожнага чэснага чалавека ёсьць ня толькі шанаваць магілы, але і не допускаць розных хуліганаў да зьдзекаў над магіламі "ўсопшых" ці замардаваных.

Адным з маральна-этычных абавязкаў сьвятароў усіх канфэсіяў павінна быць не допускаць да прафанацыі магіл. Дзеля таго, што ў Курапатах ляжаць астаткі праваслаўных, каталікаў габрэяў, пратэстантаў і мусульманаў, ці не пара мітр. Філарэту, кард. Сьвёнтку, габрэйскаму рабіну ды іншым зрабіць афіцыйную заяву-пратэст супраць пракладаньня дарогі праз Курапаты? Не зашкодзіла-б таксама духоўным пастырам напісаць адкрыты ліст Лукашэнку ў гэтай абуральнай сумленьне справе. Чаму яны маўчаць?

Ня ёсьць сакрэтам, што мітр. Філарэт і Лукашэнка маюць між сабою добрыя адносіны, але абодва чамусьці маўчаць пра злачынствы ў Курапатах...

***М. Шэдзюк**, Англія.*

*) Парыя — азначае асобу пазбаўленую рэлігійных, сацыяльных і інш. правоў. Гэта адкінутая паза права, бяспраўная, прыгнечаная істота.

